*Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі*

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

**№ 1 (4750) 3 студзеня 2014 г.**



## Пункцірам

✔ Будучыня Беларусі — у руках падрастаючага пакалення, заявіў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка на дабрачынным навагоднім свяце ў межах акцыі «Нашы дзеці», якое адбылося ў Палацы Рэспублікі. «Якім будзе заўтра Беларусі, залежыць толькі ад вас, ад вашага розуму і сэрца, — падкрэсліў Кіраўнік дзяржавы. — У кожнага з нас свае навагоднія надзеі. Але ва ўсіх ёсць адно агульнае жаданне. І гэта жаданне — быць больш шчаслівымі».

✔ У мэтах развіцця турызму, стварэння сучаснай турыстычнай інфраструктуры, якая будзе ўлічваць геаграфічнае становішча, прыродныя, гістарычныя і культурныя багацці Беларусі, а таксама выхавання ў грамадзян патрыятычнай гордасці і павагі да Айчыны 2014 год у Беларусі аб'яўлены Годам гасціннасці. Адпаведны ўказ 27 снежня падпісаў Кіраўнік дзяржавы.

✔ Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы прадставіць свае спектаклі кітайскай публіцы. Купалаўцы азнаёмяць з нацыянальным мастацтвам у час гастролей, якія пройдуць з 25 лютага па 10 сакавіка. Беларускія акцёры выступяць у Пекінскім народным мастацкім тэатры. У кітайскай сталіцы купалаўцы прадставяць спектаклі «Не мой» паводле аповесці Алеся Адамовіча ў рэжысуры Аляксандра Гарцуева і беларуска-расійскі спектакль «Вяселле» Уладзіміра Панкова па аднайменнай п'есе Антона Чэхава.

✔ Пераможцу конкурсу на стварэнне дызайн-праекта ўзнагароды Нацыянальнай тэатральнай прэміі назавуць у лютым 2014 года. Міністэрства культуры Беларусі падоўжыла тэрмін творчага спаборніцтва да канца студзеня. Матэрыялы павінны ўключаць дызайн-праект узнагароды, тлумачальную запіску з абгрунтаваннем мастацкай ідэі, апісанне прыза з указаннем памераў і рэкамендаваных матэрыялаў для яго стварэння. Малюнкі дызайн-праекта прадастаўляюцца на паперы і электронных носьбітах (на флэш-дыску, CD-дыску) або на электронную пошту: *art7@kultura.by*. Каб узяць удзел у конкурсе, неабходна да 31 студзеня падаць заяўку на адрас: г. Мінск, пр. Пераможцаў, 11, каб. 309. Конкурсныя матэрыялы трэба прадаставіць па адрасе: г. Мінск, вул. Энгельса, д. 7.

✔ Беларуская спявачка Гюнеш Абасава атрымала другую прэмію I Міжнароднага песеннага конкурсу *Turkvision*, фінал якога адбыўся ў турэцкім горадзе Эскішэхір. Пераможцам стаў прадстаўнік Азербайджана Фарыд Гасанаў, які набраў 210 балаў. Гюнеш саступіла 5 балаў і ў выніку стала другой. Трэцяе месца заняла спявачка з Украіны Фазіле Ібрагімава. У міжнародным конкурсе спаборнічалі ўдзельнікі з 24 краін.

✔ Жараб'ёўка выступленняў удзельнікаў нацыянальнага адбору на «Еўрабачанне-2014» адбудзецца 8 студзеня. Пра гэта паведамілі ў Белтэлерадыёкампаніі, якая прадаўжае падрыхтоўку да правядзення фіналу адборачнага тура міжнароднага конкурсу песні. Рэпетыцыі пройдуць 8 — 9 студзеня ў студыі «600 м» Беларускага тэлебачання. Генеральная рэпетыцыя адбудзецца раніцай у дзень фіналу — 10 студзеня.

Падрыхтавала
**Ярына РЫТАМІНСКАЯ**

*Фота Кастуся Дробава*



*Лаўрэатам прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва за 2013 — 2014 гады стаў народны мастак Рэспублікі Беларусь Іван Якімавіч Міско — навуковы супрацоўнік Музея гісторыі горада Мінска — за серыю скульптурных твораў, прысвечаных космасу, і помнік рускаму пісьменніку Сяргею Аксакаву.*

# Скарына: традыцыі і эвалюцыя

Завяршэнне мінулага года было адзначана вельмі важнай і значнай падзеяй для культуры нашай краіны. Нацыянальная бібліятэка Беларусі пры мецэнацкай падтрымцы ААТ «Банк БелВЭБ» распачала вялікі агульнанацыянальны праект па выпуску першага факсімільнага выдання поўнага збору кніг Францыска Скарыны. Ужо падпісана ў друк першая кніга гэтай унікальнай калекцыі.

Пра Францыска Скарыну і яго кнігі мы ведаем шмат, але ў той жа час мала… Застаецца шмат «белых плям» у біяграфіі, дагэтуль не вывучаныя і не выдадзеныя ў выглядзе факсіміле яго кнігі, да канца не ацэнены ўнёсак Скарыны ў фарміраванне і станаўленне беларускай мовы і культуры.

Першы намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Уладзімір Карачэўскі падчас урачыстай імпрэзы ў Нацыянальнай бібліятэцы падкрэсліў:

— Францыск Скарына — знакавая асоба ў гісторыі і культуры Беларусі. Менавіта таму адным з праектаў, які мае на мэце папулярызацыю кніжнай спадчыны нашага першадрукара, стала стварэнне электроннай бібліятэкі «Францыск Скарына — беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар». Ён уваходзіць у Дзяржаўную праграму «Культура Беларусі» на 2011 — 2015 гг. і прадугледжвае атрыманне па абмене або набыццё электронных копій усіх вядомых выданняў Ф. Скарыны і рукапісных версій кніг, што знаходзяцца ў сховішчах розных краін. У фондах Нацыянальнай Бібліятэкі Беларусі маецца толькі 10 пражскіх выданняў Біблії Скарыны, у цэлым жа ў свеце выяўлена каля 360 друкаваных асобнікаў. Сёння яны знаходзяцца ў бібліятэках і музеях Вялікабрытаніі, Германіі, Польшчы, Расіі і Украіны. Я лічу, што запуск такога буйнога праекта па ўзнаўленні друкаванай спадчыны Скарыны — вялікая культурная падзея ў жыцці нашай краіны.



Першая старонка шматтомнага факсімільнага перавыдання кніжнай спадчыны беларускага першадрукара Францыска Скарыны, выпушчанага ў межах сумеснага праекта Банка БелВЭБ і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

**Заканчэнне чытайце на стар. 9**

**Дарагія сябры!**

Мы добра папрацавалі ў мінулым годзе, але шмат што яшчэ наперадзе. Няхай 2014-ы прынясе вам натхненне на новыя творы, а вашыя кнігі знойдуць сваіх чытачоў.

Мы ўсе робім адну вялікую справу — ствараем літаратуру Айчыны, а значыць, ад нас залежыць будучыня нашай краіны і яе моладзі, дбаць пра якую — першасная задача творцаў!

Жадаю, каб у новым годзе ў нас было шмат прыемных нагод для сустрэч. Моцнага здароўя вам і творчага плёну!

**Старшыня**
**Саюза пісьменнікаў Беларусі**
**Мікалай Чаргінец**

# Стары Запавет у літаграфіях

Напярэдадні самых чароўных зімовых свят «Кніжны салон» зрабіў калядны падарунак гасцям і сябрам сталічнага бібліяфільскага клуба «Ad librum» — выстаўку «Урывак са Святога Пісання» з біблейскімі сюжэтамі ва ўнікальнай падборцы гравюр мастачкі Марыны Капілавай.

— Творца ўразіла мяне сваімі скульптурамі, што склалі невялікую экспазіцыю ў галерэі «Ў», — распавяла ў прывітальным слове дырэктар «Кніжнага салона» Ала Зміёва. — Але на той момант я не ведала, што ў яе ёсць яшчэ і выдатная графіка!.. У работах, прысвечаных Старому Запавету, бачна ўсё яе майстэрства. Акрамя таго, у падарунак яна зрабіла для мяне экслібрыс. Шчыра кажучы, такога тонкага кампліменту, выкананага жаночай рукой, я яшчэ ніколі не атрымлівала.

Звычайна за мастака прамаўляюць яго работы, але Марына Капілава на адкрыцці сваёй выстаўкі выказалася важка: «Няма нічога цяжэйшага на свеце за прыняцце ўхвалы. Гэта абавязвае адпрацоўваць стаўленне людзей».

Завітаў у «Кніжны салон» і Рыгор Сітніца, новы старшыня Саюза мастакоў:

— Я прыйшоў адпачыць душою і трапіў у бязмежную шчырасць і чысціню, таму і шчаслівы. Дырэктар і супрацоўнікі «Кніжнага салона» паказалі ўсім добры прыклад: не трэба чакаць, пакуль нехта дапаможа «зверху», стварайце самі тое асяродзе, дзе вам будзе прыемна і ўтульна.

З мастачкай Марынай Капілавай мы вучыліся ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце. Яе цяжка было не заўважыць — настолькі пазітыўнае і прыгожае аблічча, якое, дарэчы, зусім не змянілася. Яе работы — узор высокай духоўнасці і прафесіяналізму, якраз тое, чаго бракуе сёння.

Бронзавае ліццё, кераміка, мастацкі метал (ювелірная і дэкаратыўная пластыка), аўтарскія лялькі, станковая і кніжная графіка, калаж — асноўныя напрамкі, у якіх працуе мастачка. Аднак апошнім часам Марына Капілава аддае перавагу скульптуры і літаграфіі.

**Таццяна ШЫМУК**

**Віншуем юбіляраў!**

***У студзені нарадзіліся:***

Мікола Леўчанка (01.01.1954)
Уладзімір Ягорычаў (01.01.1949)
Зміцрок Марозаў (02.01.1954)
Мікола Шабовіч (04.01.1959)
Анатоль Бензярук (04.01.1969)
Алесь Карлюкевіч (06.01.1964)
Алесь Савіцкі (08.01.1924)
Міхась Мамонька (13.01.1929)
Пётр Радзечка (18.01.1939)
Васіль Найдзін (19.01.1944)
Маргарыта Латышкевіч (19.01.1989)
Арнольд Дыбча (22.01.1939)

Зычым калегам плённых спраў на карысць людзям і Айчыне!

# Дзе вы, суайчыннікі?

Новая кніга доктара філалагічных навук, гісторыка культуры, беларусіста Адама Мальдзіса «Соотечественники» складаецца з нарысаў, эсэ, артыкулаў, якія раней, на працягу некалькіх гадоў, былі надрукаваны ў газеце «СБ. Беларусь сегодня» і прысвечаны нашым суродзічам, якія засведчылі сябе ў іншых краінах.

Фактычна ўсе тэмы і персанажы распрацоўваліся дасведчаным аўтарам і раней, пачынаючы з 1950 — 1960-х гг. Былі і публікацыі. Пачыналася ўсё з выступленняў у радашковіцкай раённай газеце. Але Адам Мальдзіс уважлівы да сваіх персанажаў. І калі праз гады знаходзяцца новыя факты, калі прыходзіць час да новага погляду, то вучоны і пісьменнік вяртаецца да раскрыцця лёсу тае ці іншай асобы. І ўжо сёння перад намі ў кнізе і газетных выступленнях на старонках «СБ. Беларусь сегодня» — новы ўзровень асвятлення жыццяпісаў цікавых, адметных суайчыннікаў.

Першае знаёмства — з Соф'яй Гальшанскай. Адам Мальдзіс пераканаўча (і прыводзіць неаспрэчныя аргументы), што Соф'я з'яўляецца адзінай каралевай-беларускай. Гэтая перакананасць прыцягвае да чытання! Так неўпрыкмет прачытваеш кнігу адным заходам, не перапыняючыся. Піша прафесар займальна, умее стварыць інтрыгу, захапіць увагу нават самага далёкага ад гістарычнай тэматыкі чытача.

Дарэчы, колькі слоў пра саму серыю «Беларусь учора і сёння», у якой пабачыла свет ужо некалькі кніг. Серыя складаецца з газетных выступленняў розных аўтараў. Выдавецкі дом «Звязда» (а раней — РВУ «Літаратура і Мастацтва») падарылі чытачу зборнікі Людмілы Рублеўскай, Віталя Скалабана і таго ж Адама Мальдзіса (ранейшая яго кніга ў серыі носіць назву «Белорусские сокровища за рубежом»). Магчыма, адразу пасля публікацыі артыкула ў газеце і не ўзнікае жадання яго перачытаць. А вось з часам з'яўляецца іншае перакананне: раскіданыя па газетах рознага часу артыкулы, нарысы вартыя ўзнаўлення ў памяці. Хацелася б мець іх пад рукой. Чаму — не кнігай, пад адной вокладкай?..




*Соотечественники: очерки о белорусах и уроженцах Беларуси, обогативших мировую культуру / Адам Мальдис. — Минск: Издательский дом «Звязда», 2013. — 336 с. — (Беларусь вчера и сегодня).*

У зборніку, прысвечаным суайчыннікам, з цікавасцю чытаюцца літаральна ўсе нарысы. Складваецца ўражанне, што аўтар падарожнічае разам са сваімі героямі. Эмацыянальны, выразна рэльефны расповед дапамагае нам перанесціся з Нямцэвічам у ЗША, з Янушкевічам — у Казахстан, з Дамейкам — у Чылі, са Скарынай — у Прагу… Расказваючы пра сваіх герояў, Адам Мальдзіс не забываецца распавесці пра клопаты, што звязаны з мемарыялізацыяй іх дзейнасці, ушанаваннем імёнаў у назвах, перавыданнем творчай спадчыны. Стараецца адсачыць радаводныя дрэвы, хаця б коратка згадаць пра нашчадкаў славутых падарожнікаў, вучоных, асветнікаў, кампазітараў. Часам адчуваеш некаторую няёмкасць, калі аказваецца, што таго ці іншага суайчынніка болей памятаюць у чужой краіне, чым у нас дома. Але ж, пэўна, дзеля гэтага і пішуцца падобныя тэксты, ствараюцца падобныя кнігі, каб абудзіць памяць, аказаць уплыў на грамадскую думку.

Як на мой прыватны погляд, кніга «Соотечественники» нагадала пра шэраг актуалій кнігавыдавецкай і папулярызатарскай работы ў галіне гісторыі. Здаецца, у апошнія два — два з паловай дзесяцігоддзі асабліва шмат зроблена для раскрыцця лёсаў многіх выбітных дзеячаў культуры, асветніцтва, многіх выдатных нашых землякоў. З'явіліся аўтары, якія на гэтай ніве зрабілі выключна шмат. Як прыклад — Алесь Марціновіч, Валерый Ярмоленка, Валянцін Грыцкевіч, Уладзімір Кісялёў, Андрэй Кіштымаў… І ўсё ж некаторыя ініцыятывы не атрымалі шырокага развіцця. У выдавецтвах «Полымя» (злілося з выдавецтвам «Беларусь») і «Навука і тэхніка» (цяпер — «Беларуская навука») выходзілі серыі з аднолькавай назвай «Нашы славутыя земляки». Цяпер разам з пераходам з рэдкай перыядычнасцю серыя «Нашы славутыя землякі» выходзіць толькі ў выдавецтве «Тэхналогія». Доўгія гады не можа прыйсці да чытача другое, істотна дапоўненае выданне энцыклапедычнага даведніка пра ўраджэнцаў Беларусі ў блізкім замежжы. Першае выданне гэтай кнігі стала літаральна рарытэтам. Так, выходзяць кнігі пра суайчыннікаў у рэгіёнах. З апошніх прыкладаў — зборнік пра ўраджэнцаў Віцебшчыны ў свеце. Часам кнігі такога кшталту з'яўляюцца і за межамі Беларусі.

Магчыма, большую ініцыятыву ў падобнага роду справах магло б праявіць такое дзяржаўнае выдавецтва, як «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі». Там ёсць дасведчаныя рэдактары, знаўцы айчыннай і сусветнай гісторыі. І каму, як не ім, разумець вартасці папулярнага выкладання надзвычай істотнай тэмы — прысутнасці беларусаў і Беларусі ў свеце.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

***Імпрэзы***

# Не здавайся часу

Слова — гэта з'ява, гэта дыханне душы. Такое меркаванне стала своеасаблівым лейтматывам імпрэзы, якая днямі адбылася ў сталічнай бібліятэцы № 22 у межах літаратурных сустрэч клуба «Шчырасць», створанага па ініцыятыве Мінскага гарадскога аддзялення СПБ.

Ганаровым госцем гэтым разам стала вядомая паэтэса Валянціна Паліканіна, творчасць якой не толькі не пакідае абыякавым слухача, але кранае патаемныя струны чалавечай душы, расчульвае да слёз. А нагодай для сустрэчы стала доўгачаканая для шматлікіх прыхільнікаў таленту паэтэсы кніга «Не сдавайся времени, душа!», што пабачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура». У выданне ўвайшлі вершы на рускай і беларускай мовах, пераклады і празаічныя творы.

Загадчык бібліятэкі Наталля Ярашэвіч з хваляваннем выказала словы павагі да творчасці паэтэсы. І прызналася, што сама з'яўляецца даўняй прыхільніцай яе несумненнага таленту.

Віншаваў Валянціну Паліканіну старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў.

Сугучна з вершамі паэтэсы на працягу вечарыны кранала сэрца музыка ў выкананні ансамбля скрыпачоў 192-й сталічнай гімназіі з музычным ухілам. Песня, якая прагучала ў выкананні Вольгі Патрый на словы Валянціны Паліканінай, без перабольшвання, уразіла прысутных сваёй пранізлівасцю.



*Аўтограф ад Валянціны Паліканінай.*

Удзельнікі імпрэзы з задавальненнем слухалі пераклады на беларускую мову паэтаў Міколы Шабовіча і Іны Фраловай, якія, па словах самой аўтаркі, упрыгожылі і ўзбагацілі яе кніжку.

**Ганна СТАРАДУБ,**
**фота аўтара**

# Аўтараў!

«Залатая калекцыя беларускай песні» — такую назву атрымаў вялікі святочны канцэрт, што адбыўся ў Палацы Рэспублікі. Тэлеверсію яго можна будзе паглядзець на канале СТБ 7 студзеня.

Пры поўным аншлагу больш як тры гадзіны доўжылася канцэртная праграма, у якой удзельнічалі зоркі беларускай эстрады, маладыя выканаўцы і ганаровыя госці. Сярод іх — народныя артысты Беларусі Анатоль Ярмоленка, Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч, Мікалай Скорыкаў, народны артыст Малдовы Іон Суручану, народны артыст Узбекістана Мансур Ташматаў і народны артыст Расіі Алег Газманаў, ансамблі «Фрыстайл» (Украіна), «Арыэль» (Расія) ды іншыя. Прагучалі лепшыя беларускія песні розных гадоў.

Актыўны ўдзел у канцэртнай праграме бралі і аўтары песень — паэты і кампазітары. Былі сярод іх і супрацоўнікі Выдавецкага дома «Звязда». Так, на словы Алеся Бадака ў выкананні Аляксандра Саладухі прагучаў хіт «Заваражаная фея», а Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч спявалі песню на верш Уладзіміра Мазго «Свята вачэй».

**Уладзімір ПРАХАРЭНКАЎ**

Гомельскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі выказвае спачуванне члену СПБ паэтэсе Агінай Алене Аляксандраўне ў сувязі з напаткаўшым яе горам — смерцю МАЦІ.

# «Маладосць» Кулакоўскага

**Вечар з такой двухсэнсоўнай назвай прайшоў у цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Талстога. Арганізатарамі выступілі Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры і рэдакцыя часопіса «Маладосць».**

Ёсць пісьменнікі, пажыццёвыя юбілеі якіх не адзначаюцца шырока, тым не менш яны застаюцца легендамі — дзякуючы ўпартасці і апантанасці зацікаўленых у гэтым асоб. Часопіс «Маладосць» не пакінуў па-за ўвагай 100-годдзе свайго першага галоўнага рэдактара Аляксея Кулакоўскага: літаральна ў дзень яго нараджэння, 23 снежня, рэдакцыя сабрала гасцей за святочным сталом, на якім стаялі… шахматы — самая «маладосцеўская» гульня! Побач — партрэт юбіляра. Аляксей Міхалаевіч — з ручкай у адной руцэ і акулярамі ў другой — усім сваім выглядам і выразам твару даказвае: атмасфера ў «Маладосці» — душэўная, творчая і з «гумарынкаю».

Гэтае апошняе ў юбілейны для часопіса год святочнае мерапрыемства сталася сапраўды душэўным, па-хатняму ўтульным і — з «гумарынкаю», якую забяспечвалі некаторыя элементы антуражу. Падвойная нагода падказала і падвойны фармат — вечарына-выстаўка. Госці, распавядаючы пра юбіляра, мелі магчымасць шматкроць звяртацца да прадметаў, якія суправаджалі пачатак гісторыі выдання, а цяпер з'яўляюцца яго ганаровымі экспанатамі. Загад № 1 — ад 1 сакавіка 1953-га, за подпісам Кулакоўскага, аб стварэнні часопіса і прызначэнні яго, Кулакоўскага Аляксея Нікалаевіча, на пасаду *адказнага* рэдактара. «Маладосць» № 5 за 1958-ы — з «лёсаломнай» аповесцю «Дабрасельцы», «Маладосць» № 9 за той самы год, але ўжо з ударам па «Дабрасельцах»...

Пачыналі з мастацкага слова. Самы, бадай, смачны ўрывак з «Дабрасельцаў» прачытаў акцёр Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Горкага Валерый Шушкевіч. Працягвалі ўспамінамі. Алесь Жук расказаў пра тое, якім чалавекам быў пісьменнік Кулакоўскі. Узгадваў абеды ў літаратурным кафэ і сустрэчы ў кнігарні. Прымусіў усміхацца. Смяяліся, калі Алесь Камароўскі вымушаны быў зняць трубку тэлефона і адказаць на званок не сваім голасам. Тэлефон быў, дарэчы, чароўным: у сённяшнюю рэдакцыю патэлефанаваць з яго немагчыма, а пачуць званок з мінулага — прасцей простага.

Узгадвалася легендарнае машэраўскае крэсла. Закраналася тэма жанчын і кахання. Разважалі пра Кулакоўскага-франтавіка і ганарыліся ім як выдатным дырэктарам музея Янкі Купалы.

Спяваліся песні — іх дарыў гасцям Дзмітрый Пятровіч.

А галоўнае — у зале прысутнічалі школьнікі. Магчыма, нехта з іх успомніць гэты вечар, рыхтуючыся да выступлення ў год, калі «Маладосці» будзе 100, а Кулакоўскаму — 140.

**Святлана ВОЦІНАВА**

# Гісторыя... на ёлцы



У Жодзінскай цэнтральнай бібліятэцы адкрылася выстаўка савецкіх ёлачных цацак «Крохкія ўспаміны». На некалькі імгненняў яе наведвальнікі апынуліся ў сваім дзяцінстве, калі ёлка, упрыгожаная яркімі шарыкамі, гірляндамі, цукеркамі і зоркай на макушцы, была галоўным атрыбутам свята. Трэба адзначыць, што арганізатарам экспазіцыі ўдалося поўнасцю ўзнавіць атмасферу таго часу. Паштоўкі і газеты 50-х гадоў, шары з савецкай сімволікай і выявамі правадыроў, фігуркі касманаўтаў і ватныя цацкі. З густам падабрана музычнае афармленне выстаўкі: са старэнькага прайгравальніка гучыць класіка, без якой не абыходзіўся ніводны Новы год — музыка з балета «Шчаўкунок». Раз-пораз б'е стары насценны гадзіннік.

Самой выстаўцы папярэднічала вялікая праца супрацоўнікаў бібліятэкі. Геаграфія пошукаў ёлачных цацак — Мінск, Капыль, Баранавічы, Мазыр... Каб набыць сапраўдных ватных Дзядоў Марозаў, ды яшчэ у добрым стане, спатрэбілася нават ехаць у Вільнюс.

— Людзі з ахвотай перадавалі нам ёлачныя цацкі, — кажа мастак Жодзінскай цэнтральнай бібліятэкі і ідэйны арганізатар выстаўкі Алена Пятроўская. — Толькі многія засмучаліся, што з цягам часу нешта пабілася ці згубілася. А тыя, хто першапачаткова аддаў экспанаты толькі на час выстаўкі, пабываўшы на ёй, вырашылі іх пакінуць як падарунак, бо такая прыгажосць павінна радаваць усіх!

Сама цацка — унікальная рэч. Па ёй можна прасачыць гісторыю краіны, калі ёлка з каляднай ператварылася ў савецкую. Шасціканцовую Віфлеемскую зорку замяніла пяціканцовая, анёлы ператварыліся ў піянераў і чырвонаармейцаў. Серп і молат з'явіліся і на ёлачных цацках. А яшчэ — хрушчоўская кукуруза, і касманаўты, і спадарожнік «Мір». Усё гэта і шмат чаго іншага можна ўбачыць на выстаўцы.

**Віталь ЖУРАЎСКІ, фота аўтара**

*Добрая навіна*

# З пазнакай *SLUCK*

**Яшчэ два месяцы таму ў Слуцку не было ніводнага арыгінальнага слуцкага пояса. У фондах тутэйшага краязнаўчага музея захоўвалася толькі некалькі невялікіх фрагментаў знакамітых рарытэтаў. Абвясцілі нават дабрачынную акцыю па зборы сродкаў для выкупу ўнікальнай рэчы ў прыватнага калекцыянера.**

І вось прыемная навіна: на пачатку снежня мінулага года ў Галерэі мастацтваў урачыста прадставілі сапраўдны слуцкі пояс, куплены пры фінансавай падтрымцы жыхароў Случчыны. Дырэктар мясцовага краязнаўчага музея Наталля Серык выказала словы шчырай падзякі ўсім, хто дапамог прыдбаць каштоўны экспанат, бо для горада, які выбітныя паясы праславілі на ўвесь свет, набыццё рарытэта — вельмі важная падзея. Як зазначыла кіраўнік музейнай установы, часцей за ўсё турысты прыходзілі сюды паглядзець менавіта на слуцкія паясы і вельмі здзіўляліся, калі даведваліся, што якраз у слуцкім музеі іх і няма!

Паводле заключэння камісіі па экспертызе твораў выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, пояс выматканы з шаўковых, срэбных і срэбна-пазалочаных («залотнай») нітак. Выраб — двухбаковы, чатырохасабовы, паўліты… Агульная стылістыка паказвае, што ён створаны на мануфактуры Слуцка паміж 1762 і 1780 гадамі.

У хуткім часе кожны зможа ўбачыць адмысловы ўзор гэтага рарытэта, а яшчэ — пазнаку «SLUCK» і... нават уявіць сябе высакародным шляхціцам, які носіць такое багацце. Дарэчы, у музейных калекцыях Беларусі ўсяго 11 цэлых слуцкіх паясоў, з іх 5 вытканы на слуцкай мануфактуры. Набыты рарытэт — шосты.

— Гэта самы каштоўны з сарака тысяч экспанатаў нашага музея, — зазначыла Наталля Серык. — Мы рыхтуем экспазіцыю для дэманстрацыі слуцкага пояса, гэтую выстаўку можна будзе наведаць. Такім чынам гістарычная несправядлівасць нарэшце выпраўлена.



Сёння ўнікальныя творы прыкладнога мастацтва другой паловы XVIII ст. у сваіх калекцыях маюць пяць беларускіх музеяў: Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей, Мінскі абласны краязнаўчы музей, Нацыянальны гістарычны музей, Літаратурны музей Максіма Багдановіча і Музей старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. А вось колькі паясоў знаходзіцца ў прыватных калекцыях, невядома.

**Васіль ЦІШКЕВІЧ**

*Цікавы досвед*

# Да першых пеўняў

Мерапрыемства пад інтрыгуючай назвай «Ноч у бібліятэцы» набывае прыхільнікаў сярод кнігалюбаў Смаргоншчыны.

Адна справа — правесці ноч, захапіўшыся чытаннем, ва ўласнай кватэры і зусім іншая, калі цябе запрашаюць на вечарыну, якая можа доўжыцца «да першых пеўняў».

Традыцыйныя Калядныя сустрэчы, выстаўкі-віншаванні, гульнёвыя праграмы і ранішнікі праводзяцца напярэдадні навагодніх свят ва ўсіх без выключэння ўстановах Смаргонскай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы. Больш за тое, супрацоўнікі прапаноўваюць віншавальныя візіты на дом. Хто, як не бібліятэчныя работнікі, больш ведае пра чытацкія густы, асабліва дзяцей малодшага ўзросту!

Хлопчыкі ды дзяўчынкі з непадробнай радасцю чакаюць дасведчаных, сучасных Дзеда Мароза і Снягурку менавіта з бібліятэкі, а разам з імі яшчэ і самых папулярных сёння сучасных казачных персанажаў. Напрыклад, Фею Вінкс, якая выконвае самыя неверагодныя пажаданні. А яе запрашэнне стаць чытачом і пастаянным наведвальнікам чароўнага дома кнігі многія ўспрымаюць з энтузіязмам і мараць пра хуткія сяброўства з бібліятэкай.

Разам з цэнтральнымі Дамамі культуры многія сельскія бібліятэкі рыхтуюць навагоднія балі. Супрацоўнікі Ракавецкай бібліятэкі-клуба вырашылі наогул не зачыняць дзверы ў навагоднюю ноч: запрасілі на зімовае свята ўсіх жадаючых!

А яшчэ супрацоўнікі бібліятэчнай сістэмы будуць браць удзел у чарговым тэатралізаваным шоу-конкурсе «Сход пад Новы год». Сёлета «навагодняя» каманда ЦБС падрыхтавала да гарадскога шэсця Дзядоў Марозаў праграму «Новы год сустракаем разам». Для гараджан гэта казачны парад па цэнтральных вуліцах горада — першае святочнае развітанне з адыходзячым годам, а для ўдзельнікаў — генеральная рэпетыцыя ўваходзін у новы, 2014-ы.

**Ала СТРАШЫНСКАЯ**

*Абрысы*

Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь і Музей беларускага народнага мастацтва ў в. Раўбічы запрашаюць на выстаўку «беларускі народны абраз XIX стагоддзя». Экспазіцыя адкрытая для наведвальнікаў з 22 снежня 2013 па 1 сакавіка 2014 года. Беларускі народны абраз — гэта велізарны пласт беларускай духоўнай культуры і іканаграфічнага мастацтва, малавывучаны да гэтага часу. На выстаўцы ў Раўбічах прадстаўлена 44 абразы з прыватнай калекцыі Дзмітрыя Сабаніна, адрэстаўраваныя спецыялістамі Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь.

Першы фестываль батлейкі «Масленікаўскія калядкі» адкрыўся ў Магілёўскім абласным мастацкім музеі імя Паўла Масленікава. На працягу месяца з тэатралізаванымі паказамі ў Магілёве выступяць творчыя калектывы з розных гарадоў Беларусі, Расіі, Чэхіі. Пройдуць выстаўкі вырабаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, старадаўніх навагодніх цацак, майстар-класы па вырабе сувеніраў, беларускія гульні і забавы. Фестываль адкрылі паказы адразу пяці народных тэатраў з Магілёва, Нясвіжа і Санкт-Пецярбурга. «Батлейка — адзін з самых цікавых відаў тэатральнага мастацтва. Спадзяёмся, што ідэя аб'яднаць адным фестывалем таленавітых людзей, якія адраджаюць традыцыі, спадабаецца магіляўчанам», — адзначыла намеснік дырэктара музея Святлана Строгіна.

Апошнімі снежаньскімі днямі ў Гомельскай цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя А. І. Герцэна ў межах праекта «Жывы аўтограф» адбылося адкрыццё персанальнай мастацкай выстаўкі «Прыгажосць выратуе свет» мазыранкі Галіны Пілевіч. У экспазіцыю ўвайшло 22 аўтарскія абразы. На работах прадстаўлены лікі святых — Кацярыны Александрыйскай, Сафіі Слуцкай, Аляксандра Неўскага, Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага і інш. Галіна Пілевіч — асветнік, педагог, мастак. Выкладала рускую літаратуру ў праваслаўнай школе пры манастыры ў горадзе Пачаеў Львоўскай вобласці. З іншымі мастакамі распісвала Успенскі храм Пачаеўскага манастыра.

Прыемная навіна для тых, хто прагне дазнацца пра лёс энцыклапедычнага даведніка «Сузор'е беларускага памежжа: Беларусы і ўраджэнцы Беларусі ў суседніх краінах». Адам, Яраслаў і Аляксей Мальдзісы паведамляюць, што навуковае рэдагаванне, а таксама і карэктура звярстаных старонак дайшлі да літары «Н». Ёсць надзея, што доўгачаканая кніга пабачыць свет у першым квартале 2014 года. Заказы на выданне трэба накіроўваць у выдавецтва «Энцыклапедыкс»: *encyclopedix@tut.by*.



Фота Кастуся Дробава

## Змітрок МАРОЗАЎ



«Пішу пра перажытае, пра тое, што хвалюе, трывожыць, радуе і баліць, — гаворыць пра сябе вядомы беларускі паэт Змітрок Марозаў, якому ў навагоднія дні спаўняецца 60 гадоў. — Маю творчасць сілкуе родная Крупшчына, найпрыгажэйшае ў свеце возера Сялява, мая радзінная вёска-калыска Язбы, дарагія сэрцу родзічы і землякі...»

Аграном па адукацыі, свае першыя зборнікі вершаў Змітрок Марозаў назваў даволі сімвалічна: «Пад небам бусліным», «Хлебны верасень», «Хлеб і памяць». На сённяшні дзень ён — аўтар больш як 20 кніг паэзіі і прозы, напісаў першы ў еўрапейскай літаратуры вянок вянкоў санетаў «Апакаліпсіс душы». Лаўрэат многіх літаратурных прэмій.

### Храм

*Я збудаваў свой Храм са слоў прыгожых,*
*Нібы з цаглін, апаленых агнём...*
*Было ў тым храме сэрцу гэтак гожа*
*Завейнай ноччу, навальнічным днём.*
*Свае пачуцці, мроі і памкненні*
*За сцены храма я не адпускаў,*
*А слухаў толькі музыку натхнення.*
*На мітусню ж увагі не звяртаў.*
*Але аднойчы ноччу Шляхам Млечным*
*Сышоў, як прывід, старац да мяне.*
*«Твой храм — турма, а ты ў ім —*
*вязень вечны», —*
*Пачуў я ціхі голас, як у сне.*
*Зямлі ты зрокся, чалавеча мілы,*
*Не чуеш стогну гоняў і бароў.*
*Каму касіць? Каму араць? З магілаў*
*Ты не падымеш песняй плугароў.*
*Быў гэты вырак як пад сэрца ножык,*
*Як перуновы стрэл сярод зімы...*
*Я зруйнаваў свой храм са слоў прыгожых*
*І разараў пад жыта дол нямы.*
*Рунець яму ціхмяным днём асеннім,*
*Шаптацца жыту з ветрам веснавым...*
*Мае ж пачуцці, мроі і памкненні*
*Над ім паплачуць дождЖыкам жывым.*

### У прыгараднай электрычцы

*Чытаў я вершы ў электрычцы*
*Пра хлеб, пра маці, пра любоў...*
*Дзяўчынка з моднай касметычкай,*
*Бабулька з торбай буракоў,*
*Жанчына, з твару — Магдаліна,*
*Мой вольны слухалі радок...*
*Ды раптам голас: «Кінь, мужчына,*
*Не баламуць людзей, браток!»*
*Нібы здрапежаны палонны,*
*Я ў сэрцы халадок адчуў...*
*«Хто Вы?»*
*«Ніхто. Твой цень няўлоўны,*
*Я за табой даўно сачу!».*
*Люд еў і спаў у электрычцы, —*
*Ніхто не чуў апошніх слоў...*
*Дзяўчынка з моднай касметычкай,*
*Бабулька з торбай буракоў.*

### Пачатак дня

*Світальныя аблокі*
*Над гаем зацвілі...*
*Я ад людзей далёкі,*
*Як неба ад зямлі.*

*Мне любы луг вясновы*
*З буслямі ля ракі.*
*Душою я вясковы,*
*А сэрцам гарадскі.*

*На долю не ківаю,*
*Нясу гадоў цяжар.*
*І новы дзень вітаю,*
*Як самы светлы дар.*

* * *

*Ад радзіннага крыку*
*Да апошняга кроку*
*Шлях жыццёвы нялёгкі,*
*Шлях жыццёвы далёкі.*

*Ад калыскі сасновай*
*Да зары вечаровай*
*Шлях жыццёвы суровы...*
*А за ім — толькі словы.*

### Жніўнае

*Травы ў пацерках расы,*
*Даспявае жыта.*
*Мне спяваюць каласы*
*Песні жней забытых.*

*Больш ніхто не чуе іх,*
*Звонкіх, меладычных...*
*Нават жаўранак заціх*
*У сіняве крынічнай.*

### Бяда

*Згарэла хата. Цётка Ксюша*
*Адна на попеле стаіць,*
*Кійком пражытае варушыць,*
*Нібыта сон сасннёны сніць.*
*Вачыма свет пусты пытае:*
*«Дзе людзі?*
*Дзе радня?*
*Дзе Бог?..»*
*І толькі котка спачувае —*
*Дымком віецца каля ног.*

### Шлях

*Па першапутку Памяці блукаў,*
*Сляды забытых родзічаў шукаў...*
*Няўжо быў памылковым гэты шлях?..*
*Стаю, самотны, ў студзеньскіх палях.*

*Відаць, мне век не адшукаць слядоў*
*Тых, хто адсюль у нікуды пайшоў.*

### Бэзу кіпень...

**Верш, напісаны пад уражаннем карціны «Пах бэзу» мастака У. В. Урадніча**

*Бэзу кіпень. Ранак весні.*
*Постаць маці на двары.*
*Сын з каханай каля весніц...*
*Хутка шлях іх забярэ.*
*Мне да слёз такі знаёмы*
*Сад ва ўбранні маладым,*
*Быццам сам гасцюю дома*
*На спатканні з ранкам тым.*
*Бачу вёсачку лясную*
*І бусліныя дубы...*
*Зноў гармонік дзядзькаў чую*
*Поўны шчасця і журбы.*
*...Ад «Сланечнікаў» Ван Гога*
*Шмат у сэрцы цеплыні,*
*Ды няма радней нічога*
*Гэтай сціплай чысціні:*
*Бэзу кіпень. Ранак весні.*
*Постаць маці на двары.*
*Сын з каханаю ля весніц...*
*Хутка шлях іх забярэ.*

* * *

*Да званка Апошняга суда*
*Жыць хачу,*
*не век свой дажынаць,*
*Вольна дыхаць,*
*голас не губляць*
*Да званка Апошняга суда.*

*Да званка Апошняга суда*
*Кожны мае тэрмін пажыццёвы.*
*А астатняе ўсё:*
*словы, словы...*
*Крыж магільны. Цемра. Немата.*

### Плач

*Забываю цябе*
*Былую.*
*Толькі плач па сабе*
*Я чую.*
*Даўні плач ля твайго*
*Парога,*
*Сумны плач, а за ім —*
*Нікога.*

## Анатоль ЗЭКАЎ



### Словы

*О, колькі кінута на вецер*
*і добрых слоў, і дарагіх,*
*што, покуль жыць на белым свеце,*
*датуль пакутаваць штоміг.*
*Я рассыпаў іх, як пялёсткі.*
*Такія словы рассыпаў!*
*Ў каханні прызнаваўся проста*
*і кляўся вечна, быццам па*
*якойсьці даўняй добрай звычцы.*
*Калі згадаю —*
*не магу.*
*Іх рассыпаў у электрычцы,*
*у мітусні і на бягу.*
*Я жменяй сыпаў іх на вецер,*
*нібы муку,*
*падчас малоў...*

*А хтосьці жыве на белым свеце,*
*хто болей варты гэтых слоў.*

### Студзеньскі эцюд

*Студзень.*
*Вецер.*
*Лес марозны.*
*Я па дровы з бацькам еду.*
*Справа — сосны,*
*злева — сосны,*
*а наперадзе — ні следу.*
*Конь бяжыць —*
*аж пара з храпаў.*
*Конь бяжыць —*
*воўк лес вартуе.*

*Як бы зноўку ў лес той трапіць,*
*дзе душою раскашую!*

### Я прыехаў...

**Памяці Аляксандра Капусціна**

*Снег —*
*як бы для прыліку.*
*Лічы, няма ў нас снегу.*
*Такая ўжо зіма.*
*Зямляк, мяне ты клікаў?*
*Ну, вось я і прыехаў.*
*Чаму ж цябе няма?*

*Не мог, зямляк, ты недзе*
*дагэтуль запазніцца*
*і загуляць не мог.*
*Ты ж сам пытаў:*
*«Прыедзеш?»,*
*ты ж сам прасіў не збіцца*
*на ростанях дарог.*

*Не збіўся я, прыехаў*
*у Жлобін, на радзіму,*
*дзе чуецца і ў сне*
*твой голас —*
*нібы рэха.*
*...Чаму ж стаю адзін я?*
*Чаму ж не стрэў мяне?*

***

*Днём сягонняшнім жывём,*
*думаем пра заўтра.*
*А былое за вуглом*
*зіркае з засады.*

*Пра былое нам, аднак,*
*згадваць лепш нібыта,*
*бо былое як-ніяк*
*намі перажыта.*

*Не змяніць нічога ў ім*
*і не перайначыць.*
*Як ні жыў — усё ў былым:*
*поспехі й няўдачы.*

*І не зможаш паўтарыць*
*дзень адзіны нават,*
*каб наноў яго пражыць*
*і паправіць справы.*

*Хіба што і можаш, дык*
*жыць сягоння гэтак,*
*каб не зведаць той бяды,*
*што ў былым ты зведаў.*

Літаратура і мастацтва № 1 3 студзеня 2014 г.





# Ала САСКАВЕЦ
# Заручыны на Каляды
## *Апавяданне*

У апошнія дні 1955 года па вузкаватай, затое забрукаванай вуліцы вёсачкі ішла маладзенькая дзяўчына з фанерным чамаданчыкам у адной руцэ і з ладнаваценькім клуначкам у другой. Адчувалася, што яна нешта шукае вачыма, бо круціла галавой аж пакуль не ўбачыла шыльдачку і зайшла ў школу.

Тут жа па вёсачцы пайшоў розгалас: прыбыла новая вучыцелька.

Праз нейкі час яна выйшла разам з дырэктарам, які нёс яе паклажу аж да хаты, дзе сельсавет здымаў пакойчык для несямейных настаўнікаў.

У двары стаялі гаспадары хаты, і дырэктар звярнуўся да іх.

— Вось, пан Антось і пані Яніна, прывёў вам новую кватарантку.

— Дзень добры, пане дырэктар і пані навучыцелька! — адказаў гаспадар, беручы паклажу ў свае рукі. — Проша, паненачка! Спадзяюся, пакойчык вам будзе даспадобы. З яго толькі-толькі з'ехала ваша калежанка. Замуж пайшла ў суседнюю вёску.

— Антось! — азвалася пані Яня. — Ды вядзі хутчэй. Чалавек з дарогі, стаміўся. Як жа пані навучыцельку завуць?

— Аня. Анна Мікалаеўна, — папраўла сябе дзяўчына і пайшла следам за гаспадаром.

Пакойчык не толькі спадабаўся, а і ўразіў юную настаўніцу: на прачыненых у садок вокнах віселі фіранкі; ля вакна стаяў стол з лямпай пад белым шкляным абажурам; побач — два крэслы з выгнутымі спінкамі; у адным кутку стаяла фанераваная шафа, у другім — жалезны ложак, прыбраны толькі самаробнай коўдрай з рознакаляровых абрэзкаў, а ля ложка — высакаваты зэдлік.

— Ой, як у вас тут хораша, пан Антось, — аж са слязьмі ў голасе сказала Аня, бо да гэтага часу ў яе быў толькі ложак у дзетдомаўскай спальні, а потым — у інтэрнацкім пакойчыку. А тут будзе ўласны пакойчык! «Ды які ж! А вунь і этажэрачка ў куце, пад абразамі! — узрушана падумала Анюта. — Будзе куды кніжкі і сшыткі класці».

— Ну, то размяшчайцеся, Мікалаеўна, — сказаў гаспадар і патэпаў па сваіх справах.

— А я табе зараз кухню пакажу, — з лёгкім акцэнтам загаварыла пані Яня. — Хадзем, дзіцятка! — узяла Аню за руку і павяла за сабой жанчына, вельмі падобная да яе цётачкі Кацярыны. Анюце зрабілася ўсцешна на сэрцы, бо ёй падалося, што яна сярод сваіх.

Пані Яня, як і цётачка, палівала ёй з конаўкі на рукі вадзіцу, падала ручнік. А потым пасадзіла да стала і накарміла Анюту поліўкай з грыбамі, смажанай бульбай з каўбасой, напаіла кавай з малаком. Такімі стравамі ў цётчынай вёсачцы частаваліся толькі ў святы! «Як багата жывуць людзі!» — падзівілася Аня, першы раз у сваім васямнаццацігадовым жыцці п'ючы каву маленькімі глыточкамі, каб расцягнуць гэтую прыемнасць.

Падсілкаваўшыся як след, Аня падзякавала гаспадыні і пайшла ў свой пакойчык: ёй нясцерпна хацелася абжыцца ў ім. Яна тут жа адчыніла чамаданчык (пастараўся дзядзечка Рыгор — зрабіў вялікім і лёгенькім) і пачала даставаць з яго свой «посаг», як казала Надзейка, Анюціна стрыечная сястрыца.

Будучы студэнткай педвучылішча, Анюта летнія канікулы праводзіла ў радні. Хадзіла з імі і на праполку, і на сенакос, і на жніво; збірала грыбы ды ягады і здавала нарыхтоўшчыцы. На зароблены грошы Аня купляла тканіну, ніткі і шыла сабе спаднічкі, кафтанчыкі. Але галоўным чынам — прасціны, навалачкі, чахлы на коўдру. Мала таго што шыла ўсё рукамі, дык з дапамогай Надзі аздабляла іх прошвамі, карункамі, васілёчкамі ды люцікамі.

«Як жа мне, сіраціне, пашанцавала! — у захапленні гледзячы на ложак, засцелены прасцінай з падзорам, думала Аня. — І ўсё дзякуючы табе, Лідачка, сяброўка і цёзка па прозвішчы мая… І нават па бацьку мы былі аднолькавыя… Ну амаль сёстры! Ды яшчэ ў адной групе».

— Адкуль ты, Анька? — у першы ж дзень, у час засялення ў інтэрнат, спыталася Ліда.

— Я з дзетдома.

— А я з Вяшэўкі. У нас там, лічы, ва ўсіх адно прозвішча.

— Праўда?

— Праўда, праўда. Ну, а ты дакладна ведаеш сваё прозвішча? І як бацькоў звалі?

Аня здолела толькі кіўнуць галавой, так яе агарнулі ўспаміны, калі яна пачула знаёмае слова — Вяшэўка.

— А ці ёсць у вашай Вяшэўцы хата з пеўнем на даху, які круціцца ад ветру?

— Ёсць! Адкуль ведаеш?

— Мой тата такога рабіў. А ля хаты ёсць калодзеж з вялікім цэбрам на жэрдцы?

— Сапраўды! Ёсць! Успамінай, успамінай!

— Цэбар парос зялёнымі водарасцямі…

— Парос. Таму вада чыстая-чыстая… У той хаце жывуць цётка Кацярына, дзядзька Рыгор і іхняя дачка — Надзейка.

Ліда ад радасці скакала вакол Ані і запрашала яе ў суботу ехаць з ёю.

Так і з'явілася ў Анюткі радня: самыя дарагія, самыя блізкія людзі, лепшыя людзі на свеце.

Анюта адразу ж стала любай пляменніцай, на якую не шкадавалі ні часу, ні любові. Асабліва палюбіліся адна адной сястрычкі. Усюды разам былі: і на працы, і пры вязаннях-вышываннях, і на вечарынках, дзе, як малую, Аню апякаў Надзькін жаніх.

І вось цяпер, ладзячы свой ложак, Аня да слёз радавалася ўсяму зробленаму сваімі рукамі. Зверху ложак быў засцелены посцілкай у рознакаляровыя ромбы, вытканай цётачкай Кацярынай, а з-пад яго выглядваў шырокі і бялюткі падзор. А ўзбітая падушка прыкоўвала вочы ўстаўкамі-прошвамі.

На этажэрку Аня пасцяліла сурвэткі, вышытыя крыжыкам, паставіла кніжкі. На стол паклала дарожку з такім жа ўзорам. І тут ёй прыйшло ў галаву паставіць чамаданчык на зэдлік, каб не замінаў у пакоі. Яна склала ў яго ўсе цёплыя рэчы: швэдаркі, панчохі, рукавіцы, хустку, паставіла чамаданчык на зэдлік і накрыла яго вязаным сурвэткай — адзінай рэччу, што дасталася ёй ад мацеркі. Не згарэла, як яе маці і маленькі брацік, калі на іхнюю хату звалілася з неба бомба. Анюта гэта добра памятала: яна рвала для парсюкоў макрыцу ды лебяду ў канцы агарода, калі зароў над вёскай самалёт з чорным крыжам і доўгім чорным дымавым хвастом. Потым нешта бабахнула, і з іх хаты вырвалася полымя. Што было далей — як у тумане: нейкая жанчына з бліскучымі пагонамі… шмат дзяцей… доўгі стол з міскамі і лыжкамі…

Успаміны нагналі слёз. Аня гладзіла матчыну сурвэтку (якую, як аказалася, яе маці падарыла сваёй залоўцы, а цяпер цётачка Кацярына аддала яе Анюце) і гаварыла, гаварыла: «Сурвэтачка мая дарагая. Цябе мамчыны ручкі плялі. Як добра, што ты будзеш побач са мной…» — дзяўчына пацалавала сурвэтку, як калісь цалавала матуліны рукі.

Сваю маці, невялікую смуглявую жанчынку, Анюта помніла заўсёды за працай: то ў агародзе, то на двары, у хляве, то ля печы. Асабліва цяжка ёй было, калі бацьку забралі на вайну. Таму нават песні пела ці казку расказвала дзецям з маленькім жалезным кручочкам і ўсё пляла, пляла прошвы ды карункі на продаж. Відаць, гэты мацярынскі талент перадаўся і Анюціным рукам.

На імправізаваны столік Аня паставіла люстэрка, слоічак крэму ад вяснушак, паклала расчоску, нажнічкі. І тут заглянула гаспадыня.

— Матка Боска! — запела яна. — Якая прыгажосць! А спрыт які! — абняла і пацалавала Аню.

Спрыту Анюце хапала. Да вечара яна паспела начысціць і паставіць варыць бульбу, зрабіць крышава з агуркоў ды памідораў са смятанай; памыць вялікую сталешніцу і падлогу ў кухні. Таму не адмовілася сесці з гаспадарамі павячэраць. Толькі папрасілася адлучыцца на хвіліну.

І трэба ж было, каб за той кароткі час, за які яна толькі паспела пераапрануцца ў халацік на гузіках ды падправіць прычоску, за сталом апынуўся малады мужчына. Ён працягнуў ёй руку: «Мяне завуць Ясем, Янкам. А хочаце — клічце мяне па-вашаму, па ўсходняму — Іванам».

— Вельмі рада знаёмству, — ветліва сказала Аня і прысела на вольны зэдлік, побач з ім...

— А вас завуць Аня, мне маці сказала.

— Так. Анна Мікалаеўна.

— Вельмі прыемна, — заключыў хлопец і пачаў накладваць на талерку бульбу, крышава, з патэльні — скваркі з яйкамі. Тое ж паклаў і Анюце.

Так у Ані і з'явіўся першы дарослы прыяцель. Ён працаваў трактарыстам і камбайнерам, таму дома бываў мала. Але, хоць і вяртаўся стомленым з палёў, вечарам браў Аню і, як уся моладзь, ішоў з ёю да канторы, дзе размяшчаўся невялікі клуб. Там моладзь ці фільмы глядзела, ці танчыла.

З'явілася ў Ані і сяброўка Броня — дачка самых багатых бацькоў у вёсцы. Іх дом — не хата — стаяў якраз праз вуліцу. Броня была сталейшая за Аню, таму ўзяла за моду павучаць яе, як трэба з хлопцамі сябе паводзіць. А галоўнае — дудзець ёй у вуха, як моцна яна кахае Яся, Янака, але... «Ну кахаеш і кахай! — думала Аня, але ад гэтай думкі ёй чамусьці рабілася трошкі сумна і трывожна...

Пачаліся заняткі ў школе. Анна Мікалаеўна вучыла дзетак першага і трэцяга класаў і ажно дзівілася, што спраўляецца: дзеці яе слухаюць, да ўрокаў рыхтуюцца спраўна. Ды і на педсавеце дырэктар сказаў: «Я вельмі задаволены, паважаная Анна Мікалаеўна, што з дзясятка маладых настаўнікаў выбраў менавіта вас».

Ды Анюце і самой падабалася выпісваць крэйдай на дошцы літаркі і лічбы, пісаць чырвоным алоўкам узоры ў сшытках, ставіць адзнакі — скрозь добрыя ды выдатныя.

І жылося Анечцы выдатна! Неяк пякла яна сабе наліснічкі з пытляванкі на малацэ. Глядзеў-глядзеў гаспадар ды і кажа: «Што гэта, Мікалаеўна, вы ўсё крамныя ды крамныя бліны ясцё?! Паспыталі б нашых — шарачковых!» Паспытала Аня і «прысохла» да іх. Сваю пытляванку гаспадыні пачала аддаваць на пірагі, а сама — пячы шарачковыя, якія гаспадыня ўчыняла з вечара. Бліноў сто накідае Аня на разасланы рушнік, а гаспадыня патэльню мачанкі згатуе. Сядзяць і мачаюць усе разам. І Янка часта з імі снедаць пачаў, калі ў полі ўжо прыбраліся.

Ну, усё было добра ў Анечкі. Любая работа! Гаспадары — што бацькі родныя! А ўсё ж сэрцу нечага не хапала. На кінасеансах Ясь сядзеў паміж Аняй і Броняй. Танцаваў жа чамусьці толькі з Броняй. Затое дамоў — у цемры — вёў за руку Анюту... «Мусіць, Янка ўспрымае мяне як малодшую сястрыцу, — журылася Аня, — а сам кахае Броню. Шкада, канечне. Ён так падобны да свайго бацькі!»

Анюце вельмі даспадобы былі ўзаемаадносіны яе гаспадароў: усе робяць разам! Ладненька так усё ў іх атрымліваецца. Зусім не так, як было ў яе бацькоў. Хоць малой была Анюта, а памятае: бацька працаваў з машынамі, чыніў іх, таму вяртаўся да дому позна, вячэраў і клаўся адпачываць.

— А ўсё ж за руку ён вядзе мяне! — усцешвала сябе дзяўчына і працягвала нечага чакаць і жадаць.

І вось дачакалася. На Каляды прыйшлі да яе гаспадароў у госці бацькі Броні, а потым і сама Броня. У Ані ад гэтай сустрэчы ажно сэрца замерла — няўжо яны ўжо сасватаныя? А тут яшчэ Броня ўціснула свой зэдлік паміж ёй і Янакам і пачала яму на талерку накладваць, чокацца чаркамі. І бацькі ўсё да Яся з размовамі і прапановамі: зглянуў бы, Яська, маўляў, матацыклетку паглядзець, да ладу давесці. І Броня тут як тут: «Давядзі, Яначка! Будзем да касцёла ездзіць ці ў райцэнтр ва ўнівермаг».

Слухала гэта Анюта, слухала ды і вырашыла сысці з гасцей. Спаслалася на тое, што, маўляў, планы трэба пісаць, і пайшла ў свой пакойчык.

— Якія планы, калі ў вучняў канікулы? А можа, раўнуе? — падумаў і ажно спужаўся хлопец. — Не! Хто я такі? Яна ж настаўніца, прыгажуня. А я ўсяго толькі трактарыст. Куды мне?

І ўсё ж няўтульна зрабілася яму за сталом без Ані: падняўся, накінуў кажушок і выйшаў з хаты. Цэлы дзень ішоў спорны снег, і цяпер сляды хлопца праз садок віхлялі няроўнай сцежкай. Янка стаў пад яблыняй і пачаў назіраць за дзяўчынай праз шыбіну. І доўга б так стаяў, калі б вецер не раскачаў яблыньку і яе галінка не стукнула ў вакно. Анюта адарвала галаву ад кніжкі, і вочы іх сустрэліся... Ад няёмкасці Ясь засмяяўся. Засмяялася і Аня. І тады ён паклікаў Аню рукою. А яна, доўга не раздумваючы, апранула набытае нядаўна зімовае паліто, усунула ногі ў валёнкі, якія аддала ёй пані Яня, і ціха пайшла з хаты, на хаду накідваючы хустку.

На прыступках з сяней Анюта паслізнулася і ажно ўскрыкнула. Але тут яе падхапілі дужыя рукі... «Янак!» — усклікнула Аня і схавала свой зязючы шчасцем твар у яго каўняры.

— Анютачка! — ледзь не захлынуўся радасцю Ясь. — Сонейка маё!

— А як жа Броня? — спалохана спыталася дзяўчына.

— Я не Броню... Я цябе, сонейка маё, кахаю! — прызнаўся нарэшце хлопец. А пасля пачаў асыпаць яе твар пацалункамі і пытацца: — Пойдзеш за мяне?

— Пайду, Яначка! Пайду, каханы мой, — шапталі яе вусны.

У хату яны вярнуліся разам. Не распранаючыся, трымаючы адно аднаго за руку, пакрочылі да бацькоў.

— Глянь, Антось! Як і мы калісь з табой... За рукі... — праслязілася пані Яня.

— Ну, што, сынок? Што? Язык праглынуў?

— Не праглынуў. Проста думаю, як сказаць.

— А ты кажы, як ёсць!

— Татка! Матуля! Вось мая нявеста!

— Ну што ж! — развёў рукамі гаспадар. — Наш сын зрабіў выбар, і мы яго ўхваляем.

Маладыя з палёгкай уздыхнулі. Янка лёгенька прытуліў да сябе Анютку, а маці зняла ікону і перажагнала ёю дзяцей.

— Во і будзе ў нас з табой, Янюся, дачушка, — працягваў пан Антось. — Заручыны, будзем лічыць, адбыліся. А вас, панове, госці дарагія, першымі запрашаем на вяселле.

Каб да чарговага посту справіць веселле, трэба было спяшацца. Таму праз два тыдні Анюта тайна ўзяла Хрост у ксяндза дома, а яшчэ праз тыдзень пабраліся шлюбам.

Якраз за тыдзень да посту распісаліся ў сельсавеце і згулялі ў той жа дзень вяселле. І стала Анна Мікалаеўна Шупо Ганнай Мікалаеўнай Хмялеўскай. Вучні пачалі яе называць Ганнай Мікалаеўнай, вяскоўцы — пані Хмялеўска, а сваякі — Ганяй, Ганусяй, Ганулькай...

# Паэзія ў засені Крыжа

Галіна Тварановіч — паэтэса, аўтар зборнікаў «Ускраек тысячагоддзя» (Мінск, 1996), «Верасы Драганава» (Мінск, 2000), «Чацвёртая стража» (Беласток, 2004), «Бурштынавы яблык» (Беласток, 2010). Яна таксама вядомы і аўтарытэтны даследчык літаратуры, доктар філалагічных навук, аўтар манаграфій «Маральны свет героя: Беларуская і югаслаўская ваенная проза 60 — 70-х г.» (1986), «Пакутаю здабыты мір: Тыпалогія характару ў беларускай і славенскай прозе» (1991), «Беларуская літаратура: паўднёваславянскі кантэкст» (1996) «Пры брамах Радзімы: Літаратурнае аб'яднанне «Белавежа»: станаўленне, праблемы, асобы» (Беласток, 2012), адзін з аўтараў «Гісторыі беларускай літаратуры XX ст.» (Т. 1 — 4, 1999 — 2002) і да ўсяго — перакладчык («Запіскі янычара Канстанціна Міхайловіча, серба з Астровіцы», у суаўтарстве з Янам Чыквіным).

Вызначальнае ў паэзіі Галіны Тварановіч — філасофская роздумнасць, імкненне спасцігнуць асноватворныя існы, абсалютныя каштоўнасці, пошук Сапраўднага.

Яе творчасць скіравана да *горняга*, па вызначэнні паэтэсы: *Адна дарога на ўсіх — угору*. Антытэзу «горняе — дольняе» можна лічыць скразной.

Словы Існае, Вышэйшы, Вечнасць сустракаюцца ў яе найчасцей: *«Растулены ў Вечнасць час», «яна струменіць у Вечнасць, туды, // дзе губляюцца час і прастора зямныя»*.

Сёння шмат пішуць пра крызіс духоўнасці, маральнасці, «дээынтэграцыю каштоўнасцей» (Чэслаў Мілаш), «спекуляцыю на паніжэнне» (Б. Вышаслаўцаў). Творы Галіны Тварановіч імкнуцца скіраваць да сапраўдных, вечных каштоўнасцей. Пра Галіну Тварановіч можна сказаць словамі С. Аверынцава: «В чём же ещё вековечная суть назначения поэта, если не в том, чтобы перед лицом ужаса обрести не черноту, а целение, не сарказмы, а псалом, не хулу, а хвалу?»

Для паэтэсы важна сказаць пра іншую рэальнасць, якая супрацьстаіць штодзённаму, часоваму, мітусліваму, дробязнаму, што Г. Тварановіч акрэслівае як «ілжывую бясконцасць тлумнага дня»:

*Як памагчы той кволай*
*завязі духоўнага,*
*схаванай у душэўным,*
*якім сееццa напачатку*
*кожны век чалавечы,*
*памагчы,*
*каб вызваліць Існае?..*

Вершы прасякнутыя ўсведамленнем рэальнасці Вышэйшага («Зрушацца няўмольныя пласты»), якое праяўляецца перш за ўсё ў любові, адчуванні прыгажосці, радасці паразумення.

Творы паэтэсы сведчаць пра глыбокую ўкаранёнасць ў хрысціянства і яго каштоўнасці, пра ўсвядомлены асабісты выбар, паколькі сэнс хрысціянскіх запаветаў адкрываецца толькі тым, хто спрабуе жыць у адпаведнасці з імі:

*спазнаць аковаў слодыч,*
*у ланцугах — размах крылаты,*
*паслушэнства —*
*крынічны*
*вольны*
*шлях.*

Вершы Г. Тварановіч гавораць пра інтэнсіўны ўнутраны пошук свайго прызначэння, спазнання сваёй сутнасці:

*Пакутна і радасна*
*шукаю штодня адказ*
*на адведзеным мне кавалку свету.*

Гэта своеасаблівыя «агледзіны душы», па словах самой паэтэсы:

*Божа! <…>*
*Навучы мяне быць удзячнаю.*
*Дай мне сілы на добрае.*
*І адымі, калі мыслю благое.*

Духоўная скіраванасць заўсёды надае творам глыбіню, арыентуе чытача на абсалютныя каштоўнасці:

*Ісус —*
*Айчына.*
*Горняй мары —*
*Жальба і надзея.*
*У бясконцасць —*
*Працяг жыцця.*

Хрысціянства для паэтэсы — крыніца жыцця:

*зацята шукаю адзінае месца,*
*дзе яшчэ можна жывою вадою*
*душу наталіць — імкнуся ў засень Крыжа.*

У творчасці Г. Тварановіч арганічна спалучаюцца эстэтычны і духоўны пачатак («Вялікдзень», «У храме», «О, Госпадзе, Ісусе Хрысце!», «Троіца. Духаў дзень», «Да споведзі», «Няўжо апошняй сечы», «Крыжа засень», «Золак, світанне», «Ці выратуюцца добрыя», «Якою мушу быць», «Адчыняецца неба насустрач», «Трывай, душа, трывай», «Не прапусціць, не зблытаць ані з чым», «Ён наперад ведае»). Хрысціянскія матывы, евангельскія вобразы — арганічная частка духоўна-маральнай прасторы, у якой асэнсоўвае сябе паэтэса. Для яе гэта не проста крыніца агульнакультурных метафар, сімвалаў, алегорый, а выяўленне спецыфікі асабістага духоўнага пошуку:

*У святло,*
*у світанне*
*мяне прывялі*
*жахлівая незваротнасць*
*і вялікі сум*
*аб той хвілі,*
*калі*
*маё адзінае жыццё,*
*зусім неўпрыкмет,*
*імклівым часам падманутае,*
*мусіць апасці лісцем сухім*
*пад крокі наступнікаў <…>*
*Толькі — о, літасць! <…>*
*Душа зведала Вечнасць.*

Праз разважанні пра Вечнасць, Веру, Надзею, Любоў, Існае («Маўчанне Госпада», «Калі набягае раса нябесная», «Душа ў абалонцы плоці», «А можа вось зараз») бачыцца споведзь, спроба звярнуцца да адзіна сапраўднага, на думку паэтэсы, шляху, барацьба з унутраным злом:

*Замасціць дрыгву-адчай,*
*гардыні-бездані шэрай*
*выракчыся —*
*адпакутаваць сабою —*
*горача імкнуся.*

Г. Тварановіч шукае першародную цэльнасць чалавечай асобы, нагадвае пра «спрадвечную сутнасць» кожнага з нас:

*Мо гэтак у кожным з нас*
*гарачае немаўлятка духу*
*натужліва трызніць аб крылах,*
*каб у час скарыстаць сваю спрадвечную сутнасць.*

Паэтэса гаворыць пра неабходнасць адасобіцца ад выпадковага, мітуслівага, вызваліць унутраны зрок, бо толькі такім чынам магчыма спасцігнуць таямніцу быцця:

*Ды анёл ціха падказвае:*
*«Глянь, вунь тваё горняе*
*б'ецца крыламі аб столь*
*цеснай чалавечай галубятні.*
*Цішэй шукай дзверы —*
*у сябе».*

Галіна Тварановіч піша, што адчуць Госпада можна толькі ў сцішанасці і ўнутранай засяроджанасці («Прамяністае імгненне», «Скрозь кожны дзень»):

*Скрозь кожны дзень*
*у ціхай лагодзе*
*я б хацела праходзіць.*

Эпітэт «ціхі» паэтэса ўжывае даволі часта: «мой ціхі голас», «цішынёю вачэй», «кветкі ціхай пяшчоты», «у цішы добра чутно», «а ціхамірнасць шукае хоць шчыліну, // каб душу наталіць жывою вадою».

Глыбокая ўнутраная праца, услухоўванне ў сябе не дазваляюць трапіць у палон самазадаволенасці. Г. Тварановіч «пільнуе сваю душу» ад граху, робіць «агледзіны душы». Увогуле, многія выказванні паэтэсы нагадваюць філасафемы: «невыпадковасць імгнення», «свята здзяйснення лёсу», «бясконцасць вечнага цяпер», «вучыць непазбежнасці», «усё існае нараджаецца ў пакуце», «ратункам мігцідь адно трыванне». Іншыя прэтэндуюць на «крылатасць: «побач з мамай дом паўсюль», «сіротамі свет заселены», «ручніком часу асушаны слёзы», «мы — вечныя, // пакуль нас сабою засланяюць // нашыя мацяркі».

Сярод традыцыйных тыпаў аўтарскай эмацыянальнасці (гераічнае, ідылічнае, сентыментальнае, рамантычнае, трагічнае, камічнае, іранічнае) сёння вылучаюць таксама «ўдзячнае прыманне свету і сардэчнае ўзрушанне» (В. Я. Халізеў). Менавіта да такога тыпу і належыць творчасць Г. Тварановіч:

*пакуль дрыготкае здзіўленне*
*у чуйнасці сваёй не зможацца*
*адкрыццём ранішнім, вясновым*
*душу зямную хваляваць —*
*прымаць удзячна нам*
*жыцця вялікаснага плынь.*

Адсюль чуйнасць, міласэрнасць пісьменніцы, здольнасць адчуць боль іншага. Невыпадкова Ніна Мацяш у адным са сваіх лістоў звярнулася да Галіны Тварановіч наступным чынам: «Дарагая — і мне — дабратой невычэрпнаю, спагадлівасцю заўсёднай, светлынёю жывільнай».

Хрысціянскае вучэнне гаворыць пра суаднесенасць, праяўленне Боскага праз свет фарбаў, гукаў, рухаў, пра «адчуванне жыцця ў яго цялеснасці, увасобленасці, рэальнасці, непаўторнай унікальнасці кожнай хвіліны і яе паўнаты» (А. Шмеман). Г. Тварановіч валодае гэтым дарам адчування прыгажосці жыцця. Яна «замілаваная цудам жыцця», «вясновай зямлі гучаннем», «смакам, водарам жыцця»:



*Аж іскрыцца*
*Белая бяроза*
*І нашая вясна*
*У звонкім пошчаку*
*Удзячнае птушынае*
*Хвалы — жыццю,*
*Раскрыленым нябёсам*
*І роднае зямлі.*
*Душа пяе!*

Паэтэсе дадзена здольнасць бачыць і радавацца прыгожаму («і раптам скрозь мокрую цемень // да самага сэрца — кліч жураўліны»), яна «дзякуе ружам», што «з самотаю халоднай спрачаліся ўпарта».

Сутнасць паэзіі Галіны Тварановіч дакладна акрэслена ў анатацыі да зборніка «Верасы Драганава»: «Лірычная гераіня ўспрымае жыццё як найвялікшы дар, у берагах якога кожны спраўджваецца як універсальная духоўная магчымасць у паўсядзённым выбары абставін, узрастаючы ў любові да роднай зямлі, вялікай чалавечай сям'і».

Базавай у хрысціянскім вучэнні з'яўляецца катэгорыя любові: «Прыказанне новае даю вам, каб вы любілі адзін аднаго; як Я узлюбіў вас, каб і вы адзін аднаго любілі» [Ян. 13:34]. Таму не дзіўна, што тэма любові скразная ў вершах Г. Тварановіч («Прыкмячаю часам, як аднекуль», «Не падыходжу», «Гасподзь Бог», «Дасканалай Любові»):

*Моцы малю, каб дачакацца*
*міласэрнае самае ўлады —*
*улады Любові Хрыстовай*
*над роснай зямлёю…*

Паводле паэтэсы:

*Ратуе Любоў —*
*страх за сабой зрынуць тых,*
*над кім апякуюся шчыльна.*

Найпаўней і найглыбей жаночая сутнасць праяўляецца ў каханні. Сцішанай і ўдумлівай паўстае Г. Тварановіч у вершах, яму прысвечаных:

*І зноў твой дзень абміне*
*маю агністую пяшчоту,*
*мой дзіцячы давер.*
*Абміне мой ціхі голас,*
*што ў пакоры распавядае,*
*як тужліва й самотна мне —*
*без цябе.*

Але разам з тым паэтэса выяўляе складанасць і супярэчлівасць кахання:

*Пазбягаю сустрэчы з табой,*
*каб не аслабнуць у шчасці.*

Настаяцельніца Спаса-Ефрасіньеўскага манастыра ў Полацку ў адным з інтэрв'ю «ЛіМу» сказала: «Добрая кніга тая, якая вядзе да Бога». Менавіта такой і з'яўляецца паэзія Галіны Тварановіч:

*Жыццё —*
*час, узяты ў дужкі падзей,*
*падзеяй народжаны,*
*па падзеях раскладзены,*
*у падзеі ўштукаваны.*
*Падзея сведчыць пра час*
*і па ёй час вызначаецца —*
*час нараджэння і час смерці,*
*праміванне, успамін і надзея.*

**Анжэла МЕЛЬНІКАВА**

# «Сны без лілеі абмялелі»

З Міколам Касцюкевічам пазнаёмілася ў 90-я гады ў рэдакцыі часопіса «Першацвет», дзе сустракаліся многія маладыя творцы, каб абмяняцца літаратурнымі ўражаннямі. Яго кнігу «Колеры» мне даў пачытаць Серж Мінскевіч, даўні сябар паэта. Кніжка фармату А5, аб'ёмная — шчыра парадавалася за спадара Міколу, што ён актыўна працуе, мае натхненне, што не кінуў паэзію. Зборнік пачынаецца прадмовай Юрася Пацюпы, які даўно ведае аўтара і яго творчасць, дзе «"сюр", імпрэсія, псіхадэліка і рацыяналізацыя часамі стаяць побач…»

Назваўшы кнігу «Колеры» (алюзія на яго імя «Коля», са слоў аўтара), М. Касцюкевіч правакуе нас задумацца, якая палітра светаадчування паэта, якімі фарбамі выпісаны яго ўнутраны свет? Першы і апошні лісты вокладкі — белачорныя (бо белы, дзякуй богу, дамінуе). Думаецца, чытачы знойдуць тут і іншыя колеры, бо ў кніг звычайна сімвалічна-канцэптуальныя назвы, а спадар Мікола не ўспрымаецца містыфікатарам. У гэтым аспекце кідаецца ў вочы яго нізка з трох вершаў «Колеры тугі», у якой «акрываўлены туман», «сівая скронь акна», «цемрыва віна», «усыпаная снягамі прасціна» з гронкай арабіны, «пунсовыя мары», «цемень сноў», заснежанасць тугі, «чырвоны боль, / пакінуты табою…». Выразна прапісаная эратычная сімволіка. Дарэчы, аўтар прызнаўся, што спачатку хацеў назваць кнігу «Колеры тугі» (нак называецца яго нізка вершаў), аднак выдавец параіў другое слова прыбраць. Так што чытачы паспрабуюць знайсці тут і моманты радасці паэта. Праўда, назва зборніка М. Касцюкевіча дубліруе назву кнігі паэзіі Валянціна Тараса «Колеры» (1995). Але галоўнае, што творчая індывідуальнасці розныя.

Сучасныя беларускія літаратуразнаўцы (А. Бельскі, В. Максімовіч, А. Шамякіна, А. Ігнацюк, Ю. Бабіч, І. Бабаед, Л. Паплаўная і інш.) вывучаюць каларыт і каларонімы ў мастацкіх творах. Даследчыкі звяртаюць увагу на каларыстычную сімволіку ў раскрыцці эстэтычнай функцыі вобразаў, храматычныя і ахраматычныя каларонімы і люксонімы, іх псіхасемантыку, этнаколеравыя прыярытэты аўтараў. Назва і вобразна-тэматычнае напаўненне кнігі М. Касцюкевіча схіляюць і мяне да асэнсавання гэтых аспектаў, а таксама некаторых іншых, якія немагчыма было абысці ўвагай.

«Колеры» М. Касцюкевіча — зборнік выбранага з трох яго папярэдніх кніг («Вяртанне», «Настальгія», «Германія») плюс «бонусы» — тое, што меркавалася даць у кнігі, але чамусьці не ўвайшло, а проза асобнай кнігай яшчэ не выдавалася. Цікава, што зборнік выйшаў у маскоўскім выдавецтве «Русский путь», па кантрасце з тым, што сам аўтар — вандроўнік па беларускім шляху. Відаць, паэт адчувае, што шанаваць роднае, нацыянальна-адметнае — гэта самы лепшы сродак захаваць нашы беларускія традыцыі і культуру ва ўмовах глабалізацыі, якая размывае нацыянальныя межы, абязлічваючы этнасы. Цікавы факт з біяграфіі творцы: паводле аднаго інтэрв'ю, ён не толькі калекцыянер беларускамоўных слоўнікаў, але і складальнік (разам з Ларысай Глазырынай) «Руска-беларускага слоўніка па фізічнай культуры і спорце» (2013), які змяшчае каля 50 тысяч слоў і словазлучэнняў.

Галоўнымі каштоўнасцямі для аўтара з'яўляюцца «каханне, любасць і сяброў», а таксама бацькоўскі дом і маці, якая заўсёды перажывае за яго. Шмат значыць для М. Касцюкевіча і вершатворчасць. Ён лічыць, што «Паэт радкі свае павінен / пісаць уласнаю крывёй, / бо на яго лягла правіна / і цяжар грэшнасці людской». Пакуты — непазбежныя спадарожнікі чалавечага жыцця, выпрабаванні чалавечай душы на любоў, чысціню і шчырасць. Лірычны герой М. Касцюкевіча, суадносячы маленні і сны пасля іх, робіць выснову: «душа спрабуе зноў і зноў / не барацьбой, а на каленях / дастаць гармонію злучэння / любові небнай і зямной». У іншым вершы — каб болю на свеце было меней, аўтар раіць «…прыпыніцца ў спешцы / і некага побач увагай сагрэць». Крэда сапраўднага паэта, на думку гэтага творцы, — шукаць сябе. Бо «толькі тым, хто памірае / ў бясконцых пошуках сябе, / даецца самадастатковасць / і сцежкі-ніткі да вышынь / спрадвечнае калыскі магаў / і мудрасці звышчалавецтва».

Як даследчыка паэзіі і паэтэсу мяне парадавала ўвага аўтара да цвёрдай формы трыялета і разнастайных відаў верша: акраверш, раманс, стансы, накцюрн, элегія, прысвячэнне, эпітафія. Яго «Гатычны трыялет» — пра страхі, увасобленыя ў птахаў, якія «вострацъ свае кіпцюры». Твор мае падназву «эсенцыя», відаць, М. Касцюкевіч мае на ўвазе сканцэнтраванасць, згушчанасць гэтай эмоцыі ў вершы. Трыялет, прысвечаны каханай, — адзін з лепшых узораў лірыкі высокіх пачуццяў:

*Ты здольная даць майму сэрцу святло*
*і цемру рассеяць маёй адзіноты.*
*Крануўшы душы патаемныя ноты,*
*ты здольная даць майму сэрцу святло.*

*Ты вабіш мяне чысцінёю і цнотай,*
*як сонца, што ранняй парою ўзышло —*
*ты здольная даць майму сэрцу святло*
*і цемру рассеяць маёй адзіноты.*

Сумную пару дажджыстага лістапада апісвае паэт у «Акраваршы» з вертыкальным радком-ключом-прысвячэннем «Анжаліне» (Дабравольскай). Ёсць у М. Касцюкевіча акраверш з вертыкальным радком-ключом «Я цябе кахаю». Дарэчы, пазней акраверш з такім ключом з'явіцца ў паэта Анатоля Трафімчыка. «Раманс» («Ён ніколі ўжо болей не прыйдзе...») прамаўляецца ад імя пакінутай жанчыны, якая аплаквае расстанне з каханым і свой боль. Звычайна творы, у якіх персанаж, адрозны ад аўтара, ад першай асобы распавядае сваю гісторыю, жанрава маркіруюцца як маналогі (такія творы ёсць у В. Шніпа, А. Сыса, С. Патаранскага і іншых). «Банальныя стансы» распавядаюць, адпаведна прыметніку-характарыстыцы ў назве твора, прапісныя ісціны: «не дастанеш зоры / без праўдзівай веры», «лепей за сустрэчу / вечнае каханне, / бо яно пярэчыць болю развітання», што «выпадковым словам / усё згадаць магчыма, / апрача любові, / маці і Айчыны». Для стансаў як твора ліра-эпічнага эпікі малавата, хоць прынцып пабудовы стансаў з сінтаксічна закончаных, адасобленых строф выконваецца паэтам. Аднак такі эпічны лаканізм можа быць сведчаннем наступнай тэндэнцыі: у наш імклівы час многія доўгія ліра-эпічныя формы (напрыклад, балада і паэма) набылі сціслы маласюжэтны выгляд. «Вулічная пастараль» апісвае сцэну кармлення лірычным героем узімку ўзрадаваных галубоў. Мне здаецца, жанрава тут была б больш дарэчнай «ідылія» — у шырокім сэнсе як бесклапотнае існаванне, бо, як мне здаецца, пастараль (і яшчэ буколіка) этымалагічна захавалі сэнсавую прывязку да пастухоўскага, сялянскага жыцця.

У вершах-прысвячэннях аўтар звяртаецца ў думках да Уладзіміра Караткевіча, Андрэя Пяткевіча, алімпійскай чэмпіёнкі Святланы Багінскай, да абагульненых вобразаў беларуса і паэта. «Шкляная вар'яцтва» — імітацыя алфавітнага верша, дзе літары лацінскага алфавіта — не пачаткі першага радка новай страфы, а маркеры частак, з якіх складаецца твор (звычайна для гэтага выкарыстоўваюцца лічбы). Рух сюжэта ад A да Z (тут — з прапушчанымі фрагментамі: ад C да V — радок са шматкроп'я, сюжэтны абрыў, пустата) — як кампазіцыйны прыём разгортвання сюжэта ад яго пачатку да канца, ад нараджэння жыцця да смерці. «Эпітафія» — пра «нездзейснёныя магчымасці», «інстынкт бязмэтных існаванняў», «разбітыя ліхтарні / здаволеных жаданняў плоці». Аўтар задаецца пытаннем: «Навошта назапашваць мроі...», калі ёсць наканаванні, лянота, «балота сытых безліччаў» і дэградацый. Такія думкі спараджаюць адчай, які часта аваладвае лірычным героем М. Касцюкевіча. Твор «Гісторыя» — монатрыпціх (які чытаецца як звычайна — гарызантальна і паскасава — вертыкальна). Кожны радок складаецца з трох двухчленных сказаў, у якіх



*Касцюкевіч, М. Я. Колеры: паэзія і проза / М. Я. Касцюкевіч. — М.: Русский путь, 2013. — 381 с.*

аднолькавыя прыметнікі або дзеясловы. Калі чытаць парадкова — адзін доўгі тэкст. Калі чытаць вертыкальна паскасава — тры тэксты агульным памерам з гэты адзін доўгі. Такая кампазіцыйная эквілібрыстыка карысная падсветкай розных сэнсавых нюансаў пры іншых спосабах прачытання. Тут ствараецца аўтарская гісторыя нараджэння ранку, кахання і чалавека.

Твор «Кароткі летні раман», бонус да кнігі «Германія» (1995), мае жанравападобны падзагаловак «лірычны ружанец». Слова «раман» выклікае адразу дзве асацыяцыі — раман як жанр і як гісторыя кахання. Быць раманам як жанрам гэты твор можа быць хіба што ў аўтарскай трактоўцы. А мілосны сюжэт тут у наяўнасці. Першы радок гэтага твора «А заміж сэрца ў снах лілея...» ў кнізе дубліруецца як монаверш, праўда, з адной кропкай у канцы сказа. «Ружанец» як асацыятыўна-метафарычны аналаг лірычнага цэлага, якое складаецца з частак (ад сямі і больш), сустракаецца таксама ў Рыгора Барадуліна (паэма «Ружанец» (1996) з аўтарскіх лірычных малітваў, паміж якімі графічныя звязкі ў выглядзе адной зорачкі) і ў Аксаны Спрынчан (нізка вершаў «Беларускі ружанец» (2013), дзе такія ж, як у Р. Барадуліна, графічныя звязкі паміж часткамі, аднак тут ужо не малітвы, а асэнсаванне вобразаў матэрыялаў, з якіх можна зрабіць гэта малітоўнае прыстасаванне). «Кароткі летні раман», або лірычны ружанец М. Касцюкевіча («міні-паэма» — паводле аўтарскага жанравызначэння), мае адметную кампазіцыю. Ён пачынаецца і заканчваецца падобнымі вобразамі і словамі (утвараецца кампазіцыйнае кальцо, лагічнае для лірычнага ружанца як аналага адпаведнай рэчы), але сэнсава-настраёвае напаўненне іх рознае. Пачатак: «А заміж сэрца ў снах лілея… / Навек знямелыя, / зямлю намацваюць / дамамі дахі…». З'яўляецца каханая, якая дае лірычнаму герою шчасце, адчуванне паўнаты жыцця і непаўторнасці праведзеных з Ёй імгненняў. Пасля — расстанне, якое зрывае ў адчай. І заканчэнне: «І, набрынялыя жытлом і целам, / смялей / чапляюцца за неба дахі… / Сны без лілеі абмялелі». (У апошнім сказе — цудоўны гукапіс!) Тое, што дахі падчас адчаю лірычнага героя «чапляюцца за неба», відаць, сведчыць, што ён спрабуе пераадолець скруху і існаваць далей (як у Ф. Ніцшэ: «Усё, што нас не забівае, робіць нас мацнейшымі»). Пачатковы і заключны паўторы, якія ўтварае кампазіцыйнае кальцо, падкрэсліваюць эмацыянальную і экзістэнцыяльна-лёсавую значнасць прысутнасці абранніцы ў сэрцы героя. Так што толькі час, праведзены з лілеяй-каханай, напоўнены незвычайным жыццесцвярджальным сэнсам і яркім каларытам навакольнага свету.

У мілоснай лірыцы М. Касцюкевіча, як можна заўважыць з вышэйпрыведзенага прыкладу, апісваецца або ідылія закаханых, або трагедыя / элегія расстання. Аўтар па-майстэрску ўмее перадаваць рух эмоцый і адчування чалавека. Псіхалагічны паралелізм пераадолення лірычным героем суіцыдальнага стану і нараджэння новага дня пасля чорнай ночы, падабенства ўнутранага і знешняга светаў, іх перапляценне, алітэрацыі ствараюць ашаламляльны эфект: «Ліхтарні сточваюць нажы / свайго святла аб цемру ночы. / Як прывід, золкі і прарочы, / спакой застыў каля мяжы / самоты і жадання жыць. / Яшчэ крыху — і забруіцца / у венах вуліц кроў машын, / ды сонны шоргат шпаркіх шын / не здолее як след напіцца / за дзень з асфальтавай крыніцы». Эфект катарсісу — пасля чарговай трагедыі. Гаючая моц чалавечага духу, здольнага ўваскрэснуць, як Фенікс з попелу, здольнага гераічна пераадолець выпрабаванні лёсу. Калі аўтар і бывае фаталістам, то пераважна ў дачыненні да мілосці. Гэта відаць у вершы «Наканаванне», дзе ім ужываецца рэдкая для сучаснай беларускай паэзіі ламаная рыфма: «…гады / гайдаюцца, як нер- / вы. Высокі грэх рэ- / алізуецца ў Нірване. / Яшчэ адным параненым / каханнем / сустрэне на світанні / рванасць сонца / і святасць раны».

Адметна М. Касцюкевіч назваў чатырохрадкоўі (і чамусьці адно васьмірадкоўе і адно пяцірадкоўе) квадратамі, а трохрадкоўі — трыпутнікамі (у кнізе «Кіпарысавы куфэрак» Інакенція Анненскага — назва падобная — «трылісніку», аднак азначалі яны вобразна-тэматычна звязаную нізку з трох вершаў). Працытую адзін трыпутнік М. Касцюкевіча: «Я быў на споведзі тваёй — / ў імправізацыі фартэпіяна / ляцела дзьмухаўцом малітва». Квадраты, трыпутнікі і монавершы як малыя жанравыя формы завяршаюць лірычную частку кнігі.

Паэзію ўзбагачаюць містычныя і экзатычныя элементы, якія прыўносяць у яе «адзіўленне». Такія сродкі спецыяльна ўжывалі паэты-рамантыкі, каб паказаць звычайныя рэчы незвычайнымі. Мікола Касцюкевіч згадвае народную прыкмету напрыканцы лета пісаць на апошнім зялёным лістку жаданне і адпускаць яго на вецер — каб здзейснілася. Паэт умее заўважаць Незвычайнае і ў карцінах прыроды. Так, яго лірычны герой цалуе «начную расу, / што лягла, / бы пярсцёнак заручны / на танюсенькі палец травы». Экзатычнай для беларускага вуха падаецца і паўднёвая флейта з аднайменнага верша, якая гучыць у прасторы паміж геліятропаў і магнолій, меладычна адцяняючы высокія пачуцці дваіх закаханых. Асэнсаванне свайго знаходжання ў чужым краі не пакідае лірычнага героя і ноччу. Так, Германія яму «адкрылася, / як успамін / пра ўсіх нязведаных жанчын», каб раніцай марыць пра наступныя каханні і пра вяртанне «ў Боскі Рым / Радзімы».

Урбаністычная лірыка пра родны край на фоне шматвекавай вясковай паранейшаму выглядае экзотыкай. У горадзе таксама ёсць свае пазнавальныя знакі: хмарачосы, аўтамабілі і тралейбусы на асфальтаваных дарогах, светлафоры (тэтрапціх «Квадры горада»), «акварыум крам» («Субкультура»). У вершы «Мінчук у пятым пакаленні...» паэт, маючы на ўвазе сябе, піша, што не меў досведу цяжкой сялянскай працы і таму адчувае сваю віну, карыстаючыся яе пладамі: «Я адцураўся, хоць і ўпотай, / сялянскага цяжкога поту / і ад знявагі не аслеп. / Але бывае, што далонь / пячэ няёмкасці агонь, / калі куплю ў краме хлеб». Тут экзотыкай з'яўляецца сялянская праца ў вачах карэннага гараджаніна. У містычным ключы можна разглядаць мастацкі «Сон» лірычнага героя з матывам-сумам ад расстання з каханай, з хаатычнай зменай няпэўных стракатых вобразаў — імітацыяй фізіялагічнага снабачання.

Яшчэ палова кнігі — пад загалоўкам «проза». Але тут зусім іншая гісторыя. Аўтар раскрываецца з іншага ракурсу. І гэты бок таленту Міколы Касцюкевіча таксама чакае сваіх даследчыкаў.

**Таццяна БАРЫСЮК**

## Адначаснікі



**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

### Чыстая плынь

Кажуць, што пачатак кожнага стагоддзя багаты на розныя катаклізмы, хаос і неспакой. Гэта датычыць прыроды, жыцця краін і людзей. Не стала выключэннем і XXI стагоддзе. Мы ўсе сведкі жахлівых цунамі, землятрусаў, кліматычных анамалій, палітычных супрацьстаянняў, знішчальных войнаў, разбурэння традыцыйнай маралі. Агрэсія стала традыцыяй, метадалогіяй у спрэчках, сродкі масавай інфармацыі палююць за скандаламі. Дабрыня, згода, кампраміс лічацца слабасцю, беспрынцыпнасцю. «Хто не з намі, той супраць нас» — зноў гэты лозунг падымаецца на штандары. І старыя сябры становяцца непрымірымымі ворагамі, плёткі і даносы — інструментамі барацьбы.

Дэгераізацыя, звяржэнне былых куміраў адкрывае поле для трыумфу шэрасці і рэваншызму, калі пасрэднасць адчувае сваю сілу і перавагу над сапраўдным талентам, калі заганяюцца ў кут высакароднасць, сумленнасць, праўдзівасць.

І так хочацца ў гэтым мутным патоку выплыць на чыстую плынь, наталіцца свежасцю спрадвечных слоў і пачуццяў, адшукаць у сваім сэрцы дабрыню і спагаду.

Менавіта гэтым кіраваўся я, задумваючы серыю расповедаў пра самых розных людзей, з кім, паводле выразу Дантэ, дзяліў хлеб і стол, сваіх адначаснікаў, некаторых з якіх ужо, на жаль, няма з намі. Шукаючы добрае і станоўчае ў іх, думаю, і сам станаўлюся дабрэйшым, вынішчаю ў сабе цёмнае і нікчэмнае. Таму і ўдзячны лёсу за тое, што ён падарыў мне гэтыя імгненні.

**Тамара Фёдараўна**

Ёй ужо за восемдзесят. Яна дрэнна бачыць, у яе ціск і цукровы дыябет. Цяпер яна амаль не выходзіць з дома ў сваім Наваполацку, дзе на пятым паверсе ў трохпакаёвай кватэры выраслі яе дзеці і гучаў заўсёды вясёлы і бадзёры голас яе Вадзіма, Вадзімкі, які ўжо каторы год, як знайшоў свой вечны прытулак на новых гарадскіх могілках. Гэты голас быў вясёлым і бадзёрым нават тады, калі магутны і ладны ў мінулым мужчына станавіўся абрубкам, без ног, і рухаўся па кватэры на калясцы.

Тамара Фёдараўна. Для мяне, сямігадовага хлапчука з прыгараднага полацкага пасёлка, яна была эталонам прыгажосці і мудрасці. Першая настаўніца, заўсёды дасціпная, адкрытая, ласкавая. Яна нібыта была аднекуль з іншага вымярэння, у тыя гады я нават уявіць сабе не мог, як, да прыкладу, мая настаўніца робіць звычайныя будзённыя справы, бы мая мама: мые бялізну, гатуе абед…

А тут яшчэ сталі казаць, што наша Тамара Фёдараўна выйшла замуж… У маім уяўленні гэта гучала дзіўна, бо для мяне настаўніца была нейкай вышняй істотай, і я хацеў, каб яе любілі толькі мы.

Пасля даведаўся, што Тамара Фёдараўна таксама вучыцца, толькі завочна ў педінстытуце, так што ў пятым класе мы з ёй не развіталіся: яна стала нашым класным кіраўніком і выкладчыцай рускай мовы і літаратуры.

Мы жылі непадалёк, і самым галоўным шчасцем для мяне і майго аднакласніка Толі Галубнічага было паднесці яе тоўсты жоўты партфель. Толя быў мацнейшы за мяне, і часцей партфель настаўніца давярала яму, а я ціха пакутаваў ад гэтага.

Аднойчы мяне моцна пакрыўдзілі аднакласнікі, і я вырашыў не хадзіць у школу. Два дні адпраўляўся з дому і блукаў па ціхіх полацкіх вулках. На трэці дзень Тамара Фёдараўна перастрэла мяне, калі я вяртаўся дадому, і запыталася, што здарылася. Як ні прасіла настаўніца, нават заплакала, я ні ў чым не прызнаўся. Тады яна проста папрасіла мяне праз дзень усётакі вярнуцца ў клас. Не ведаю, што гаварыла яна аднакласнікам, але з таго часу я заўсёды адчуваў іх цяпло і ўвагу. А яшчэ адзін раз яна ваявала за мяне з маімі калегамі па полацкай газеце, калі нейкія дрэнныя людзі хацелі ўзвесці паклёп. Яе словы спраўдзіліся, бо мана была потым выкрыта, і я мог смела глядзець людзям у вочы.

Я сябраваў з яе мужам і сынамі, і людзі дзівіліся, што столькі часу прайшло пасля школы, а сваю настаўніцу вучні памятаюць і шануюць. Што не толькі я, а мае ўжо зусім дарослыя аднакласнікі, якія і цяпер бываюць пры нагодзе ў яе хаце, дзеляцца ўсімі сваімі справамі і думкамі.

Яна такая ж наіўная і старамодная, і хоць ніколі не была камуністкай, заўсёды свята верыла, што чалавек чалавеку сябра, таварыш і брат. На маё вяселле, калі ўсе дарылі канверты з грашыма, яна прынесла падсвечнік ручной работы.

Мае дзеці любяць яе, як сваю бабулю.

Я часта думаю, што мне пашанцавала на добрых людзей з самага дзяцінства.

# Галоўны запавет Расула Гамзатава

Хізры Асадулаеў — карацінскі паэт і скульптар, які даўно жыве і працуе ў Беларусі. У Мінску ён узначальвае Міжнароднае грамадскае аб'яднанне «Горо». З творцам сустрэўся карэспандэнт нашай газеты.



Фота з сайта kekmir.com

**— Хізры, раскажыце, калі ласка, пра галоўныя кірункі дзейнасці таварыства.**

— Міжнароднае грамадскае аб'яднанне «Горо» першнаперш выступае за захаванне і развіццё моў і культур дагестанскіх народнасцей. А таксама — за ўмацаванне дружбы паміж народамі Беларусі і Расіі.

**— Так склалася, што болей мы ведаем аварскіх, даргінскіх паэтаў, а вось мастакі слова іншых народнасцей Дагестана мала вядомыя ў Беларусі…**

— А між тым ёсць жа яшчэ цахурская, табасаранская, рутульская, нагайская, лезгінская, лакская, кумыцкая, агульская літаратуры…

**— Сапраўды, калі мы ў Выдавецкім доме «Звязда» пачалі рыхтаваць кнігу аднаго верша Францыска Скарыны на мовах народаў свету, то з Дагестана шмат хто адгукнуўся. На цахурскую мову слова нашага першадрукара пераклаў Валеха Гамзатаў, на табасаранскую — Фіруза Султанава, на рутульскую — Фаціма Ібрагімава, на лакскую — Сугуры Увайсаў…**

— Нават у савецкія часы пра культуру Дагестана ў Беларусі мала што ведалі. Мо хіба толькі пра вырабы залатых кавалёў Кубачы. А з дагестанскіх паэтаў на беларускую мову пераклалі, мусіць, толькі Расула Гамзатава (з аварскай), Сулеймана Стальскага (з лезгінскай), Фазу Алієву (з аварскай)…

**— Дарэчы, зборнік Сулеймана Стальскага «Вершы і паэмы» пабачыў свет у 1939 годзе.**

— І ўсё ж сённяшняе пакаленне нават тых, хто мае дачыненне да мастацкай літаратуры, мала што ведае пра сучасную літаратуру Дагестана, ды і пра класіку таксама. Хутчэй за ўсё, нават нічога не ведае. Што мы робім, каб выправіць сітуацыю? Дзякуючы падтрымцы Пасольства Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь, падтрымцы Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей Беларусі па працягу дзесяці гадоў мы праводзілі літаратурна-музычныя вечары памяці Расула Гамзатава. Пагадзіцеся, інфармацыйную прастору, выхаваўчыя абсягі трэба пашыраць на прыкладзе нечага знакавага. А творчасць Расула Гамзатава і ёсць знакавая з'ява для ўсяго Дагестана. У вечарах удзельнічаюць музычныя ансамблі, вядомыя артысты беларускай эстрады. Запрашаем акцёраў, паэтаў, кампазітараў. Далучылі і вучняў старэйшых класаў некаторых мінскіх школ. Хлопчыкі і дзяўчынкі чытаюць вершы класіка аварскай літаратуры. Мы заахвочваем іх. Такія вечары дазволілі пазнаёміць моладзь з творчай спадчынай вялікага Расула Гамзатава. Атрымалася наладзіць і вечары лезгінскага класіка Сулеймана Стальскага ў Віцебску, даргінскага паэта А. Батырая ў Брэсце, кумыцкага класіка І. Казака ў Гродне.

**— Што яшчэ плануеце зрабіць дзеля ўшанавання памяці Расула Гамзатава ў Беларусі?**

— Мяркуем, што ў бліжэйшы час нам удасца ўсталяваць яго бюст у Мінску. Спадзяюся, што ні насельніцтва, ні кіраўніцтва горада супраць не будуць. Бо Гамзатаў быў частым госцем у Беларусі, напісаў цыкл вершаў «Беларускі сшытак». А пад уражаннем ад сустрэчы з Хатынню ён заявіў, што кожны чалавек павінен духоўна сябе ачышчаць хатынскім болем, сугучнасцю з трагедыяй сусветнага маштабу.

**— Пра якія шырокія мерапрыемствы можна гаварыць у звязку з будучай дзейнасцю «Горо»?**

— З 2014 года пачнём наладжваць штогадовыя дні паэзіі Дагестана ў Мінску. Збіраемся пазнаёміць беларусаў з усім шматабліччам мастацкай літаратуры Дагестана, краю, дзе на 14 мовах выходзяць газеты, перадачы на радыё і тэлебачанні. Працуюць тэатры і школы на 14 мовах. Мне падаецца, што знаёмства з дагестанскім досведам талерантнасці, грамадскага суіснавання, дзе за тысячагоддзе не было ніводнага міжнацыянальнага канфлікту, дапаможа і беларусам больш палюбіць родную мову, прыцягне ўвагу да іншых моў і культур.

**— Вы добра ведаеце нацыянальныя літаратуры народаў Дагестана… Што параілі б сёння беларускім перакладчыкам перастварыць на мове Купалы і Коласа?**

— У кожнага з паэтаў — свой каларыт, свая мудрасць. Мы ўжо згадвалі Фірузу Султанаву, Фаціму Ібрагімаву, Сугуры Увайсава… Я дадаў бы яшчэ аварку Тубхат Зургалаву, агульца Заміра Тарланава, даргінку Амінат Аліханаву, лезгінца Зульфікара Кафланава, нагайца Анварбека Култаева…

**— А ў чым, на ваш погляд, падабенства ў творах аўтараў з Беларусі і Дагестана?**

— Вельмі вялікая ўвага надаецца гісторыі сваёй Айчыны, мужнасці і гераізму народаў! Невычэрпнай падаецца тэма любові да маці.

**— Хізры, вы ж яшчэ і скульптар…**

— Як скульптар я сфарміраваўся тут, у Беларусі. Сустракаўся, працаваў поруч з многімі знакамітасцямі. Шмат што пераняў у іх, многаму навучыўся. Болей за ўсё я адзначыў бы іх працаздольнасць, любоў да прафесіі, мастацтва… І ўвогуле лічу сябе чалавекам, які бязмерна любіць Беларусь і беларускі народ, што выяўляецца ў маіх скульптурах. Мо таму яны і падаюцца лёгкімі, паветранымі, адкрытымі…

**Кастусь ЛЕШНІЦА**

# Новы год — нагода для ўсмешак



Першы зімовы і апошні ў 2013 годзе нумар «Вожыка» (№ 12) чытачы атрымалі якраз напярэдадні свят. А разам з ім — добры настрой і шмат усмешак. Як мінімум дванаццаць!

**Першая: навагодняя.** З'яўляецца пасля прагляду карыкатур мастакоў Аляксандра Каршакевіча, Алега Гуцола, Анатоля Гармазы, Пятра Козіча і іншых (чытач даведаецца, што на Новы год прыносяць буслы, чым гандлююць бабулі ў галалёд, што п'юць мужчыны ў мароз), а таксама — пасля прачытання верша Уладзіміра Мацвеенкі «Пад Новы год» і гісторыйкі Зоі Наваенкі «Пасля Новага года».

**Другая: лаканічная.** Узнікае пасля прачытання афарызмаў Дунькі Шып. Напрыклад, *«Калі ты прывык гаварыць адкрыта, многія дзверы для цябе зачыненыя»*, *«Прыгажуню цяжэй пераканаць у тым, што яна непрыгожая, чым прымусіць непрыгожую лічыць сябе прыгажуняй»*, *«Маральнасць узрастае з гадамі»*…

**Трэцяя: віншавальная.** Рэдакцыя часопіса і рэдкалегія шчыра віншуюць з юбілейнымі датамі сваіх даўніх аўтараў — пісьменнікаў Казіміра Камейшу і Уладзіміра Дуктава.

**Чацвёртая: сатырычная.** Выклікаюць фельетон Наталлі Кульгавай «Пазбягайце салодкага...», у якім апісваюцца дзве схемы злачынстваў: для даверлівых пенсіянераў і для даверлівых жанчын, а таксама сатырычныя карацелькі, змешчаныя ў рубрыках «Іголкатэрапія» і «Навіны з МУС: матай на вус..» з інтрыгуючымі назвамі: «Грошы з водарам кавы», «Свой чужы дом», «Кантрабанда на нагах», «Укралі лепшага сябра» і іншыя.

**Пятая: мастацкая.** Завітайце на «Вернісаж» да мастака-карыкатурыста Алега Папова — і самі ўсё пабачыце!

**Шостая: задумлівая.** Узнікае пры разгадванні вясёлых зімовых крыжаванак: асобна для дарослых і асобна для маленькіх чытачоў. Паспрабуеце ўгадаць? Тады, напрыклад, такое: *«Вечная спадарожніца Дзеда Мароза»*, або *«Мастацтва выцягваць грошы з чужой кішэні без крыміналу»*, або *«Некаторыя 1 студзеня пад ёй прачынаюцца»*.

**Сёмая: прыгодніцкая.** Яе выклікаюць расповед Віктара Лоўгача «Заела» пра паляванне на ваўкоў у ліпіпаўку, быль Ірыны Лявонавай «Жарт» пра Агаф'ю Пятроўну, якая хацела зарэгістраваць у міліцыі самагонны апарат і міні-сцэнка Генадзя Аўласенкі «Сіла звычкі» пра «верных» мужа і жонку.

**Восьмая: парнаская.** З'яўляецца пасля прачытання літаратурных пародый Васіля Жуковіча, Віктара Кунцэвіча, Міколы Тонкавіча, эпіграм Паўла Саковіча, верша Віктара Рэчыца «Ляэбнае замужжа» пра Агату, якая *«…За Мікіту замуж выйшла, / Што даўно ўжо вершы піша»* і што з гэтага атрымалася (рубрыка «Парнаскія жарты»).

**Дзявятая: настальгічная.** У рубрыцы «ГУмар СЯброў» чытач убачыць карыкатуры мастакоў часопіса «Чаян» (Рэспубліка Татарстан) і заўважыць, што свет не мяняецца!..

**Дзясятая: прыемная.** Кожны падпісчык часопіса атрымлівае ў якасці бонуса падарункі — настольны каляндар на 2014 год (для дарослых) і закладкі з коміксамі ды календарыкамі (для дзяцей).

**Адзінаццатая: мілая.** У рубрыцы «Імпарт» расказваецца пра «Ката Саймана» («Simon's Cat») — серыю кароткаметражных мультфільмаў, створаную англійскім аніматарам Сайманам Тофілдам. У кожным эпізодзе дзейнічае галоўны персанаж — вечна галодны вірлавокі кот, які патрабуе ад гаспадара ежы і ўвагі.

**Дванаццатая: зноў навагодняя.** З'яўляецца пры прачытанні афарызмаў: *«Навагодні настрой — гэта калі рады бачыць нават тых, хто памыліўся дзвярамі» (Міхаіл Мамчыч, журналіст)*, *«Мы свята абяцаем сабе, што з Новага года перастанем рабіць усё тое, што прыносіла нам найбольшае задавальненне ў старым»*, *«Добра, што ёсць стары Новы год — яшчэ адзін шанц пачаць жыць па-новаму» (невядомы аўтар)* і іншых.

Усміхайцеся часцей у 2014 годзе! А «Вожык» вам у гэтым дапаможа.

**Юрый ВЯРБІЦКІ**

# Скарына: традыцыі і эвалюцыя

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Рэалізацыя праекта павінна скончыцца да 2017 года, калі мы будзем адзначаць 500-годдзе нацыянальнага кнігадрукавання. У выніку будзем мець цэлы збор (25 кніг у 20 тамах) факсіміле пражскіх і віленскіх выданняў Францыска Скарыны. Іх аснову складуць электронныя копіі кніг, што захоўваюцца ў бібліятэках і музеях Беларусі, Расіі, Украіны, Германіі і іншых краін. Дзякуючы мецэнацкай падтрымцы «Банка БелВЭБ» гэтыя кнігі будуць бясплатна перададзеныя ў бібліятэкі, архівы, музеі Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Польшчы, Германіі, а таксама міжнародныя арганізацыі: ААН і ЮНЕСКА. Вельмі каштоўны пласт культурнай спадчыны нашага народа стане дасягальным для грамадства — праз арганізацыі культуры, навукі, адукацыі.

— Ініцыятыва рэалізаваць такі праект прагучала ад Нацыянальнай бібліятэкі краіны яшчэ два гады таму, — распавёў старшыня праўлення ААТ «Банк БелВЭБ» Павел Калаур. — У нас не было сумневаў адносна значнасці і патрэбнасці падрыхтоўкі такіх выданняў. Але ці зможам справіцца ў акрэслены тэрмін? Аднак мы адкінулі сумневы, знайшлі разуменне на ўсіх узроўнях і ўжо стартуем! Я перакананы, што праект будзе завершаны якраз у запланаваны тэрмін і 20 кніг Скарыны пабачаць свет да 2017 года ў выглядзе рэпрынтаў. Падтрымліваць значныя і цікавыя праекты ў галіне культуры — для нас вялікі гонар. У бліжэйшы час будзе рэалізавана каля 10 новых задумак па аднаўленні і вяртанні гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі.

Рэалізацыя праекта па выпуску кніг фактычна толькі пачалася, аднак намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі па навуковай і выдавецкай дзейнасці Алесь Суша зазначыў: праект амаль адбыўся. Для яго рэалізацыі сфарміраваная сапраўды прафесійная рабочая група з прадстаўнікоў навуковай эліты, спецыялістаў кнігавыдавецкай справы, а таксама арганізацый, якія актыўна працуюць у галіне папулярызацыі кніжнай спадчыны сярод насельніцтва.

— Для беларускай культуры асоба Скарыны азначае надта шмат, — зазначыў Алесь Аляксандравіч. — Гэта сапраўды герой, стваральнік, чалавек, які прадвызначыў характар развіцця нашай культуры. Мы ж да нядаўняга часу нават не ведалі, як захавалася спадчына нашага першадрукара, дзе яна цяпер, як можа выкарыстоўвацца. Але спробы вывучаць, публікаваць прадмовы і пасляслоўі Скарыны на мове арыгінала, выдаваць рэпрынтна некаторыя з яго кніг усё ж прадпрымаліся. У той жа час поўнага факсімільнага ўзнаўлення спадчыны Скарыны яшчэ не было. Мы — сведкі пачатку сапраўды ўнікальнай справы. Варта весці гаворку пра высокі навуковы ўзровень падрыхтоўкі кніг, а таксама іх выдатную паліграфію.

*Фота Кастуся Дробава*



*Старшыня праўлення ААТ «Банк БелВЭБ» Павел Калаур і намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алесь Суша з падпісаным у друк першым томам поўнага збору кніг Францыска Скарыны.*

Адным з навуковых кансультантаў, якія працуюць над рэалізацыяй гэтага знакавага праекта, з'яўляецца вядомы гісторык-медыявіст, кнігазнаўца, доктар гістарычных навук Георгій Галенчанка. Ён звярнуў увагу прысутных на тое, што біяграфія нашага першадрукара сёння запаўняецца ўсё новымі і новымі міфамі. Шаноўны даследчык выказаў упэўненасць, што выданне поўнай калекцыі кніг Ф. Скарыны падштурхне навукоўцаў да больш падрабязнага вывучэння невядомых момантаў яго жыцця, а крыніцы і новыя дакументальныя сведчанні варта шукаць у гарадах, дзе доўгі час жыў і працаваў Скарына, у архівах Прагі, Падуі, Кракава.

Значнасць праекта ў агульнанацыянальным маштабе проста неацэнная. Відавочная яго істотнасць і для шырокай грамадскасці таксама. Кнігі Скарыны для нас — святыня. Мы пра іх шмат чуем, чытаем, згадваем са школы. А ці многія іх бачылі, гарталі? Думаю, адзінкі. Дык хіба не будзе прыемна звычайнаму чытачу зайсці ў бібліятэку і без папярэдніх запісаў і дазволаў на працу са старадрукамі пагартаць, да прыкладу, скарынаўскую «Малую падарожную кніжыцу»? Хіба не цікавей будзе вучням знаёміцца з гісторыяй і літаратурай нашай краіны, калі настаўнік прынясе ім на ўрок кнігу і скажа, што вось так выглядала першая скарынаўская Біблія? Хіба не будзем мы з гонарам паказваць гэтыя выданні замежнікам і казаць, што менавіта так выглядалі першыя беларускія кнігі, надрукаваныя паўтысячагоддзя таму? Думаецца, адказ відавочны.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*З нагоды*

# Казка Марыі

Ёлка — абавязковы атрыбут Новага года. Каля яе збіраецца ўся сям'я, а ўпрыгожванне ёлкі даўно ператварылася ў рытуал.

Адкуль такая традыцыя з'явілася? Ёсць мноства версій. Адну я знайшла ў невялічкім апавяданні, якое было надрукавана 120 гадоў таму ў газеце «Губернскія ведамасці» ў № 102 за 29 снежня 1893 года — «Напярэдадні Каляд», за подпісам М. Б.

Твор распавядае пра двух братоў — шасцігадовага Мішу і чатырохгадовага Міколу, якія жылі з маці ў невялікім пакоі «в покривившемся на бок и въехавшем в землю домишке». І як звычайныя дзеці яны марылі пра цуд на Каляды, чакалі, калі ў іх дом завітае Хрыстос з падарункамі. Хворая, саслабелая маці распавядала ім пра навагоднюю ёлачку: як быццам у дзень нараджэння Хрыста ўсе людзі заснулі, дрэвы «знялі сваё адзенне», нават зоркі не іскрыліся. І толькі трое людзей ішлі пакланіцца Яму, і адна зорка, якая не спала, асвяціла іх шлях, а «…стоявшая у входа ёлочка, единственная изо всех деревьев, не спавшая в эту ночь и нарядившаяся в своё лучшее зелёненькое платьице, тихо закивала Ему головкой и зашептала свое приветствие. И улыбнулся тогда маленький Христос и протянул к ним Свои ручки. И сказал тогда Господь: «Пусть с этих пор все деревья в это время стоят голыми, а только одна ёлочка зеленеет; пусть каждый год в эту ночь она будет нарядной и красивой и заставляет улыбаться детские глазки… а добрые дети будут получать подарки…» Вот почему в этот вечер каждый год люди наряжают ёлочку, разукрашивают её блёстками, огнями, увешивают разными сластями, носят звезду и поют хвалебные песни в честь родившагося Христа, а у каждой детской кроватки появляются подарки, приносимые ночью Христом…» Архіўныя матэрыялы да жыцця і творчасці Максіма Багдановіча. Сшытак 1, Мінск, 1996 г.).

Подпіс аўтара раскрыў Адам Багдановіч. Гэтае каляднае апавяданне было напісана маці таленавітага паэта Максіма Багдановіча.

Марыя нарадзілася ў сям'і Апанаса Іванавіча Мякоты і Таццяны Восіпаўны Малевіч у Ігумене (сёння г. Чэрвень) у 1869 годзе. Яе бацька паходзіў са старажытнага беларускага шляхецкага роду Мякотаў. Але дзяцінства Марыі складана назваць шчаслівым: смерць бацькі, Мінскі дзіцячы прытулак. Магчыма, таму такі сумны настрой прасочваецца ў яе адзіным апавяданні «Напярэдадні Каляд», напісанае пад уплывам творчасці Ф. Дастаеўскага, а таксама з асабістых дзіцячых перажыванняў.

Сама Марыя была цудоўнай маці. Усю сваю любоў, пяшчоту, увесь свой вольны час яна аддавала дзецям, усур'ёз клапацілася пра іх выхаванне. Маючы даволі грунтоўную педагагічную адукацыю (скончыла трохкласнае Аляксандраўскае вучылішча, а затым працягнула сваё навучанне ў земскай настаўніцкай школе ў Пецярбургу), Марыя выхоўвала сваіх сыноў — Вадзіма, Максіма і Лёву — па сістэме моднага на той час нямецкага педагога Фрыдрыха Фрэбеля, які выкарыстоўваў дыдактычныя і рухомыя гульні, лічачы іх асновай выхавання і навучання дзяцей дашкольнага ўзросту. З дзецьмі Марыя практычна не расставалася. І абавязкова перад сном расказвала ім казкі.

Калі б Марыі было наканавана доўгае жыццё, яна, пэўна, стала б добрай пісьменніцай. Пра гэта яскрава сведчыць яе адзінае апавяданне. Хай сабе з адкрытым фіналам, але гэта значыць, што ў ім ёсць месца цуду, які абавязкова павінен адбыцца падчас каляднага свята.

У Літаратурным музеі Максіма Багдановіча адкрылася маленькая выстаўка, прысвечаная 120-годдзю адзінага апавядання маці вялікага паэта. Запрашаем!

**Ірына ШОРАЦ**

# Зямляк пра землякоў

У выдавецтве «Чатыры чвэрці» выйшла новая кніга журналіста і пісьменніка Міколы Леўчанкі пад назвай «Вяртанне» (Мінск, 2013). Яе склалі вершы пра малую Радзіму, гумарэскі, літаратурна-крытычныя артыкулы, прысвечаныя творчасці вядомых пісьменнікаў Магілёўшчыны, а таксама ўспаміны пра дзяцінства, край маленства, блізкіх і дарагіх аўтару людзей. Кніга ілюстраваная фотаздымкамі. Уступны артыкул да зборніка напісаў зямляк аўтара, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, член Праўлення Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Міхась Пазнякоў. Ён адзначае, што за многія гады творчай працы Мікола Леўчанка стаў выдатным летапісцам Быхаўшчыны. Работа ў рэдакцыі раённай газеты «Маяк Прыдняпроўя» паспрыяла аб'ехаць і абысці ўвесь раён, пазнаёміцца з яго гісторыяй, з героямі Вялікай Айчыннай вайны і напружаных працоўных будняў. Менавіта пра іх расказваюць кнігі Міколы Леўчанкі, яго шматлікія публікацыі на старонках самых розных выданняў. І невыпадкова яго журналісцкае пяро прызнана залатым, а сам ён мае нямала ўзнагарод!

У сваёй новай кнізе Мікола Леўчанка змясціў вялікі цыкл вершаў «Вяртанне». У паэтычнай форме аўтар цікава расказвае пра населеныя пункты некалькіх раёнаў Магілёўшчыны, пра жыццё іх жыхароў. Вершы прасякнуты любоўю да людзей, прыроды, паказваюць гераічнае мінулае і сучаснасць роднага краю. Ураджэнец Касцюковіцкага раёна, Мікола Леўчанка з болем і горыччу піша пра сваю родную вёску Калодзецкая, якую «пахавала» Чарнобыльская катастрофа, а аднавяскоўцы знайшлі прытулак у іншых вёсках і гарадах...

Значны раздзел у кнізе займаюць «Гумарэскі». Але ў адрозненне ад чыста літаратурных яны маюць дакументальную аснову — сюжэты ўзяты з жыцця землякоў пісьменніка. Гэта сапраўдныя «Жыццёвінкі», як пазначае такі жанр Васіль Ткачоў. Нечаканыя, часта вясёлыя іх канцоўкі выклікаюць смех, іншы раз, як кажуць, праз слёзы. Аўтар не проста забаўляе чытача, а дае яму падставы для роздуму, для працы душы.

Многія ўжо заўважылі і Міколу Леўчанку як літаратурнага крытыка. І тут у першую чаргу ён дбае пра землякоў, даследуе творчасць знакамітых аўтараў з Магілёўшчыны і тых пісьменнікаў, жыццё якіх звязана з Быхаўшчынай.

Першы лаўрэат абласной літаратурнай прэміі імя Алеся Пісьмянкова за дасягненні ў літаратуры, заснаванай у 2012 годзе Магілёўскім абласным аддзяленнем




Саюза пісьменнікаў Беларусі, Мікола Леўчанка з цеплынёй успамінае пра сустрэчы з гэтым выдатным паэтам. У полі зроку аўтара — творчасць Аляксея Пысіна, Міхася Пазнякова, Васіля Ткачова, Змітрака Марозава, Святланы Басуматравай, Міколы Макарцова, Міхася Мушынскага і многіх іншых паэтаў, празаікаў, даследчыкаў літаратуры і публіцыстаў. М. Леўчанка расказвае шмат цікавага пра іх жыццё і дзейнасць, узаемаадносіны з іншымі творцамі.

**Міхась СЛІВА**

# Мінск — кніжная сталіца свету-2017?

**Ерэван — 2012. Бангкок — 2013. Абуджа — 2014. Гэта кароткі пералік гарадоў, якія былі аб'яўленыя ЮНЕСКА Кніжнымі сталіцамі свету. У 2017 годзе на гэтае ганаровае званне ў ліку іншых будзе прэтэндаваць і Мінск. Пытанне падрыхтоўкі намінацыйнага дасье, распрацоўкі дзяржаўнай праграмы развіцця і папулярызацыі чытання, пошуку новых шляхоў прапаганды кнігі сёння вельмі важнае. Яно павінна вырашацца на самым высокім узроўні, з удзелам шырокай грамадскасці. Кніга з'яўляецца брэндам нашай краіны, пра яе ролю неаднойчы казаў кіраўнік дзяржавы, ды і 500-годдзе нацыянальнага кнігадрукавання — добрая перадумова заяўкі для ЮНЕСКА.**

Прызначэнне Мінска кніжнай сталіцай свету — вельмі вялікая падзея. Каб так сталася, каб мы перамаглі ў барацьбе за гэтае званне з іншымі дзяржавамі, мы павінны паяднаць свае намаганні: і дзяржаўныя супрацоўнікі, і журналісты, і пісьменнікі, і чытачы. Каб абмеркаваць актуальныя пытанні падрыхтоўкі намінацыйнага дасье для ЮНЕСКА, разгледзець новыя цікавыя прапановы і акрэсліць магчымыя шляхі папулярызацыі кніг ў дзяржаве, за «круглым сталом» у грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы сабраліся прадстаўнікі Міністэрстваў інфармацыі і культуры Беларусі, Нацыянальнай бібліятэкі краіны, кіраўнікі грамадскіх арганізацый, пісьменнікі, выдаўцы.

**Алесь Суша, намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі па навуковай і выдавецкай дзейнасці:**

— Беларусь — нацыя кнігі, народ кнігі. Нездарма найбольш вядомымі, яркімі асобамі нашай культуры былі людзі, так ці інакш звязаныя з кнігай. Гэта кнігавыдаўцы, пісьменнікі, даследчыкі. І калі прыгадваць мінуўшчыну, то ў свядомасць найперш прыходзяць імёны людзей кніжных — Францыска Скарыны, Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Льва Сапегі. Таму сёння, знаходзячыся напярэдадні надзвычай важнага юбілею — 500–годдзя беларускага кнігадрукавання, мы ўсё часцей пачынаем задумвацца пра выключную ролю кнігі ў нашым жыцці і ў станаўленні, развіцці айчыннай культуры. Калі аналізаваць працэсы, што адбываюцца сёння ў айчынным кнігавыданні, можна заўважыць шмат станоўчых з'яў: адно за адным выходзяць факсімільныя выданні, з'яўляюцца цудоўныя альбомы, нашы кнігі заваёўваюць шматлікія прэміі, прызы на міжнародных конкурсах «Мастацтва кнігі»…

Ідэя правесці святкаванне 500-годдзя беларускага і славянскага кнігадрукавання на міжнародным узроўні з'явілася прыкладна два гады таму, калі планавалася, што Сусветнай сталіцай кнігі стане Ерэван. Тады нашымі армянскімі калегамі быў праведзены цэлы шэраг падрыхтоўчых мерапрыемстваў. Думаецца, гэта сапраўдны ўзор, якім чынам кніга — а для армян гэта таксама святое паняцце — здольная паказаць узровень развіцця культуры нацыі ў цэлым. Вось тады і быў распачаты шэраг абмеркаванняў, ці можа Мінск і, шырэй, Беларусь стаць кніжнай сталіцай на 2017-ы?

Год таму на Міжнародным кангрэсе «Нацыянальная бібліятэка як феномен культуры» прайшлі рэгіянальныя кансультацыі ЮНЕСКА з удзелам прадстаўніка гэтай міжнароднай арганізацыі Яніса Карклінса, дзе абмяркоўвалася пытанне магчымасці ўдзелу Беларусі ў гэтым праекце. Такая ініцыятыва была папярэдне падтрымана, прычым агульная зацікаўленасць ідэяй узнікла не толькі з боку Беларусі, але і з боку ЮНЕСКА. З таго часу мы ўсё часцей задумваемся пра тое, што можа быць зроблена да 2017 года. Варта падкрэсліць, што пэўныя напрацоўкі намі ўжо назапашаныя.

У цэлым я лічу, што Беларусь можа прэтэндаваць на званне Сусветнай сталіцы кніжнасці, у тым ліку і горад Мінск. Можна казаць і пра іншыя гарады, да прыкладу, Полацк як радзіму Францыска Скарыны, Еўфрасінні Полацкай, Сімяона Полацкага. Але, мусіць, толькі горад Мінск з найлепш адбудаванай інфраструктурай здольны прыняць вялікую колькасць турыстаў, правесці шматлікія мерапрыемствы, стаць адным з асноўных цэнтраў свята. Але гэта не выключае магчымасці яго правядзення ў розных месцах і гарадах нашай краіны.

> *Гэты праект можа быць паспяхова рэалізаваны толькі пры цесным супрацоўніцтве дзяржаўных органаў, устаноў і арганізацый, грамадскіх арганізацый і шырокай грамадскасці. Бо асноўная яго ідэя — рашэнне праблем папулярызацыі чытання ва ўсіх краінах. Яна сёння мае глабальны характар, таму ў многіх краінах праграмы па прасоўванні, падтрымцы чытання маюць статус дзяржаўных.*

Натуральна, 500-годдзе беларускага кнігадрукавання — гэта не больш чым нагода для таго, каб нашай краіне намінавацца на гэты высокі статус ЮНЕСКА. Гэта мусіць быць важным фактам, які нам дапаможа. Але асноўны крытэрый, на які звяртае ўвагу ЮНЕСКА пры адборы загадзя падрыхтаваных намінацыйных дасье, — сучасная праграма развіцця чытання, культуры кнігі, кніжнасці, папулярызацыя чытання ў асяроддзі розных груп грамадства. Натуральна, у гэтым аспекце нам таксама ёсць чым ганарыцца: дасягненні з боку бібліятэчнай грамадскасці, кнігавыдавецкіх устаноў, кнігагандлёвых цэнтраў. Думаю, мы таксама можам казаць пра шматлікія станоўчыя зрухі ў галіне навуковай і сацыякультурнай дзейнасці ў плане прапаганды кнігі.

Больш за тое, ужо створаная міжведамасная рабочая група, якая распрацавала цэлы шэраг прапаноў па правядзенні маштабнага кніжнага свята, якія могуць быць рэалізаванымі да 2017 года на вельмі высокім міжнародным узроўні. Справа змагання за статус Сусветнай сталіцы кнігі — надзвычай няпростая. Да прыкладу, на 2014 год намініраваўся моцны кніжны цэнтр — Вільнюс — і не прайшоў. Многія буйныя гарады свету ўжо падавалі свае дасье і таксама не прайшлі. Таму сёння нам трэба вельмі разумна і актыўна папрацаваць, каб наша намінацыйная заяўка для ЮНЕСКА выглядала прыстойна.

**Наталля Задзяркоўская, галоўны спецыяліст упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь:**

— Мне бачыцца вельмі лагічным, што гэтую гаворку распачаў прадстаўнік Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, бо менавіта гэтая ўстанова стала адным з ініцыятараў праекта. Вельмі прыемна бачыць тут Тадэуша Стружэцкага, чалавека, які стаяў ля самых яго вытокаў. Гаворка пра ўдзел Мінска ў гэтым праекце пачала весціся яшчэ ў 2012 годзе, які быў у нашай краіне аб'яўлены Годам кнігі. Калі Міністэрства культуры Беларусі падводзіла вынікі мерапрыемстваў, што былі праведзеныя цягам гэтага года, стала зразумела, што работу па папулярызацыі чытання, кнігі трэба працягваць і надалей. Тады, на пачатку 2013 года, ад Міністэрства культуры мы накіравалі афіцыйны ліст ва Урад Рэспублікі Беларусь. Там была змешчана прапанова правесці работу па вылучэнні горада Мінска на атрыманне статусу Сусветнай сталіцы кнігі. Нашу ініцыятыву падтрымалі Міністэрства інфармацыі і Міністэрства замежных спраў Беларусі.

Усярэдзіне 2013 года мы атрымалі ліст у падтрымку ініцыятывы ад Савета міністраў за подпісам намесніка прэм'ер-міністра краіны Анатоля Тозіка. Таму пры Міністэрстве культуры была створана рабочая група, у склад якой увайшлі прадстаўнікі Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта, міністэрстваў культуры, інфармацыі, замежных спраў краіны, Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Старшынёй рабочай групы быў прызначаны намеснік міністра культуры краіны Васіль Чэрнік. Першае пасяджэнне рабочай групы адбылося ў жніўні 2013 года. У якасці сусветнай сталіцы кнігі-2017 мы прапаноўваем вылучыць менавіта Мінск, хоць раней ішла гаворка і пра Полацк.

Варта падкрэсліць, што часу на падрыхтоўку дасье і складанне прапаноў па правядзенні свята ў нас не так і шмат. Згодна з правіламі падачы намінацыйнай заяўкі, мы павінны накіраваць матэрыялы ў ЮНЕСКА за 2 гады да плануемай даты. Таму апошні тэрмін — красавік 2015 года. Застаецца вельмі мала часу, і на працягу 2014-га варта працаваць надзвычай актыўна.

Што ўжо зроблена і куды будзем рухацца далей? Мы паставілі перад сабой мэту сабраць прапановы па правядзенні мерапрыемстваў, што ўвойдуць у намінацыйную заяўку. Ужо ёсць вельмі цікавыя ідэі імпрэз, прапанаваныя Мінгарвыканкамам і Нацыянальнай бібліятэкай, вельмі актыўна мяркуюць прымаць удзел у святкаванні менавіта дзіцячыя бібліятэкі. Яны распрацавалі канцэпцыю шэрагу акцый, імпрэз па папулярызацыі дзіцячага чытання. Чакаем прапаноў ад Міністэрства інфармацыі: зразумела, на іх вялікія спадзяванні, бо непасрэднымі ўдзельнікамі святкавання мусяць стаць кнігагандлёвыя і кнігавыдавецкія арганізацыі.

> *…трэба думаць перш за ўсё пра тое, якую кнігу мы будзем папулярызаваць. Гэта павінна быць беларуская кніга, магчыма, выдадзеная на розных мовах. Гэта можа стаць тым плюсам, што дазволіць нам дамагчыся гонару называцца кніжнай сталіцай свету-2017.*

У пачатку 2014 года зноў адбудзецца пасяджэнне рабочай групы, дзе будуць дэталёва разглядацца дасланыя прапановы, фармулявацца новыя ідэі. Варта падкрэсліць, што ў нас ужо ёсць цікавыя ідэі, але мы пакуль атрымалі іх не ад усіх, ад каго хацелі.

Адным з крытэрыяў адбору кніжнай сталіцы свету з'яўляецца ступень удзелу ў гэтым праекце рэгіёнаў. Чым больш актыўны ўдзел у святкаванні будуць браць рэгіёны, тым больш шанцаў мае горад на вылучэнне. Мы ніяк не абмяжоўваем фантазіі прапаноў, чым цікавейшымі будуць ідэі, тым лепей. Падчас пасяджэння рабочай групы мы нават стараліся прыдумаць нейкую «фішку», каб наша заяўка адрознівалася ад іншых прапаноў.

**Кансультант упраўлення выдавецкай дзейнасці і кніжнага гандлю Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь Людміла Быкава:**

— У працяг выступлення Наталлі Іванаўны хачу адзначыць, што цяпер Міністэрствам інфармацыі краіны вядзецца актыўная праца па акумуляванні прапаноў для правядзення гэтага значнага свята. Усе ідэі, канцэпцыі ў асноўным звязаныя з кнігамі, але мы мяркуем, што не варта абмяжоўвацца толькі кнігамі. Што ж да непасрэднага ўдзелу Міністэрства інфармацыі, то мы будзем забяспечваць аказанне самай актыўнай інфармацыйнай падтрымкі ўсіх мерапрыемстваў у межах падрыхтоўкі да святкавання.

Папулярызацыя кнігі і прапаганда чытання — адзін з прыярытэтных кірункаў працы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ужо добрай традыцыяй становіцца правядзенне Каляднага дабрачыннага балю кнігі — унікальнага мерапрыемства, закліканага не толькі сабраць сродкі для падтрымкі дзіцячых дамоў, але і прадэманстраваць значнасць кнігі і чытання, вылучыць самыя яркія выдавецкія праекты года. Але цяпер найбольш актуальная справа для нас — падрыхтоўка да XXI Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, што пройдзе ў лютым. Падчас кніжнай выстаўкі мы таксама будзем рабіць акцэнт на тое, што наш горад рыхтуецца прэтэндаваць на атрыманне падобнага высокага статусу.

Варта адзначыць, што і ў падрыхтоўцы намінацыйнай заяўкі Міністэрства інфармацыі таксама бярэ самы актыўны ўдзел. Так, першы намеснік міністра інфармацыі Лілія Ананіч — намеснік старшыні рабочай групы. А нашы калегі-выдаўцы з іншых краін аказваюць добрую кансультацыйную дапамогу. У прыватнасці, Беларусь з'яўляецца пастаянным удзельнікам Міжнароднага конкурсу «Мастацтва кнігі» краін-удзельніц СНД. Гэтае творчае спаборніцтва — выдатная магчымасць атрымаць параду ад калег, у тым ліку Арменіі, чыя сталіца ўжо атрымлівала ганаровае званне, за якое мы будзем змагацца. Калегі з Ерэвана аказваюць нам кансультатыўную дапамогу па ўсіх пытаннях.

**Старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў:**

— Мінск з'яўляецца магутным нацыянальным і міжнародным цэнтрам кнігі. У нашым горадзе працуюць многія творцы, якія пішуць не толькі па-беларуску і па-руску, але на іншых рэдкіх мовах.

Да прыкладу, у Саюзе пісьменнікаў Беларусі ёсць сябры, што пішуць на фарсі, армянскай, курдскай, персідскай, балгарскай мовах. У нашай краіне выдаюцца і іх кнігі. Натуральна, іх не так шмат, але не варта забывацца на тое, што і падобныя выданні тут таксама прадстаўлены. Думаецца, што Саюз пісьменнікаў Беларусі здольны прымаць самы непасрэдны ўдзел у стварэнні прапаноў па правядзенні такога значнага міжнароднага свята. Гэта цікавыя акцыі, прэзентацыі, імпрэзы.

І нам сапраўды ёсць што прадставіць. Толькі ў Мінску за год выпускаецца як мінімум 200 кніг сучасных аўтараў і прыкладна столькі ж выданняў класікі — беларускай, рускай, замежнай. А СПБ праводзіць вялікую культурна-асветніцкую работу па прадстаўленні і папулярызацыі кнігі. За год адбываецца больш як 2 тысячы самых розных мерапрыемстваў — прэзентацый, творчых вечарын, юбілейных сустрэч, паэтычных чытанняў — у бібліятэках, музеях, школах, установах культуры. Ствараюцца і працуюць літаратурныя клубы, студыі, аб'яднанні, гасцёўні.

Думаю, што самы галоўны абавязак пісьменнікаў — пісаць кнігі, забяспечыць непарыўны літаратурны працэс. Больш за тое, мы заўсёды рады сустрэцца з чытачамі, прадставіць свае творы як мага больш шырокай аўдыторыі.

**Намеснік старшыні Беларускага фонду культуры Тадэуш Стружэцкі:**

— Каб абмеркаваць гэтае важнае пытанне, мы сабраліся зусім не рана, а можа, нават позна. 3 мая 2012 года, калі была прапанавана сама ідэя, прайшло ўжо даволі многа часу, і перад намі вельмі аб'ёмны і складаны праект. Безумоўна, рэалізаваць яго будзе няпроста, бо прэтэндэнтаў на статус Сусветнай сталіцы кнігі многа і адбіраюцца яны вельмі дакладна, скрупулёзна, іх разглядае некалькі міжнародных арганізацый на чале з ЮНЕСКА.

Безумоўна, каб мець магчымасць прэтэндаваць на такі статус, краіне трэба мець досыць шмат перадумоў для святкаванняў, а іх у нас якраз дастаткова. Але нават напярэдадні прыняцця непасрэднага рашэння і атрымання гэтага статусу нам трэба рэалізаваць цэлы комплекс мерапрыемстваў, якія будуць працаваць на карысць нам.

Гэты праект можа быць паспяхова рэалізаваны толькі пры цесным супрацоўніцтве дзяржаўных органаў, устаноў і арганізацый, грамадскіх арганізацый і шырокай грамадскасці. Бо асноўная яго ідэя — рашэнне праблем папулярызацыі чытання ва ўсіх краінах. Яна сёння мае глабальны характар, таму ў многіх краінах праграмы па прасоўванні, падтрымцы чытання маюць статус дзяржаўных.

Мне давялося быць у складзе дэлегацыі падчас правядзення мерапрыемстваў з нагоды надання Ерэвану статусу Сусветнай сталіцы кнігі. Сапраўды, гэта была вельмі яркая падзея для ўсіх гасцей, што прыехалі ў Ерэван, але вельмі значным святкаванне сталася перш за ўсё для жыхароў Арменіі. Гэта нацыянальнае свята, што аб'ядноўвала ці дадаткова аб'ядноўвала армянскую нацыю. Армянская дыяспара вельмі актыўна брала ўдзел у рэалізацыі гэтага праекта. Больш за тое, прадстаўнікі дыяспары падарылі ўдзельнікам святкавання выдатны канцэрт сусветна вядомага тэнара з Італіі Андрэа Бачэлі, яны дапамаглі арганізаваць у многіх краінах свету цэлы шэраг мерапрыемстваў, у прыватнасці, выстаўкі кніг-старадрукаў, а таксама армянскага мастацтва ў Іспаніі, Італіі, Амерыцы. У гэтых імпрэзах удзельнічалі прадстаўнікі вышэйшых органаў улады краіны. Самі імпрэзы адбываліся 23 красавіка, у Сусветны дзень кнігі і аўтарскага права. Менавіта 23 красавіка штогод пачынаецца рэалізацыя такога праекта.

Мяне таксама ўразіла, што амаль ва ўсіх мерапрыемствах у Ерэване з нагоды надання гэтаму гораду статусу Сусветнай сталіцы кнігі браў удзел прэзідэнт краіны, а разам з ім і іншыя высокія чыноўнікі. Тут прысутнічалі дэлегацыі з 30 краін свету, кіраўнікі ўсіх міжнародных арганізацый. Але, як мне падаецца, самым галоўным быў настрой, які панаваў падчас свята. Гэта было нацыянальнае святкаванне сяброўства, яднання, адчування сваёй нацыянальнай годнасці. Вось яна, звышмэта, якая, на мой погляд, і павінна ставіцца пры рэалізацыі гэтага праекта.

Можа, мы яшчэ недастаткова адчуваем значнасць справы. Сапраўды, гэта не толькі клопат міністэрстваў, гэта клопат усёй краіны. Бо калі горад Мінск атрымае гэты надзвычай ганаровы статус, то рэалізацыя мерапрыемстваў павінна ажыццяўляцца па ўсёй краіне. Спраў хопіць усім.

У Ерэване падчас святкавання адбылася міжнародная кніжная выстаўка «Арменія-экспа», дзе былі прадстаўлены кніжныя выданні з большасці краін свету, у тым ліку і годная экспазіцыя Беларусі. Прайшло адкрыццё помніка кнізе, шэраг іншых імпрэз. Той знакавы год пакінуў памяткі на многія дзесяцігоддзі. Думаю, што і нам варта звярнуць увагу не толькі на эпізадычныя імпрэзы, але і на справы, якія мусяць запомніцца на наступныя дзесяцігоддзі, нават стагоддзі.

Сёння працэс падрыхтоўкі дасье павінен ісці больш актыўна, больш за тое, яно мусіць рыхтавацца не вузкім колам, а з шырокім абмеркаваннем, з удзелам усіх зацікаўленых. Дасье — базавы дакумент, які стане падставай для атрымання гэтага высокага статусу. Думаецца, у Мінска ёсць усе шанцы, у гэтым выпадку у 2017 годзе мы ўсе з вялікім гонарам, задавальненнем і радасцю не толькі возьмем удзел у святочных мерапрыемствах, але і будзем адчуваць сябе арганізатарамі.



Фота Івана Суслава

**Старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп:**

— Не так даўно я прысутнічаў на пасяджэнні Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА. Варта падкрэсліць, што ў план работы гэтай камісіі на 2014 — 2015 год ужо ўключана пытанне «Мінск — сусветная сталіца кнігі-2017». Прагучаў даклад намесніка міністра культуры Васіля Чэрніка, потым прайшло кароткае абмеркаванне таго, што для нас не простая справа дабіцца гэтага высокага звання і што трэба ўжо цяпер пачынаць самую актыўную работу па падрыхтоўцы.

Я не так даўно быў у Стакгольме і звярнуў увагу на тое, што ў грамадскім транспарце людзі чытаюць кнігі прыкладна так жа масава, як мы чыталі гадоў 20 таму. У нас жа кніга сёння замяняецца іншымі папулярнымі электроннымі дэвайсамі.

Мяркую, што цяпер варта думаць пра аб'яднанне намаганняў у галіне папулярызацыі кнігі і чытання. Дзяржава мусіць працаваць у гэтым кірунку разам з грамадскасцю, грамадскімі арганізацыямі. Беларускі фонд культуры выдае не так многа кніг, мы ў асноўным займаемся іх папулярызацыяй. Наша «Краязнаўчая газета» таксама служыць гэтым мэтам.

Але трэба думаць перш за ўсё пра тое, якую кнігу мы будзем папулярызаваць. Гэта павінна быць беларуская кніга, магчыма, выдадзеная на розных мовах. Гэта можа стаць тым плюсам, што дазволіць нам дамагчыся гонару называцца кніжнай сталіцай свету-2017.

**Галоўны дырэктар радыё «Беларусь», старшыня суполкі «Полацкае зямляцтва» Навум Гальпяровіч:**

— Слынныя імёны нашых першадрукароў, асветнікаў звязаныя не толькі з Полацкам, але ж гэты горад — першы культурны, асветніцкі, дзяржаўны цэнтр Беларусі. Сёння Мінск — сталіца Беларусі, і імідж краіны, якая выдае, любіць і чытае кнігі, павінен фарміравацца ў Мінску.

Мне хацелася б падкрэсліць, што дзеля таго, каб гэта адбылося, каб мы ў свеце заявілі пра сябе як пра нацыю, якая пісала, выдавала кнігі, трэба ў сусветных СМІ гаварыць пра Беларусь, нашу гісторыю, культуру. Мы толькі цягам апошніх некалькіх дзесяткаў гадоў самі сталі адкрываць для сябе многія старонкі нашай гісторыі, культуры. Яшчэ адна важная акалічнасць: для таго каб «раскручваць» імідж нашай краіны як прэтэндэнта на званне Сусветнай кніжнай сталіцы, варта падкрэсліваць тое, што многія беларусы, ураджэнцы гэтай зямлі зрабілі шмат для развіцця іншых краін. Па сведчанні нашага вядомага даследчыка прафесара Адама Мальдзіса, каля трох тысяч выдатных дзеячаў сусветнай культуры — родам з Беларусі. Наша зямля была донарам вайсковых, навуковых, асветніцкіх кадраў для многіх краін. І калі мы гаворым пра дзеячаў сусветнай культуры, нашых суайчыннікаў, то варта звярнуць увагу, што яны належаць не толькі беларусам. Да прыкладу, Францыск Скарына — значны дзеяч эпохі Адраджэння, як і Мікола Гусоўскі, а роля Сімяона Полацкага надзвычай вялікая ў развіцці расійскай, сусветнай культуры.

Што да міжнароднага радыё «Беларусь», якое мне выпаў гонар узначальваць, мы працуем на васьмі мовах і, канечне, пры падрыхтоўцы да гэтай вялікай акцыі гатовы стаць інфармацыйным партнёрам: расказваць на ўсіх васьмі мовах, падкрэсліваць значнасць і важнасць гэтай падзеі. Мы павінны падключыцца да сусветнай прапаганды гэтай акцыі! Вельмі важна, каб сапраўды было прынята такое рашэнне, але дзеля гэтага трэба зрабіць максімум намаганняў, сканцэнтраваць іх дзеля таго, каб справа вырашалася не ў вузкім коле, а ахапіла усё грамадства. Каб людзі ведалі пра святкаванне не толькі ў Мінску, але і ў кожным беларускім горадзе.

> *Справа змагання за статус Сусветнай сталіцы кнігі — надзвычай няпростая. Да прыкладу, на 2014 год наміністраваўся моцны кніжны цэнтр — Вільнюс — і не прайшоў. Многія буйныя гарады свету ўжо падавалі свае дасье і таксама не прайшлі. Таму сёння нам трэба вельмі разумна і актыўна папрацаваць…*

У нас многа цікавых гарадоў з традыцыямі, шмат людзей, якія могуць падключыцца да правядзення гэтага свята, калі будзе прынята такое рашэнне. Цяпер варта працаваць на яго прапаганду не толькі ў мясцовым, але і ў міжнародным фармаце.

**Вольга Аляксеева, загадчык аддзела кнігавыдання Выдавецкага дома «Звязда»:**

— Мы ўжо не першы год плённа працуем у напрамку наладжвання міжнародных сувязей у галіне кнігавыдання. Сёлета можам прадставіць як беларускаму, так і замежнаму чытачу серыю кніг «Сугучча сэрцаў», якая вельмі шырока папулярызавалася ў апошнія месяцы. У гэтыя зборнікі ўвайшлі творы пісьменнікаў з Беларусі і краін СНД.

На 2014 год запланаванае выданне новай серыі кніг для дзяцей. Яе назва перагукаецца з папярэдняй: «Сугучча сэрцаў: казкі пісьменнікаў свету». Творы замежных аўтараў будуць перакладацца на беларускую мову і выходзіць асобнымі кнігамі. Адкрые серыю зборнік казак беларускіх аўтараў, які мы спадзяёмся прадставіць падчас Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, што пройдзе ў лютым. Запланавана таксама арганізацыя «круглага стала» з удзелам замежных дзіцячых пісьменнікаў, а таксама форуму замежных дзіцячых пісьменнікаў у лагеры «Зубронак».

Варта згадаць яшчэ некаторыя нашы кнігі, што выйшлі цягам апошніх гадоў і прадстаўляюць замежную літаратуру ў Беларусі ці беларускую літаратуру за мяжой. Гэта выданне «Пад крыламі Дракона», зборнік вершаў 100 паэтаў Кітая, укладальнікам якога з'яўляецца Мікола Мятліцкі. «Казкі дзяцей Беларусі» на беларускай і нямецкай мовах таксама могуць зацікавіць замежнага чытача. Летась пабачыла свет кніга Алены Брава «Дараванне», дзе пад адной вокладкай змешчаны тэкст аповесці на беларускай, рускай і нямецкай мовах. Гэта выданне прэзентавалася на міжнароднай кніжнай выстаўцы ў Франкфурце-на-Майне. Не так даўно выйшла кніга перакладаў Ніны Мацяш «Гарнуся душою да слова», куды ўвайшлі творы класікаў украінскай літаратуры. Я б прапанавала ўвазе шырокай грамадскасці і кнігу польскага пісьменніка Станіслава Лема «Непераможны» ў перакладзе Анатоля Бутэвіча. Аддзел кнігавыдання Выдавецкага дома «Звязда» шмат увагі звяртае на праекты, якія маюць міжнародны характар. Мы спадзяёмся, што яны прынясуць карысць чытачу і атрымаюць высокую ацэнку.

Адметна, што гэты «круглы стол» стаўся не толькі пляцоўкай для абмену думкамі і набыткамі працэсу падрыхтоўкі дасье, але і даў магчымасць актыўнага сумеснага абмеркавання актуальных пытанняў. Падчас пасяджэння прагучалі нават прапановы па правядзенні святочных мерапрыемстваў, вызначыліся і некаторыя адметнасці нашай культуры, якія могуць стаць тымі «фішкамі», у пошуку якіх зацікаўлена Міністэрства культуры краіны.

Так, **Тадэуш Стружэцкі** падкрэсліў:

— У 2016 годзе будзе адзначацца 950-годдзе з дня заснавання першай у Беларусі старэйшай усходнеславянскай бібліятэкі, бібліятэкі полацкага Сафійскага сабора. Гэта таксама вельмі важная падзея, і яна павінна ўвайсці ў праграму мерапрыемстваў. Больш за тое, вельмі многае можа зрабіць Міністэрства замежных спраў нашай краіны ў кірунку папулярызацыі, прэзентацыі беларускай кнігі ў свеце. Дыпламатычныя прадстаўніцтвы Беларусі працуюць амаль у 70 краінах свету, і, канечне, яны маюць усе падставы і ўмовы для папулярызацыі беларускай літаратуры. А гэта самае недарагое мерапрыемства. Арганізаваць паездку для аднаго пісьменніка з кнігамі значна прасцей, чым прадставіць замежнаму гледачу творчы калектыў з 15 — 20 чалавек. А эфект ад прэзентацыі выдання, сустрэчы з аўтарам будзе вельмі высокі.

**Уладзімір Гілеп** дадаў:

— Чаму б нам не прапанаваць разам са сталіцай кнігі ў Мінску зрабіць яе філіял у Полацку як горадзе-калысцы беларускай кніжнасці? Такой прапановы ў ЮНЕСКА магло яшчэ не быць. Гэтым мы зможам адрозніваць ад іншых краін.

Прагучала таксама прапанова падрыхтаваць да выдання збор твораў беларускіх пісьменнікаў, якія жывуць за мяжой. Яны самі маглі б падключыцца да прэзентацыі як самых кніг, так і ідэі аб'яўлення Мінска Сусветнай кніжнай сталіцай.

У цэлым свае ідэі адносна правядзення магчымых акцый, прэзентацый, імпрэз у розных гарадах Беларусі можа дасылаць абсалютна кожны. Іх варта скіроўваць на адрас Міністэрства культуры ці Міністэрства інфармацыі нашай краіны. У будучым плануецца стварэнне адмысловага гарадскога сайта, дзе будуць акумулявацца ўсе ідэі і прапановы, а таксама размяшчацца актуальныя навіны падрыхтоўкі дасье для ЮНЕСКА. Такім чынам усе зацікаўленыя справай беларусы змогуць уключыцца ў працэс вылучэння Мінска на званне Сусветнай сталіцы кнігі-2017.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Шчасліўчык: кар'ера па-амерыканску



Фота з сайта www.ryanseacrest.com

Калі ўпершыню знаёмішся з біяграфіяй папулярнага амерыканскага празаіка Нікаласа Спаркса, які акурат 31 снежня адсвяткаваў 48-годдзе, то падаецца, што аўтары артыкулаў у прэсе і разнастайных інтэрнэт-даведніках распавядаюць не пра рэальную асобу, а пра выдуманага бездакорнага чалавека, які мае рысы ідэальнага пісьменніка, сцэнарыста, сем'яніна, спартсмена.

Менавіта такіх людзей ставяць у прыклад сваім дзецям бацькі ў ЗША, менавіта да іх мараць быць падобнымі многія маладыя людзі. Дзіўна, але нават ведаючы, што друкаваныя крыніцы не падманваюць, ім не адразу даеш веры. Хіба могуць існаваць настолькі станоўчыя і такія паспяховыя ў розных іпастасях людзі? Сёння мы павядзём гаворку пра адну з самых папулярных і запатрабаваных кніг Нікаласа Спаркса. Упершыню пабачыўшы свет па-руску ў 2010 годзе, раман «Шчасліўчык» быў перавыдадзены летась пры падтрымцы ТАА «Харвест».

Чытаць кнігі Спаркса і глядзець экранізацыі яго раманаў я параіла б перш за ўсё людзям, якія пакуль не расчараваліся ў жыцці і каханні, вераць у светлыя і шчырыя пачуцці, здольныя перамагчы ўсялякія перашкоды. Памятаю, яшчэ ва ўніверсітэце на занятках па практыцы англійскай мовы нам паказвалі фільм «Спяшайся кахаць» пра невылечна хворую дзяўчыну, якая напрыканцы жыцця моцна закахалася. Пасля прагляду нехта ледзь стрымліваў слёзы і потым цэлы дзень задуменна пераходзіў з кабінета ў кабінет, а хтосьці нават і не думаў перажываць. Гэта ж кіно. Навошта лішнія эмоцыі?

Прызнаюся, я была ў ліку… другіх. Тым не менш мяне не можа не здзіўляць і не ўражваць надзвычайны пісьменніцкі талент Спаркса. Амаль два дзясяткі раманаў-бестселераў, 8 вельмі паспяховых экранізацый (яшчэ два фільмы паводле яго кніг пабачаць свет сёлета і ў наступным годзе), пераклады раманаў на 45 моў свету, а агульны тыраж кніг — па самых сціплых падліках — 80 мільёнаў асобнікаў. Магчыма, сакрэт папулярнасці ў тым, што тэмы яго твораў непарыўна звязаныя з хрысціянствам, каханнем, лёсам і глыбокімі пачуццямі чалавека. Падтрымка вялікай амерыканскай пратэстанцкай супольнасці? Наўрад ці. Спаркс — католік. І хіба можна агульначалавечыя каштоўнасці і шчырыя душэўныя памкненні вымяраць адно рэлігійнымі катэгорыямі? Стаўка на падтрымку землякоў і сваякоў у розных краінах свету: Англіі, Ірландыі, Германіі, Чэхіі? Не думаю.

А можа, уся справа ў яркім уласным прыкладзе пісьменніка? Шчаслівае сямейнае жыццё: Спаркс мае чароўную жонку Кэці і пяцярых дзяцей, яны жывуць не ў сталіцы ці нейкім буйным горадзе, а ў гарадку Нью Берн, штат Паўночная Караліна. Празаіка можна лічыць і надзвычай паспяховым спартсменам: ён вучыўся ва ўніверсітэце Нотр-Дам на




спартыўную стыпендыю, і яшчэ на першым курсе падчас спаборніцтваў па бегу каманда з яго ўдзелам паказала рэкордны для каледжа вынік, не пераўзыдзены дагэтуль. Пісьменнік і цяпер заўзяты спартсмен, ён трэніруецца штодзень, штотыдзень прабягае каля 30 міль і з'яўляецца ўладальнікам чорнага пояса па таэквандо. Ён яшчэ і прыгажун: часопіс *People* прызнаў Спаркса самым прывабным аўтарам 2000 года.

А можа, усіх прыцягвае ашаламляльная кар'ера пісьменніка, так бы мовіць, наглядны прыклад увасаблення «амерыканскай мары»? Першы свой раман «Расстанне» ён напісаў падчас вучобы ў школе (1985), а праз чатыры гады яшчэ адну кнігу — «Каралеўскія забойствы». Абодва творы чакаюць публікацыі і свайго «зорнага» часу — але ўжо як першыя раманы сусветна вядомага пісьменніка! Пасля заканчэння каледжа Спаркс (па амаль класічным каноне) працаваў на розных пасадах: рыэлтара, афіцыянта, прадаўца па тэлефоне і — хацеў стаць юрыстам. Першым поспехам можна лічыць кнігу ў жанры папулярнай псіхалогіі, якую Спаркс напісаў сумесна з алімпійскім чэмпіёнам па бегу на 10 кіламетраў Білі Мілсам.

А крыху пазней, ужо працуючы ў фармацэўтычнай кампаніі, малады чалавек напісаў раман «Дзённік памяці», які быў заўважаны літаратурным агентам і прынёс пісьменніку-пачаткоўцу кантракт на мільён долараў за публікацыю. Тут і пачаўся сапраўдны поспех. Першая кніга Спаркса адразу ж узначаліла спіс самых прадаваемых выданняў па версіі *New York Times*. І па меркаванні самога пісьменніка, як аўтар ён адбыўся менавіта пасля публікацыі «Дзённіка памяці».

Чытачамі кніг пісьменніка Нікаласа Спаркса, як ні дзіўна гэта гучыць, з'яўляюцца ў асноўным жанчыны. Лёгкая проза пра каханне і сэнс жыцця, якую можна спачатку пачытаць, утульна ўладкаваўшыся на канапе з кубачкам гарбаты, а потым параўнаць сваё бачанне з версіяй рэжысёра фільма, мала якую сапраўды «жаноцкую жанчыну» пакідае раўнадушнай.

Вось і раман «Шчасліўчык» ужо па традыцыі атрымаў вялікую папулярнасць. Гэта жаночая проза пра тое, як галоўная гераіня Бэт спрабуе працаваць над сабой і стварыць сваё жаночае шчасце. Яна адна выхоўвае дзіця і хоча мець побач каханага і надзейнага мужчыну. Але прыхільнікі чамусьці надоўга не затрымліваюцца побач з Бэт. Жанчына пакутуе ад адзіноты і ўласных думак пра тое, што ёй ужо не наканавана стаць шчаслівай. Але… як гэта заўсёды бывае ў добрых меладрамах, у жыцці галоўнай гераіні нечакана з'яўляецца настаўнік — Логан Цібо. Ён дапамагае Бэт зірнуць на свет іншымі вачыма, пабачыць свой уласны шлях да шчасця. І, у адпаведнасці з законамі жанру, у жанчыны ўсё атрымліваецца, як толькі яна спрабуе змяніць сябе і сваё стаўленне да лёсу, уласнага жыцця і па-новаму вызначыць сваё месца ў свеце.

Добры псіхатэрапеўтычны прыём, які, аднак, спрацоўвае не толькі на прыёме ў доктара, але і на прыкладзе асобна ўзятай кнігі і фільма. А яшчэ, магчыма, на досведзе многіх чытачак рамана «Шчасліўчык» Нікаласа Спаркса.

**Юзэфа ВОЎК**



# Смак нашай гісторыі

Напрыканцы снежня — у пачатку студзеня, калі паўсюль пануе святочны настрой, у хатах смачна пахне мандарынамі і навагодняй ёлкай, хочацца, каб і на стале было нешта надзвычайнае. І не толькі традыцыйныя навагоднія салаты ды катлеты, якія пасля сустрэчы наступнага года даядаюцца разам з бясконцымі гасцямі-сябрамі-сваякамі яшчэ амаль тыдзень. Каб неяк «абнавіць» меню і святочны стол, можна пашукаць модныя рэцэпты на адпаведных старонках у інтэрнэце, зазірнуць у кулінарныя кнігі. Але не гарантавана, што гэтыя стравы вам спадабаюцца: яны не выпрабаваныя часам, не «высмакаваныя», ды і прапорцыі прадуктаў, што прапаноўваюцца ў «класічных» варыянтах, кожная гаспадыня з цягам часу падстройвае пад сябе. Ёсць іншае выйсце — звярнуцца да кулінарнага досведу продкаў і зазірнуць у кнігу Вінцэнты Завадскай «Літоўская кухарка». Выданне, што сёлета святкуе сваё 160-годдзе, не так даўно пабачыла свет у ТАА «Харвест» адразу ў дзвюх версіях — на беларускай і рускай мовах.

Сучасная «Літоўская кухарка» падрыхтавана паводле чатырнаццатага па ліку выдання 1938 года. Варта падкрэсліць, што гэта не проста кулінарная кніга, гэта паўнавартасны гістарычны дакумент, які можа шмат распавесці пра адметнасці побыту і харчовыя звычкі нашых продкаў. Упершыню выдадзеная ў 1854 годзе па-польску, «Літоўская гаспадыня» адразу ж займела ашаламляльны поспех не толькі на беларускіх, польскіх і літоўскіх землях, але і ў Расіі. Цікава, што ў знакамітай кнізе Алены Малахавец «Падарунак маладой гаспадыні», што выйшла ў 1861 годзе, былі змешчаны цэлыя блокі рэцэптаў з выдання В. Завадскай.

Пра саму аўтарку, Вінцэнту Завадскую, сёння вядома нямнога. Яна паходзіла з дому Жалтоўскіх і была жонкай вядомага віленскага выдаўца Адама Завадскага.

У кнізе «Літоўская гаспадыня» можна знайсці розныя рэцэпты: экзатычныя, простыя, складаныя, паўсядзённыя, святочныя. Ёй можна з лёгкасцю карыстацца нават сёння: меры вагі і аб'ёму, прынятыя даўней (фунт, кварта), тут пераведзеныя ў сучасныя (кілаграм, грам, літр). А значэнне некаторых інгрэдыентаў, якія могуць падацца дзіўнымі сучаснаму чытачу — да прыкладу, амарэткі, лімонная соль, англійскі перац, — для зручнасці тлумачыцца ў спецыяльным слоўніку, змешчаным на пачатку кнігі.

Усе рэцэпты, прадстаўленыя ў выданні, аб'яднаныя ў 21 тэматычны раздзел. Такая падрабязная класіфікацыя ўсіх страў дазволіць гаспадыні хутка сарыентавацца і знайсці патрэбны рэцэпт. Можна навучыцца гатаваць супы, соусы, варэнне, стравы з яек, марынаваныя салаты, пячы хлеб і здобу, салодкія кандытарскія вырабы, печыва, вафлі, стравы мясныя і рыбныя халодныя…

Кніга паказвае як традыцыйнасць кухні XIX ст., так і яе гнуткасць, здольнасць успрымаць розныя рэцэпты з кухняў іншых народаў. Да прыкладу, вось як гатавалі ў 1850-х гадах макарону (так, менавіта макарону!) італьянскую з грыбамі. Для гэтай стравы гаспадыні спатрэбілася б: 400 г макароны, 10 — 12 сушаных баравікоў, 1 ст. лыжка мукі, 1,5 ст. лыжкі масла, 2-3 ст. лыжкі смятаны, 2-3 жаўткі. А гатаваць В. Завадская прапануе вось як: «Макарону зварыць у вадзе, абліць халоднай вадой і змяшаць з гэткім соусам: зварыць сушаныя баравікі, пакроіць, укінуць у соус, зроблены з падсмажанай на масле мукі, разведзенай грыбной юшкай і смятанай, пасаліць і закіпяціць. Калі стане густы, убіць два альбо тры жаўткі, змяшаць з макаронай, укласці ў вышмараваны маслам металічны паўмісак і паставіць на пятнаццаць хвілін у печ». Упэўнена, будзе смачна!

А вы ведаеце, што ў той час грэчневую кашу маглі есці халоднай, падавалі з адмысловым вяршковым соусам з карыцай або ваніллю і цукрам? І называлася гэтая страва «Каша пуховая халодная». А яшчэ тут можна пабачыць досыць незвычайныя для сучаснага чалавека стравы. Шкада, што іх цяпер не гатуюць (ці, прынамсі, яны не захаваліся ў шырокім ужытку). Вось, да прыкладу, «Грыбок тлусты». Для яго прыгатавання «Літоўская кухарка» прапануе ўзяць 5 яек, 4 ст. лыжкі мукі, соль, 1 ст. лыжку цукру, 1 ст. лыжку масла. Да гэтага цукар з карыцай. А гатуецца «грыбок» вось як: «пяць жаўткоў, чатыры лыжкі мукі, паўшклянкі вады, сталовую лыжку цукру моцна расцерці; з бялкоў узбіць пену, асцярожна вымешаць і ўліць у растопленае ў рондалі масла. Калі




зарумяніцца, перавярнуць на другі бок, падсмажыць і падаць абсыпаны цукрам з карыцай». Думаецца, павінна атрымацца нешта падобнае да амлета. Але салодкага і з карыцай! Вінцэнта Завадская прапануе для прыгатавання аж пяць вельмі розных рэцэптаў грыбкоў.

Упэўнена, у гэтай кнізе можна знайсці яшчэ шмат цікавых і на першы погляд загадкавых рэцэптаў. Магчыма, яны спадабаюцца вам ды вашым сваякам і станучь любімымі сямейнымі стравамі.

**Чэслава ПАЛУЯН**

# Прастора крылатай душы

Фёдару Ястрабу сёлета споўнілася 60. За паважнымі гадамі — імя, якое ва ўсіх на слыху, творчасць, знаёмая заўсёднікам вернісажаў, і асоба. Асоба, якая ў сваёй living... 



«Дыяна з сокалам».



«Крыніца».



Творчая вечарына Ф. Ястраба ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі (люты 2011 года).

«Мая душа, як ястраб дзікі, што рвецца ў неба на прастор...» — аднойчы падчас нашай гутаркі Фёдар Адамавіч, нібы між іншым, працытаваў вядомы Багдановічаў радок, дадаўшы: «Гэта пра мяне, праўда. Гэта, можна сказаць, эпіграф майго жыцця».

Містычна праўдзівы эпіграф: няўтомныя крылы Фёдара Ястраба вымагаюць прасторы! Вольным, непрыручаным птахам імкне душа творцы ў сваю і толькі сваю прастору. І хай тая прастора недасяжная для іншых: мы можам адчуць яе абсяг, углядаючыся ў здзейсненае майстрам...

Актыўны дзеяч Беларускага саюза мастакоў, старшыня Міжнароднай гільдыі жывапісцаў. Удзельнік больш як 100 выставак (рэспубліканскіх, замежных, міжнародных), арганізатар паўтара дзясятка персанальных. Як галерыст і кіраўнік галерэйна-выставачнага аддзела Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі прыдумаў, ініцыяваў і курыраваў мноства запамінальных праектаў: сярод асабліва значных для мастацкага жыцця і папулярызацыі культурнага іміджу Беларусі ў сусветнай прасторы — міжнародны фэст лічбавага мастацтва *Terra Nova*, міжнародная біенале сучаснага жывапісу *Colorfest*, міжнародная выстаўка графікі «Арт-лінія», прэзентацыя беларускіх творцаў «12+» у Аб'яднаных Арабскіх Эміратах, штогадовыя вернісажы «Арт-крок», «Кветкавы рай», «Фестываль пейзажу». Педагог і прытым стваральнік унікальнай (не толькі для Беларусі, але і для ўсёй постсавецкай прасторы) праграмы па навучанні арт-менеджменту і менеджменту сацыяльна-культурных міжнародных сувязей. Ён аўтар шматлікіх мастацтвазнаўча-публіцыстычных артыкулаў, нарысаў, эсэ. Выдаў альбомы «Першы Міжнародны фестываль пейзажу» і «Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч», адзначаныя дыпломамі І ступені на Нацыянальным конкурсе «Мастацтва кнігі-2008». Пазалетась выйшла адметная манаграфія Ф. Ястраба «Мастацтва ў сацыяльнай прасторы», а сёлета чытачы беларускай перыёдыкі пазнаёміліся з яго паэзіяй...

Карціны Фёдара Ястраба заўсёды заўважныя і пазнавальныя ва ўлонні нават маштабных калектыўных экспазіцый: вабяць сваім чыстым свячэннем; прыцягваюць, клічуць да сябе красамоўствам жывога каларытнага пісьма. І ў большасці яго работ — дзівосная ўласцівасць. На значнай адлегласці такі твор здатны ўразіць як самадастатковая дэкаратыўная кампазіцыя, напісаная ў выразнай колеравай танальнасці, што ствараe на палатне фестываль фарбаў, — аднак... Варта зрабіць колькі крокаў насустрач карціне — і зблізу ўсё ўспрымаецца ўжо як своеасаблівая абстрактна-фігуратыўная выява, дзе можна расшыфраваць найтанчэйшыя стасункі ліній, плям, штрыхоў ды ўгледзець абрысы краявіду, сілуэты і твары, дэталі прадметнага свету, вобразы міфічных істот.

«Захавальнік сонца», «Замова», «Сезон ягад», «Рамантычная вандроўка», «Дом для папугаяў», «Чаканне», «Чырвоны сон», «Партрэт з мінулага», «Старая мелодыя», «Танец вечара», «Феі восені», «Легенда», «Знакі Хронаса», «Нараджэнне міфа», «Залатая чаша», «Вісячы сад», «Крыніца», «Вершнікі»... Застаўшыся сам-насам з гэтымі размаітымі маляўнічымі прывавесцямі (многія ўвайшлі ў вялікі цыкл «Формула міфа» — плён шматгадовай працы мастака), знаходзіш у іх і сакральны творчы дух продкаў-беларусаў, і ўплыў рамантычных французскіх імпрэсій, і павевы постмадэрнізму, і пераасэнсаванне класічнай антычнасці. Але галоўнае — наближаешся да алегарычнага падтэксту, філасофскіх алюзій мастака, сімволікі яго індывідуальнага жывапіснага ўяўлення.

«Я пішу карціны, але і люблю ладзіць выстаўкі. Гэта таксама — маё. Спраўдзіць арыгінальны праект, зрабіць тое, што да цябе не рабілі, — не меншая творчасць, чым праца ў майстэрні. Здзейсніў, пра што марыў, і спалучылася, здавалася б, несумяшчальнае: якасці менеджарскія і артыстычныя. Гэта ўва мне ад дзядоў. Адзін вельмі любіў і ведаў паэзію, шмат мне чытаў, у тым ліку Дуніна-Марцінкевіча. Другі — самавіты гаспадар, майстра — абудзіў памкненне ствараць усё ўласнымі рукамі. Таму ў прафесію я прыйшоў невыпадкова. Іншая справа, што калі твая натура шырокая, дык хочаш і тое зрабіць, і тое, і вабіць яшчэ нешта новае, нязведанае, шукаеш экстрыму, — так Ф. Ястраб разважаў пра стасункі з арт-прасторай, калі адышоў ад «багемных тусовак» і ўзяў за мэту максімальна сябе рэалізаваць. — Калі не пішу карціну, павінен пісаць кнігу. Калі не пішу кніжку, павінен пісаць карціну. Калі часу няма на гэта, значыць, раблю выставачны праект...»

Мала хто ведае, што галерэйна-выставачны комплекс у прасторы нашай галоўнай скарбніцы ведаў складваўся не так проста. «У свой час, думаючы, дзе прыкласці сілы і рэалізаваць маштабныя арт-праекты, я прыйшоў да высновы: няма дзе. Усе адпаведныя мінскія прасторы камерныя. У галерэі Палаца Рэспублікі, якая на той час толькі адкрылася, вялікі праект не разгорнеш. Няўтульнае памяшканне Палаца мастацтва вымагала рэканструкцыі. І раптам мяне запрасілі распрацаваць бізнес-праект для аднаго міжнароднага культурна-дзелавога цэнтра і стаць яго дырэктарам. Напачатку трэба было правесці вялікія рамонтныя работы ў вызначаным будынку, г. зн. гады два быць дырэктарам прадпрыемства, якое будуецца. Фактычна прарабам! Іншая прапанова: займацца ўпадабанай галерэйнай справай у колішняй «ленінцы». Вось і пачалося. А калі спланавалі Нацыянальную бібліятэку, была прадугледжана толькі адна галерэя — «Атрыум» у цэнтры. Чаму ўрэшце склаўся комплекс? Магчыма, «прабойная сіла» спрацавала. У прынцыпе, нам адмаўлялі ў стварэнні галерэі «Ракурс»: там планавалася тэрыторыя для прэс-канферэнцый і не павінны былі размяшчацца карціны. А я ведаў, што ўсё роўна да гэтага прыйдзем, і таму загадзя разам з праектантамі мы прадугледзелі сістэму развескі экспазіцый у будучых галерэях «Ракурс», «Лабірынт» і нават у галерэі «Панарама» на 22-м паверсе. Мне ўдалося «прабіць сітуацыю». Мы зрабілі вялікую справу і цяпер маем каля трох тысяч квадратных метраў — адзін з самых вялікіх мастацкіх выставачных комплексаў. Калі нават проста заснаваць такі комплекс — ужо справа. А калі ён яшчэ і актыўна працуе, можна казаць пра пэўны ўнёсак у айчынную культуру. Гэта важна — не саромецца рабіць і не саромецца казаць пра зробленае».

Казаць трэба і пра ўнікальнасць распрацаванага Фёдарам Ястрабам курсу «Прадзюсарства ў сферы візуальнага мастацтва». За гэту абсалютна новую для Беларусі справу ён узяўся, адгукнуўшыся на прапанову энтузіяста-педагога БДУКіМ М. Каралёва. Знаходзіў вучняў сярод людзей як абазнаных у прадзюсарстве, так і з іншых сфер. Марыў, што калісьці будзе створана грунтоўная спецыялізацыя для сучасных арт-прадзюсараў, якія вельмі патрэбныя ў нас: «Такі спецыяліст павінен ведаць мовы, бліскуча валодаць камп'ютарам, умела працаваць з інфармацыяй, наладжваць прафесійныя сувязі, праходзячы стажыроўкі за мяжой. Прадзюсар павінен быць культуролагам, менеджарам і абавязкова спецыялістам у сваёй сферы. Павінен вучыцца быць экспертам. Ведаць у цэлым гісторыю мастацтва, яго тэхнікі, засвоіць асновы арт-практыкі, элементарна валодаць пэндзлем і алоўкам. А інакш як яму арыентавацца на арт-рынку, разважаць пра творы, адчуваць і адэкватна ацэньваць іх вартасць? Начытаўшыся тэорыі, але без ведання рэалій, не набіўшы гузакоў, прадзюсар нічога не варты».

Ад Фёдара Адамавіча нямала ведаю пра яго дзяцінства, таленавітых родзічаў і першыя жыццёвыя ўрокі, пра напісаную ў 9-м класе аповесць, пра экстрым дачыненняў да арт-рынку і авантуры першай замежнай вандроўкі, пра сяброў-мастакоў, пра задумы і справы, якія захапляюць. Так і хочацца «расабраць на цытаты» яго разважанні і назіральныя расповеды!

«Іў складаных абставінах дзяцінства застаецца дзяцінствам: з часам усё цяжкае, драннае нібы адыходзіць і застаецца флёр кранальнай наіўнасці, чысціні. А штодзённы кантакт з прыродай, са шматлікімі сябрамі — для мяне вялікі досвед разумення жыццёвай гармоніі, умення жыць не ў натоўпе, а ў грамадзе».

«Усведамленне таго, што ты — частка прыроды, а яна — частка цябе, вельмі важнае. Так і ў жыцці грамадства: працуй, не парушаючы кантэксту. Зразумела, у цябе ёсць пэўныя інтарэсы, амбіцыі, твая жыццёвая прастора часта перасякаецца з жыццёвымі прасторамі іншых, аднак прынцып: жыць, не перашкаджаючы іншым, але сцвярджаючы сваё, — гэта вельмі важна!»

«Чым больш аб'яднанняў — больш у мастацкім жыцці разнастайнасці. Манапалізацыя заўсёды прыводзіць да стагнацыі. Мы розныя і павінны з розных бакоў развіваць культуру. Побач з акадэмічнымі, класічнымі напрамкамі ды формамі творчасці існуюць эксперыментальныя (перформансы, інсталяцыі, арт-аб'екты, відэа-арт, лэнд-арт), таму нельга, каб усе займаліся адным і тым жа. Ёсць права мастака выказвацца, і мы павінны ісці яму насустрач».

«Ну не можа беларус не быць беларусам у мастацтве! Беларус заўсёды застанецца беларусам, нават калі піша абсалютна абстрактныя работы. Вось наша ткацтва: яно блізкае да абстракцыі, абсалютна стылізаванае, але адчувальнае па колеры, па духу менавіта беларускім! А за вушы цягнуць беларускасць у творчасць не трэба».

«Не чакай падарункаў ад жыцця, дзейнічай сам. Якія ні былі б абставіны, усё можна перажыць, галоўнае — вельмі гэтага хацець, і ўсё зменіцца на лепшае».

***

**Чалавеку сярод людзей наканавана зведаць рознае** і ў рознай меры: радавацца добраму дню, перажываць азарэнне, расчароўвацца, рабіць памылкі, насалоджвацца творчым узлётам, пакутаваць ад няўдач, лавіць промні славы, змагацца з безвыходнасцю, процістаяць хваробам... Ды якімі прывабнымі ні здаваліся б хвіліны трыумфу, якімі гнятлівымі ні былі б часовыя зямныя выпрабаванні, душа таленавітай асобы заўжды па-над імі.

Дык хто ж ён, гэты магутны духам чалавек? Зачараваны мудрасцю законаў прыроды, упарты і ўдумлівы хлопчык з далёкіх 1950-х. Надзелены яркім крэатыўным тэмпераментам, эстэтычнай чуласцю, дапытлівым інтэлектам аматар жыццёвага экстрыму. Рамантык-максімаліст, здатны ўзнімацца да бязмежжа высокіх ідэй і ўяўленняў, лунаць у прасторы адвечнай гармоніі. Майстар, апанаваны прагай пазнання і спакушаны салодка-салёна-гаркавым смакам працы. Выдатны арганізатар. Шырокая таварыская натура з крутым характарам. Еўрапейскі беларус Фёдар Ястраб.

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**фота аўтара**

# Праз прызму праўды

**У кагорце тых, хто звязаў свой лёс з «ЛіМам», — пісьменнік Аляксей Кулакоўскі. У 1949 — 1953 гадах Аляксей Мікалаевіч быў адказным сакратаром газеты «Літаратура і мастацтва».**


Фота з сайта www.archives.gov.by

*У. Караткевіч, А. Кулакоўскі, А. Махнач, М. Татур сярод польскіх настаўнікаў. 1970-я гг.*

А пачынаў журналісцкі шлях ён яшчэ ў даваенны час, працуючы ў клімавіцкай і жлобінскай газетах, пазней — у «Чырвонай змене». Тады ж, напісаўшы шэраг карэспандэнцый і нарысаў, узяўся за апавяданні. Але ў друк прапанаваў толькі адно з іх — «Білет», якое было змешчана ў «Чырвонай змене» 6 снежня 1935 года. Зноў яго імя як апавядальніка з'явілася ў друку толькі праз дзесяць гадоў, калі ў часопісе «Беларусь» адзін за адным былі апублікаваныя апавяданні «Сын», «Стары млын», «Мікіта Мінавіч».

Як у названых творах, так і ў тых, што ўвайшлі ў яго першую кнігу «Сад» (1947), поруч з вобразамі дарослых А. Кулакоўскі паказаў дзяцей. Гэта невыпадкова. Прайшоўшы перадавую (камандаваў узводам, ротай, быў тройчы паранены), Аляксей Мікалаевіч застаўся жыццялюбам, а вобразы дзяцей дазвалялі яму ўбачыць абрысы будучыні.

Малады пісьменнік ішоў ад уласна перажытага, пра што, у прыватнасці, сведчыць адно з лепшых яго ранніх апавяданняў. Пра дакументальную аснову твора пазней ён распавёў крытыку Аляксею Гардзіцкаму: «Мне ўспомніўся мой аднакласнік — нямы хлопец, якога ўсе баяліся. Пабойваўся яго і я: здавалася, што ён і ўдарыць чалавека можа. І вось аднойчы гэты хлопец знайшоў птушанятка, што вывалілася з гняздзечка. Я бачыў, як ён любоўна ўзяў гэтае птушанятка ў рукі. З гэтай дэталі і вырас пасля сюжэт апавядання "Нямко"». Але дабро, як вядома, часам павінна быць з кулакамі. Гэты нямко, які ў творы выступае пад імем Паўла Капулы, у час акупацыі адным ударам магутнага кулака забівае немца.

Працаваць у жанры апавядання А. Кулакоўскі працягваў і пасля першай кнігі. Выходзілі зборнікі прозы «Новыя сустрэчы» (1950), «Хораша ўзыходзіць сонца» (1952), а таксама «На возеры» (1950, адрасаваны дзецям).

Пільна ўзіраючыся ў сучаснасць, А. Кулакоўскі як былы франтавік не мог не звяртацца ў творчасці да падзей Вялікай Айчыннай вайны. Але для буйнога плана рамкі апавядання былі зацесныя, дый аповесць, на яго думку, не дазваляла належным чынам разгарнуцца, раскрыць усю трагедыю. Таму і ўзяўся за напісанне рамана «Расстаемся ненадоўга», працягам якога стаў раман «Сустрэчы на ростанях». Прастора дылогіі шырокая: жыццё адной з беларускіх вёсак у апошнія перадваенныя месяцы, барацьба на фронце і ў партызанах, жыццё мірнага насельніцтва на акупіраванай тэрыторыі.

У 1957 годзе А. Кулакоўскі напісаў і ваенную аповесць «Да ўсходу сонца», у аснову якой пакладзеная экстрэмальная сітуацыя. У чымсьці быкаўская, калі чалавек на вайне апынаецца на мяжы сваіх магчымасцей. А. Кулакоўскі, па сутнасці, адным з першых узяўся за раскрыццё не толькі гераічнага, а і таго драматычна-трагедыйнага, што не давала чалавеку з пярэдняга краю ніякага шанцу на ўратаванне. Не ўсё, праўда, удалося ў творы, але ў нечым новае слова пра вайну ён сказаў. Гэта атрымалася дзякуючы таму, што пісаў творца пра добра яму вядомае. Такім жа падыходам А. Кулакоўскі кіраваўся і ў творах на тэму сучаснасці. Гэта асабліва бачна ў аповесці «Нявестка».

Аляксей Мікалаевіч прызнаваўся, што вобраз галоўнай гераіні ім не выдуманы: «Мне часта даводзіцца бываць там, дзе я нарадзіўся. Там жыве ў мяне маці, брат. І вось аднаго разу маці кажа: «Міканор учора хваліўся: маладая нявестка вады яму нагрэла, сказала — папар, тата, ногі, кашляць не будзеш».

Я ведаў гэтага Міканора, ведаў яшчэ дзясятак чалавек, якія жылі прыкладна так, як ён. Мне пачаў уяўляцца лёс старога чалавека, які рана аўдавеў і многа год пражыў у адзіноце. Не бачыў гэты чалавек сапраўднага шчасця, не адчуваў і цёплай жаночай спагады. Сам ён і гаспадарыў дома, і гаспадыніў, сам сабе і крупнік варыў, сам сабе лапіў порткі.

І вось нарэшце прыязджае дадому з арміі ці з якой-небудзь работы сын гэтага чалавека, прыводзіць маладую ласкавую нявестку. Нявестка нагрэла старому начоўкі вады — і зарадаваўся чалавек, адчуў сябе шчаслівым, можа, лепшага шчасця для яго на гэты раз і не трэба было…»

Галоўная гераіня аповесці Ларыса — чалавек духоўна багаты і маральна чысты, адзін з лепшых ў беларускай літаратуры жаночых вобразаў. Вялікую сэнсавую нагрузку, зразумела, нясе і Даніла Бірук — той самы Міканор, узяты пісьменнікам з жыцця. Адначасова твор гэты і пра жыццё беларускай вёскі ў 50-я гады мінулага стагоддзя з усімі яе праблемамі. Аповесць «Нявестка» мела шырокі рэзананс. Па матывах яе Андрэй Макаёнак напісаў сцэнарый мастацкага фільма «Шчасце трэба берагчы», які ў 1958 годзе паставіла кінастудыя «Беларусьфільм».

Увогуле, крытыка не абдзяляла А. Кулакоўскага ўвагай. Пісалі пра яго і калегі-празаікі, даючы высокую ацэнку, як, напрыклад, Іван Шамякін, які ўдала прыкмеціў адметнасць таленту Аляксея Мікалаевіча: «Аляксей Кулакоўскі — бытапісец. У творчасці ён надзвычай моцна прывязаны да канкрэтных, часцей за ўсё ўласна ім перажытых жыццёвых фактаў. Факт для яго — першаснова твора. Прызма творчай фантазіі пісьменніка не надта адмыслова шматгранная, святло фактаў пераламляецца ў ёй не заўсёды так, каб адбіцца спектрам вясёлкі і ў сюжэце, і ў характарах, і ў дэталях, каб драматызавацца, і асобныя факты, прапушчаныя цераз гэтую прызму, у творы захоўваюць тыя ж адцені, што і ў жыцці. Пісьменнік як бы спадзяецца, што само жыццё зрабіла работу па адборы і тыпізацыі з'яў і характараў. Такая асаблівасць таленту Кулакоўскага дае яму пэўную перавагу перад іншым падыходам да асваення жыццёвага матэрыялу…»

Аднак А. Кулакоўскі напоўніцу зведаў, што такое аглабельная крытыка. Адбылося гэта пасля таго, як ён у пятым нумары часопіса «Маладосць» за 1958, галоўным рэдактарам якога на той час з'яўляўся, надрукаваў сваю аповесць «Дабрасельцы». Публікацыя каштавала яму пасады, а перад гэтым выклікала ў друку вал разгромных рэцэнзій. За ачарненне савецкай рэчаіснасці перапала А. Кулакоўскаму і на сходах у Саюзе пісьменнікаў, і нават на IV з'ездзе пісьменнікаў Беларусі. Зноў да чытача гэты твор прыйшоў толькі ў 1984 годзе пад назвай «Апошняя пяліпаўка».

На шчасце, Аляксей Мікалаевіч не зламаўся, выстаяў. У яго заўсёды было нямала творчых задум, але ніяк не мог падступіцца да «салігорскай» тэмы: радзіма пісьменніка — вёска Кулакі цяперашняга Салігорскага раёна. Сваім землякам, першапраходцам саляных нетраў, ён прысвяціў кнігі нарысаў «Зоркі салігорскія» (1960) і «Салігорцы» (1964), а таксама некалькі мастацкіх твораў, сярод якіх вылучаецца раман «Васількі» (1981).

Яшчэ адзін цікавы твор А. Кулакоўскага — раман «Сцежкі зведаныя і нязведаныя» (1972). Цікавы тым, што аўтар яго адным з першых у нашай літаратуры ўзяўся за даследаванне вытокаў здрады Радзіме.

Жыццё Аляксея Мікалаевіча было не такім і доўгім: нарадзіўся 24 снежня 1912 года, памёр 9 красавіка 1986-га. А напісана — шмат. Ды галоўнае, безумоўна, іншае: у пераважнай большасці гэта высокамастацкая проза, вызначальныя якасці якой — праўда і чалавечнасць.

**Кірыла САЎЧАНКА**

# «Сказаць хачу»

Так называлася трэцяя кніга паэзіі Івана Арабейкі, за якую аўтар уганараваны прэміяй імя Уладзіміра Калесніка Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта.

Нарадзіўся паэт у вёсцы Хмелева на Брэстчыне ў 1942-м годзе ў мнагадзетнай сям'і. Пра сябе паэт пазней сказаў у вершы «Дзяды»:

*Удаўся я не белы і не русы —*
*Я колерам у светлае жніво,*
*Бо продкі мае век на Беларусі*
*Хадзілі з непакрытай галавой.*

Па парадзе брата паступіў на хіміка-тэхналагічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута, які паспяхова закончыў, працаваў на шклозаводзе «Нёман» у гарадзе Бярозаўка Гродзенскай вобласці, а затым у Брэсце на розных вытворчых пасадах. На прэзентацыі новай кнігі ў Жабінцы І. Арабейка прызнаўся: «Па спецыяльнасці я тэхнар, а ў душы — лірык!»

Гэта стала зразумелым яшчэ ў 1963-м, калі ў газеце «Чырвоная змена» з'явіўся першы верш «Клён». У 1972 годзе выйшла кніга «Услед за сонцам», у 1978-м — «Асенні ранак». Івана Сяргеевіча прынялі ў Саюз пісьменнікаў БССР. Ён вучыўся на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве.

Вярнуўшыся дамоў, паэт нечакана замаўчаў на доўгія два дзесяцігоддзі.

Вучоба і падказала Арабейку асвойваць новыя матывы і формы, аднак постмадэрністкія павевы ён, традыцыяналіст, не прымаў. Тыя ж вершы, што ствараў І. Арабейка, успрымаліся пэўнай часткай паэтаў, і ў першую чаргу маладымі, як анахранізм. Іван Сяргеевіч не захацеў, а можа, і не змог адмовіцца ад мілагучнасці і метафарычнасці верша, ад свайго стылю і перастаў увогуле ўдзельнічаць у літаратурным жыцці, аддаўшыся поўнасцю «нелірычнай» працы.

Калегі намагаліся «разбудзіць» паэта. Помніцца, як часопіс «Спадчына» надрукаваў самы кароткі яго верш з трох слоў: «На плітах — літары».

З часам з'явіліся творы, якія самі прасіліся на волю, былі гатовыя загучаць. У 2005 годзе Іван прывёз у рэдакцыю жабінкаўскай раённай газеты «Сельская праўда» свежы верш «І зноў вясна, і зноў сады цвітуць». У кнігу «Сказаць хачу» ён увайшоў пад назвай «Рэквіем па салдаце». Верш прысвечаны нялёгкаму лёсу земляка Пятра Ісакавіча Старыкевіча, які браў удзел у абарончай вайне 1939 года, калі Германія напала на Польшчу. Трапіў у палон, але збег, вярнуўся дамоў, каб у сорак чацвёртым разам з аднавяскоўцамі зноў трапіць на перадавую і ваяваць на франтах Вялікай Айчыннай. Вярнуўся жывы, але аж да смерці яго пераследавала кляймо «палонны», што тады азначала ледзь не «здраднік». Пётр Старыкевіч памёр, так і не атрымаўшы прывілеяў, што мелі ветэраны.

Шкада, але ў кніжным варыянце аўтар адмовіўся ад апошніх пяці радкоў, якія ў вершы «І зноў вясна, і зноў сады цвітуць», мне здаецца, былі вельмі важнымі для самога І. Арабейкі:

*Як многа ў акіян сплыло вады!*
*Ды ёсць бальзам,*
*ёсць памяць пра былое.*
*І зноў вясна,*
*і зноў цвітуць сады.*
*Даруй, салдат,*
*што я маўчаў гады,*
*Што позна так раблю цябе*
*героем.*

А можа, іх выкрасліла рэдактарская рука?..

Іван Сяргеевіч, чалавек вясковы, ніколі з вёскай не развітваўся. Наведаўшы рэдакцыю, І. Арабейка неяк сказаў:

— Амаль усю зіму пражыў бязвыезна на дачы, што ў вёсцы Жыцін, за восем кіламетраў ад Жабінкі. Адзін, хоць ваўком вый! А вершы пішуцца…

Жыццёвыя факты, пра якія згадвае паэт, набываюць пад яго пяром мастацкую значнасць. У адным вершы «хаты зіма крые белай гонтай», у другім чуваць, як «над званіцай серабрыста аблокі звіняць», у трэцім — «сухі скразняк, які кот-свавольнік, салому драпае ў страсе» і г. д. Прыроджаную здольнасць бачыць вакол дзіўнае і прыгожае І. Арабейка спалучае з паэтычным майстэрствам, захоўваючы шчырую спавядальнасць перад чытачом.

Паэт часам эксперыментуе, дабіваючыся гукавога падабенства:

*Жывуць жукі, жуюць жукі*
*Пад Жабінкай у Жоры.*
*Жуюць, аж жах, як жабракі,*
*Інжыр, жамерыны, ражкі…*

А ў іншым вершы, пра Сёмуху, аўтар аддае перавагу зычным гукам «р» і «с», галоснаму «о», каб падкрэсліць урачыстасць і пяшчоту «зялёнага» свята:

*Рожкамі промень росы абтрос.*
*Сёмуха, Сёмуха —*
*свята бяроз!*

Цяпер паэт увесь час жыве ў Жыціне. Займаецца гаспадаркай і, канечне, піша вершы.

*Цаню спакой і цішыню.*
*У вёсцы болей сонца, неба.*
*Ля печы сядзеш, ля агню, —*
*Ніякіх скарбаў і не трэба.*
*Не думайце, што я астыў,*
*Што крах, закончана дарога.*
*Манаха кліча манастыр,*
*А мне вось тут бліжэй да Бога.*

Івану Арабейку ёсць што сказаць свайму чытачу!

**Расціслаў БЕНЗЯРУК**

# Колас прадказаў смерць Мікалая II?

**На праваслаўныя Каляды 1919 года (25.12.1918 па старым стылі) Якуб Колас паставіў кропку ў напісанні «казкі жыцця», якая вылілася ў цэлую паэму — «Сымон-музыка». Праўда, аўтар толькі думаў, што паставіў кропку. Праз некалькі гадоў жыццё прымусіла перапісаць «Сымона». Зрэшты, гэта іншая тэма. Мы ж звернем увагу на вобразнасць твора.**

У іншасказальнасці паэмы ніхто не сумняваецца, пра гэта гаварылася не адзін раз і рознымі (перадусім сучаснымі) даследчыкамі. Аднак, як правіла, усё зводзілася да таго, што ў галоўнай гераіні Ганне бачылі сімвал Беларусі, а ў Сымоне — мастака ў шырокім сэнсе, які не знаходзіць разумення ў народзе.

Прафесар М. Мушынскі ва ўступе да новага Збору твораў Якуба Коласа прамовіў — агульна, але метадалагічна верна: «Калі ацэньваць паэму, маючы на ўвазе нават толькі яе фінальныя раздзелы, дык можна зрабіць вывад, што перад намі глыбока праўдзівы твор, у якім сродкамі паэтычнай мовы, у сімволіка-іншасказальнай форме ўзноўлена рэчаіснасць перыяду рэвалюцыі, выказаны адносіны паэта-гуманіста да падзей, якія тады адбываліся ў беларускім краі».

І гэта праўда. Сведчаннем таму — сам факт аднаўлення працы над паэмай.


Песня змоўкла, ціха стала,
Засьвятлелася кругом,
І ў паветры задрыжала
Палымяная гонія.. Бом!
Звоніць звон стары, паважны,
Зовы даўнія ўстаюць;
Ціхім сумам ахавіты,
Мары вобразы плывуць
Удар дзесь вышэй [illegible]
І навадзяць нейкі знак,
Бы чуваць, то падбіваюць
Зноў Сымона яны ў даль.
Спіць Сымон, і змоўкні струны
Да пары ці не саўсім?
І цяне дарогі-карціны,
С прыпынкам круціцца пад ім.
Не! ён устане, ён ачнецца,
Кроў ці спадчыну свой Сымон
Ка шырокі шлях прабецца,
Хоць ма [illegible] будзе сам,

12—25/XII 1918 г.
с. Ліновец.

## СЫМОН І РЭВАЛЮЦЫЯ

Дата напісання першага раздзела трэцяй часткі паэмы — 3 — 7 лістапада 1917 г., г. зн. аўтар паклаў радкі на паперу адразу пасля прыходу да ўлады бальшавікоў. Супадзенне? Рэвалюцыйныя падзеі, відавочна, каталізавалі нацыянальныя перажыванні паэта. Таму ён вярнуўся — пасля зацяжнога, больш чым чатырохгадовага перапынку! — да недапісанай «казкі жыцця». Прычым храналогія дзеяння ў паэме арганічна спалучаецца з рэальнай гісторыяй і жыццём аўтара. У прыватнасці:

*Дні ішлі, за летам — лета,*
*Вот і трэці год мінаў;*
*Ў соку сілаў, іх расквета*
*Тут Сымонка зачынаў*
*Год чацвёрты, год трывогі.*

Ці выпадковым супадзеннем з'яўляецца адпаведнасць часу Коласавых блуканняў на пачатку Першай сусветнай вайны з адысеяй Сымонкі? Пэўна, што не. Прычым чацвёрты год быў для галоўнага героя паэмы не толькі «годам трывогі», але, як гаворыцца ў творы,

*То была душы пара,*
*Той зварот жыцця дарогі,*
*Тая светлая зара,*
*Што дарогу усціліаюць —*
*Мары тканнем залатым,*
*Ў цвет ружовы убіраюць*
*Даль, удачы абяцаюць*
*Парываням маладым…*

У чым бачацца — а ішоў люты 1918 года! — надзеі беларускіх патрыётаў на працяг Адраджэння — аж да ўсталявання незалежнасці краіны, бо

*…Для панскае пацехі*
*І для забаўкі паноў*
*Вы, саломенныя стрэхі,*
*Марна трациц сыноў!*

Гэтым самым Якуб Колас намякае на палаючую імперыялістычную вайну, у полымі якой гінулі згаданыя сыны саламяных стрэх — дзеці Беларусі. А каб зусім не пакінуць сумненняў ва ўдумлівага чытача, аўтар вуснамі свайго героя рытарычна ўсклікае:

*І чаму я марна трачу*
*Між чужынцаў дні свае?*

Тут — ясны намёк (праз ужыванне характэрнай для Коласавай творчасці таго часу лексемы «чужынцы») на сваё знаходжанне ў нялюбай сэрцу паэта расійскай глыбінцы — на Куршчыне, «сярод чужаніц».

## ЯК ГАННУ БРАЛІ ЗАМУЖ

Язэп Лёсік, разважаючы пра паэму «Новая зямля» ў 1922 годзе, кажа: «…Харэство, багацце і рознастайнасць нашае айчыны выступае ў поэме перад усім культурным сьветам першы раз і прымушае сказаць, што Беларусь бясспрэчна «красавіца невеста», хоць і **без пасагу**, як некалі казаў міністр маскоўскага цара Мікалая I, Навасільцаў…» (падкрэслена намі. — **А. Т.**). А ў паэме «Сымон-музыка» чытаем пра Ганну:

*Выйшла б замуж, каб хацела.*
*Толькі варт ёй пажадаць,*
*Бо ахвочых многа мела*
***Без пасагу** нават ўзяць.*

Не выключана, што выраз царскага міністра быў вядомы ў колах маладых беларускіх інтэлектуалаў. У такім выпадку падаецца абгрунтаваным дапушчэнне, што Якуб Колас ужывае працытаваныя тут радкі мэтанакіравана — як свядомую алюзію.

Яшчэ адзін герой — хцівы, юрлівы Дамянік, які з'яўляецца, як Піліп з канапель, у III раздзеле V часткі, — метафара бальшавіка як тыпу і бальшавіцкай улады ў цэлым, якая марыць авалодаць Беларуссю, якую, у сваю чаргу, увасабляе Ганна (зрэшты, гэты тэзіс-расшыфроўка — вядомы для коласазнаўцаў факт). Дамянікава задума не ўдаецца. І якраз падчас напісання тых радкоў бальшавікі сыходзілі з «Заходняй вобласці», як яны называлі Беларусь. У сувязі з гэтым М. Мушынскі справядліва заўважае: «Даследчыкі з беларускага замежжа (пэўна, перадусім на ўвазе маецца Антон Адамовіч. — **А. Т.**) імя Дамянік адкрыта звязваюць са словам *бальшавік* і ўскладаюць на апошняга віну ў смерці Ганны-Беларусі. Разважанні ў гэтым кірунку істотна паглыбляюць нацыянальны аспект праблемы, якая тут разглядаецца».

Падобныя супадзенні асобных фрагментаў Коласавых твораў з сацыяльна-палітычным кантэкстам можна было б лічыць спарадычнымі, калі б яны не мелі настолькі канцэптуальнага і сістэматычнага характару.

## ПРАРОЦТВЫ КОЛАСА

Прывядзём яшчэ некалькі прыкладаў з трох частак паэмы «Сымон-музыка».

1. Замак (IV частка і першыя два раздзелы V часткі, напісаныя ў канцы 1917 — пачатку 1918 г.) бачыцца вобразам «турмы народаў» Расіі, якая ўрэшце разбураецца; тым часам шмат краін абвесціла дзяржаўны суверэнітэт, у прыватнасці, Украіна, Польшча, Літва, Латвія — непасрэдныя суседзі Беларусі.

2. Уладальнік замка — князь, які памірае, паранены, — уяўляецца забітым бальшавікамі царом Мікалаем II (у гэтым пасажы маем яшчэ і правідэнцыяльнасць Коласавага генія, бо насамрэч цар будзе расстраляны толькі праз паўгода пасля напісання ўказаных радкоў).

3. Прадказанне дзеда Данілы пра народныя бедствы пасля смерці князя — «Ну, цяпер разруха пойдзе…», якія сапраўды разгуляліся на прасторы былой Расійскай імперыі адразу пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі; разбурэнне панскага замка павінна было стаць цалкам пазітыўнай падзеяй для народа, аднак насамрэч распачалася грамадзянская вайна...

4. Вольналюбівая пташка з песні Сымона, якая сядзіць у клетцы «пад апекай нелюбою», аднак «волю пачувае» (першы раздзел V часткі, студзень 1918 г.), — яшчэ адна метафара Беларусі, якая ўсё мацней праяўляла імкненне да нацыянальнай самастойнасці.

У так званай трэцяй рэдакцыі ўсе алегорыі засталіся, за выключэннем адной — песні пра імкненне пташкі да волі. Чаму яе знялі, як і яшчэ адну песню Сымона, названую літаратуразнаўцамі «Одай творчасці»? Але калі з «одай» «Божы Дух вітаў у высі…» ўсё зразумела — яна прасякнутая ад пачатку да канца рэлігійнымі матывамі, — дык песня пташкі выглядае нейтральна і можа выклікаць падазрэнні хіба ў святле алюзіі на Беларусь. А гэта ўжо крамола з пункту гледжання новай улады.

«Увесь гэты згустак квінтэсенцыі нацыянальнага адраджэнства, пададзены на працягу няпоўнае сотні вершаваных радкоў, у высокім і моцным тоне нябывалага лірычнага патасу заправды ўнікальны ў Коласа, дый наагул няшмат роўнага сабе мае ў цэлай адраджэнскай паэзіі», — піша А. Адамовіч пра ўступ да III часткі паэмы «Сымон-музыка», але тое ж можна сказаць пра ўсе тры часткі твора, напісаныя пасля прыходу да ўлады бальшавікоў.

Ступень алегарычнасці паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка» на практыцы яшчэ не раскрыта. Прыклады, прыведзеныя намі, дэманструюць, што аўтар удала «замаскіраваў» многія элементы і факты тагачаснага грамадскага і асабістага жыцця. Думаецца, іншым разам прыхоўваў свой погляд на пэўныя рэаліі міжволі, на ўзроўні падсвядомага, што падаецца вельмі справядлівым датычна прароцтваў.

**Анатоль ТРАФІМЧЫК,**
**рукапіс прадастаўлены Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеем Якуба Коласа**

# Ад шолаху лістоты…



Алесь Бельскі неяк сказаў: «Паэтычныя зборнікі Уладзіміра Марука для мяне сталі адным, якія часта бяру ў рукі з кніжнай паліцы. Радок паэта прываблівае сваёй пачуццёвай глыбінёй, музыкай слова…»

Уладзімір Антонавіч нарадзіўся 6 студзеня 1954 года ў вёсцы Гута Ганцавіцкага раёна, у сялянскай сям'і. Вучыўся ў Гуцянскай і Нацкай сярэдніх школах, затым — у Маўчадскай сярэдняй школе-інтэрнаце. У 1970 г. паступіў у Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум. Вучоба там спрыяла творчаму станаўленню будучага лірыка. У гэты перыяд (1972 г.) у газеце «Магілёўская праўда» былі апублікаваны яго першыя вершы «Беларусі», «Працаваць і гаспадарыць…», «Пазасланалі хмары ўсе шляхі…»

Выпускнік бібліятэчнага тэхнікума, У. Марук шмат працаваў з кнігамі, і гэта ўсё больш захоўвала маладога паэта на стварэнне новых вершаў. У 1974 годзе ў часопісе «Маладосць» ён надрукаваў паэтычную падборку якая пацвердзіла паэтычны талент лірыка.

Жаданне пісаць прывяло У. Марука на філалагічны факультэт БДУ (1975 — 1980). На першым курсе хлопец пазнаёміўся з Алесем Пісьмянковым, і з цягам часу яны сталі сапраўднымі сябрамі. Падчас вучобы Уладзімір быў старастам літаратурнага аб'яднання, кіраўнік якога, Алесь Лойка, дапамог пачаткоўцу знайсці свой мастацкі накірунак. У «філфакаўскі» перыяд У. Марук друкаваўся ў газетах «Чырвоная змена», «Мінская праўда», «Знамя юности», часопісе «Маладосць».

Павыкладаўшы адзін год беларускую мову і літаратуру ў школе, ён усё ж вырашыў пайсці ў журналістыку: з 1981 года — карэспандэнт, загадчык аддзела літаратуры і мастацтва газеты «Звязда». А з 1986 года — рэдактар, загадчык рэдакцыі выдавецтва «Юнацтва». Потым працаваў рэдактарам выдавецтва «Белфакс», у апошнія гады жыцця займаў пасаду намесніка галоўнага рэдактара часопіса « Полымя».

Увесь час Уладзімір Антонавіч займаўся перакладамі — з рускай, армянскай, узбекскай, туркменскай моў. Але ў беларускай літаратуры ён вядомы найперш як паэт. Лірыку Уладзіміра Антонавіча даследчыкі называюць «лірыкай у жывапісе». У кожным зборніку — «Зоркі ў кронах» (1982), «Ліст рабіне» (1987), «Інкрустацыя галасам» (1991) — ён з захапленнем вымалёўвае пейзажы, уважліва прыслухоўваецца да шолаху лістоты, якая «як душа, прасвечваецца»; ён адчувае жывыя карані пракаветных палескіх сосен, якія, спадзеюцца паэт, вечныя, як само жыццё. Узаемасувязь чалавека і прыроды — самае галоўнае для паэта.

Уладзімір Антонавіч пісаў і дзіцячыя кнігі — «Ехаў Чыж у Парыж» (1994) і «Чыж вярнуўся з-за мяжы» (2004).

Аднак найбольшай увагі заслугоўвае апошні зборнік «Кудмень» (2011), над якім паэт працаваў пры жыцці, але, на жаль, так і не ўбачыў надрукаваным.

Назва зборніка гаворыць сама за сябе: кудмень — гэта абярэг, амулет, замова ад нядобрага і бездухоўнага, усяго таго, што ганьбіць чалавека. Творы са зборніка «Кудмень» успрымаюцца асабліва, можа і таму, што аўтара няма з намі. Чытаючы, шукаеш падтэкст — недагаворанае, недапісанае…

Уладзімір Марук застаўся ў беларускай літаратуры як цікавы, самабытны паэт, патрабавальны да слова. Паэт прыроды, «лірычнага слова жыцця».

**Наталля ШЛЯЖКА**

# Па палескім узоры

Звычайна, дамаўляючыся з якой-небудзь творчай асобай наконт інтэрв'ю, чакаеш адкрытую размову ў звыклай абстаноўцы кшталту «стол, стул — суразмоўца». Пасля сустрэчы з таленавітай сям'ёй графіка Уладзіміра Васюка і кераміста Тамары Васюк, з нагоды чарговага юбілею іх творчай дзейнасці, мае ўяўленні змяніліся кардынальна. Ветлівыя, лагодныя, паважлівыя да суразмоўцы людзі — сапраўдныя палешукі.

Фота Кастуся Дробава



## КАРАНІ

— Мы на сто працэнтаў вясковыя, хоць ужо 45 год, як жывём у сталіцы, — пачынае расповед пра сваю сям'ю Тамара Іванаўна. — У нас багата агульнага. Напрыклад, месца нараджэння. Адночы глядзелі па карце на размяшчэнне вёсак — трапілі на адзін мерыдыян. Бацькі нашыя прайшлі праз цяжкі ваенны час. Дзяцей у сем'ях было таксама багата (7 — 8): і я, і Уладзімір Уладзіміравіч — «падскрэбышы» — перадапошнія *(Смяецца.)* У абодвух асноўныя жыццёвыя цаглінкі закладзены Гомельшчынай, не настаўніцкім — звычайным сялянскім асяроддзем, што вельмі істотна.

Быў у маім жыцці выпадак. Я займалася жывапісам у Палацы піянераў. На той час патрапіць з вёскі ў абласную мастацкую студыю было цяжка. Валянцін Пакаташкін, мудры кіраўнік, педагагічны дэвіз якога — «не нашкодзь!», падрыхтаваў за сваю выкладчыцкую дзейнасць больш як тысячу яскравых мастакоў. Ён прапанаваў мне перадаць праз школу на раённую, а затым і на абласную выстаўку некалькі сваіх работ. У дзень адкрыцця вернісажу ў Румянцаўскім парку мы знайшлі мае работы за подпісам дачкі школьнай настаўніцы. Прайшло багата часу, розумам я даравала, але павітацца з тымі людзьмі і па сёння не магу. Далёка не настаўніцкі гэта быў учынак. Напэўна, адна з хібаў характару палешукоў — здраду ніколі не даравацца!



Тамара Васюк «Хмарка», 2006. Гліна, аксіды.

## «ВЫ АЖЭНІЦЕСЯ…»

— Калі паступала ў Мінскае мастацкае вучылішча імя А. К. Глебава, думала, буду жывапісцам. Я і цяпер люблю як жывапіс, так і графіку. Дарэчы, некалі спрабавала сваё майстэрства ў апошняй, але мая графіка жывапісная: больш мяккая. А ў мужа — графічная графіка: з дакладнай, выразнай лініяй. Парадокс у тым, што Уладзімір Уладзіміравіч спачатку заканчваў аддзяленне керамікі.

Муж старэйшы за мяне на пяць гадоў, але паколькі ён служыў у войску, то ў вучылішча мы трапілі ў адзін час. Як былы салдат Уладзімір Уладзіміравіч вылучаўся выпраўкай, кароткай стрыжкай і ўзростам. Заўсёды выконваў арганізатарскія функцыі, дапамагаў выкладчыку фізічнай культуры. Ужо напрыканцы трэцяга курса мы сталі сустракацца больш, але, па прычыне прафесійных пытанняў, разам з групай. Адзін з лепшых выкладчыкаў Леанід Дубар, які прызнаваў мастацтва ва ўсіх праявах (шкло, кераміка, жывапіс), аднойчы, пагладзеўшы на нас, сказаў: «Вы ажэніцеся».

— Пасля так і адбылося, — працягвае гутарку Уладзімір Васюк. — Скончылі вучылішча — падалі заяву ў загс і адразу пайшлі здаваць уступныя іспыты ў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Я з першага разу не паступіў: конкурс каля 50 чалавек на месца, а набіралі ўсяго пяць студэнтаў плюс шосты, запасны.

Нашыя бацькі атрымлівалі мізэрную пенсію, таму мы вучыліся і працавалі адначасова. Разам з Тамарай Іванаўнай былі афарміцелямі ў Ленінскай бібліятэцы. Там — майстэрня са столлю ў пяць метраў, да таго яшчэ і доступ да архіўных матэрыялаў і кніг: скарынінскія стaрадрукі, літаратура па мастацтве і інш.



Уладзімір Васюк «Старавіленскі тракт», 2009. Папера, аловак.

## АДКУЛЬ ПАЧАТАК?

— Напрыканцы XX стагоддзя маё жаданне рэзка павярнуць у кераміцы ад класічнай акадэмічнасці да творчай узнікла само па сабе. Пераход пачаўся яшчэ ў вучылішчы. Акадэмічнасць і творчасць — дзве зусім розныя дзялянкі, яны ідуць поплеч, але творчая кераміка — як звышзадача. Я пачала афармляць бібліятэкі, дзіцячыя садкі, дарэчы, менавіта ад апошніх у маіх работах узнікла анімалістыка.

Сёння даводзіцца тлумачыць, што ёсць кераміка вытворчая, фабрычная — для гэтага існуе ААТ «Керамін», там шматтыражнасць, архітэктурнасць. А народнае ганчарства, якое было прамысловым раней, цяпер стала ручной работай, дробнасерыйнай або цалкам аўтарскай, творчай.

Сёння я раблю свае мастацкія творы толькі па жаданні. Магчыма, і хацелася б часам на заказ, але патрэбны заказчык, які даваў бы табе поўнасцю. Тады ніхто нічога не будзе дыктаваць.

Тэму мастацкай творчасці і перагляду асабістай канцэпцыі падтрымаў Уладзімір Уладзіміравіч: «У канцы 80-х — 90-я гг. XX ст. у нас пачалося сваё Адраджэнне. У серыі «Славутыя асобы нашай Радзімы» мы рабілі творы з выявамі славутых дзеячаў культуры: мастакоў, архітэктараў — Міколы Гусоўскага, Еўфрасінні Полацкай, Сімяона Полацкага і інш. Гэта паўплывала на далейшае станаўленне тэматыкі ў творчасці.

Акрамя графікі я працаваў у жанры «плаката». Раней было шмат заказаў, сёння раблю рэдка. Гэта аператыўны жанр: трэба валодаць спецыяльнымі тэхналогіямі, якіх у мяне няма. Акрамя таго, у станковай графіцы гэта перашкаджае. Між тым у графіцы можна больш рэалізавацца, перанесці на палатно свае філасофскія абагульненні».

## ТВОРЧАЯ СЯМ'Я — ГЭТА КЛАСНА!

— Змяняецца час, людзі — гэта адлюстроўваецца і ў работах. Студэнты цяпер больш раскручаныя, выкарыстоўваюць тэхналогіі ў вучэбным працэсе. Раней мы ўсё рабілі сваімі рукамі, — заўважае Уладзімір Васюк. — На занятках прыкладаю ўсе намаганні, каб навучыць студэнтаў пэўным мастацкім прыёмам, наладжваю выстаўкі з іх удзелам. Ды і сам пераймаю нешта — прыкладам, рацыяналізм.

Што да адносін у творчай сям'і… Добра разумеем адно аднаго, раімся, падглядаем тэмы работ. Але і адмоўнага хапае: шмат часу занятыя пасобку. Бывае, Тамара Іванаўна вячэру не гатуе. Двум творцам заўсёды складана разам — і яна, і я ў пошуку. Калі нешта атрымліваецца — мір у сям'і, не — яна вінавата *(смяецца).* Не кожны зможа знайсці раўнавагу, але я вам скажу: творчая сям'я — гэта класна!

**Таццяна ШЫМУК**

### Даведка «ЛіМа»

*З нагоды 40-годдзя творчай дзейнасці таленавітай сямейнай пары Уладзіміра і Тамары Васюк у цэнтральнай зале Мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага да 12 студзеня працуе сумесная выстаўка творцаў «Лінія і форма».*

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»
Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by
Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2531.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 30.12.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 21.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686